

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

### САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
### і
### САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК.

---

### ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
### РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
### САЮЗУ ССР.

**№ 10.**




АРТЫКУЛЫ
296—311.


ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР.
Масква ◊ 1923 ◊ Крэмль.


ПРОЛЕТАРИИ ВСЕХ СТРАН, СОЕДИНЯЙТЕСЬ
ПРОЛЕТАРІ ВСІХ КРАЇН, ЄДНАЙТЕСЯ!
ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ

# АД РЭДАКЦЫІ ВЕСЬНІКУ РАБОЧАГА І СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ САЮЗУ ССР.

На падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 27 ліпеня г. г., выдаецца афіцыяльны ўрадовы орган «*Весьнік Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік*», у якім, шляхам заканадаўчага агалашэньня, друкуюцца ўсе дэкрэты і пастановы рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР на шасьцёх мовах: расейскай, украінскай беларускай, грузінскай, армянскай і тюрка-татарскай (арт. 34 Констытуцыі Саюзу ССР).

Маючы на ўвазе забясьпечыць усе органы Рэспублікі офіцыальным выданьнем пастановаў і загадаў рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР і зрабіць «Весьнік» настольным падсобнікам для ўсіх установаў, Сэкратарыят ЎЦВК, ту у выкананьне паданае вышэй пастановы, на пасяджэньні 17 верасьню г. г. пастанавіу прызнаць абавязковай падпіску на «*Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР*» для губэрскіх выканкамаў у колькасьці ня менш 10 экзэмпляраў, для павятовых выканкамаў — 5 экзэмпляраў і для валасных выканкамаў—1 экзэмпляр.

Дзеля паказанага, Рэдакцыя «Весьніку Ўраду» прыступіла да рассылкі вышаўшых №№ 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9 і 10 «Весьніку» паказаным выканкамам. Што тычыцца іншых дзяржаўных органаў і установаў, дык Рэдакцыя пачне разсылку «Весьніку» толькі пасьля атрыманьня ад іх адпаведных заказаў, у якіх павінна быць паказана: 1) пэўны адрас, водлуг якога належыць высылаць «Весьнік Ўраду», 2) колькасьць выпісваемых экзэмпляраў, 3) на якой з пералічаных вышэй моваў падпісчык жадае атрымоўваць «Весьнік» і 4) на які тэрмін утвараецца падпіска.

Усе заказы на «*Весьнік Ўраду*», а так сама і падпісныя грошы належыць накіроўваць на адрас: *Москва, Тверская, 48, Главная Контора «Известий ЦИК Союза ССР и ВЦИК»*.

Умовы перадплаты паказаны ў абвестцы, зьмешчанай на 3-й старонцы вокладкі «Весьніку».

Масква, Крэмль.



# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## і
## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК



## ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
### РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
### САЮЗУ ССР

№ 10.

АРТЫКУЛЫ 296—311.



ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква ◇ 1923 ◇ Крэмль.

# ЗЬМЕСТ.

## I.

### Пастановы і загады Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.



# ПАСТАНОВЫ ЗАГАДЫ

## ПРЭЗЫДЫУМУ

# Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

### 296. Наконт дзяржаўнага сьцягу Саюзу ССР.

З'іначаньнем артыкулу 71 Аснаўнога Закону Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік (Весьнік ЦВК, РНК і РПА, № 2, арт. 45), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт **пастанаўляе:**

Дзяржаўны сьцяг Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік складаецца з чырвонае або ірдзелявае тканіны, з выяўленьнем на яе верхнім рагу каля дрэўца залатых сярпа і молату і над імі чырвонай пяцёхкантовай зоркі, абваколенай залатым шлякам. Адносіна шырыні да даўжыні 1 : 2.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

14 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

### 297. Палажэньне аб Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

ПАДЗЕЛ I.

**Агульныя палажэньні.**

**1.** Склад і прадметы веданьня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік вызначаюцца Аснаўным Законам (Канстытуцыяй) Саюзу ССР.

**2.** Паўнамоцтвы кожнага складу Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР пачынаюцца з моманту выбраньня Зьездам Саветаў Саюзу ССР Саюзнага Савету (арт. 14 Аснаўнога Закону Саюзу ССР) і зацьверджаньня Зьездам складу Савету Нацыянальнасьцяў (арт. 15 Аснаўнога Закону Саюзу ССР) і канчаюцца ў момант утварэньня новага складу Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**3.** Пасяджэньні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР адбываюцца праз сэсіі чарговыя і надзвычайныя.

**4.** Чарговыя сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР склікаюцца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР тры разы на год (арт. 21 Аснаўнога Закону Саюзу ССР).

**5.** Надзвычайныя сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР склікаюцца, водлуг арт. 21 Аснаўнога Закону Саюзу ССР, Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту згодна яго пастановы, згодна патрабаваньню Прэзыдыуму Саюзнага Савету або Прэзыдыуму Савету Нацыянальнасьцяў, а так сама згодна патрабаваньню цэнтральнага выканаўчага камітэту аднэй з саюзных рэспублік.

**6.** Парадак пасяджэньняў чарговых сэсіяў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР агалашаецца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР ў „Известиях" Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР не пазьней, чым за месяц да адчыненьня сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**7.** У выпадку назначэньня надзвычайных сэсіяў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, публікацыя аб гэтым можа быць утворана і без захаваньня паказанага ў арт. 6 гэтага палажэньня тэрміну.

**8.** Праца сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР адбываецца:

а) ў пасяджэньнях Саюзнага Савету;
б) ў пасяджэньнях Савету Нацыянальнасьцяў;
в) ў сумежных пасяджэньнях Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў.

**9.** Унутраны парадак працы сэсіяў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР вызначаецца рэглямантам, які выпрацоўваецца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і зацьверджаецца сэсіяй Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**10.** На першым пасяджэньні Цэнтральнаго Выканаў-

чага Камітэту Саюзу ССР утвараецца яго Прэзыдыум, згодна арт. арт. 25, 26 і 27 Аснаўнога Закону Саюзу ССР.

**11.** Кандыдаты ў сябры Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу ССР выбіраюцца ў колькасьці, якая вызначаецца на першым сумежным пасяджэньні Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў. Кандыдаты ў сябры Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, карыстаюцца, ў вызначанай чаргоўнасьці, правам рашучага голасу пры замяшчэньні адсутнічаючых сяброў Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

## ПАДЗЕЛ II.

### Аб Саюзным Савеце Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**12.** Склад і прадметы веданьня Саюзнага Савету вызначаюцца Аснаўным Законам Саюзу ССР.

**13.** Саюзны Савет засядае толькі ў часе сэсіяў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**14.** Для кворуму пасяджэньняў Саюзнага Савету патрэбна прысутнасьць ня меньш аднэй трэцяй сяброў Саюзнага Савету.

**15.** На першым пасяджэньні Саюзны Савет выбірае свой Прэзыдыум (арт. 25 Аснаўнога Закону Саюзу ССР), які вядзе падрыхтоўку да сэсіяў Саюзнага Савету і кіруе працаю апошніх.

**16.** Пасяджэньні Саюзнага Савету склікаюцца пастановамі яго Прэзыдыуму, а так сама Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**17.** Пытаньні на абгаворваньне Саюзнага Савету падаюцца як самым Саюзным Саветам і яго Прэзыдыумам, так і Саветам Нацыянальнасьцяў і яго Прэзыдыумам, а так сама Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР, паасобнымі народнымі камісарыятамі Саюзу ССР, цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі саюзных рэспублік, а так сама сябрамі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**18.** Пытаньні, ўвайшоўшыя на абгаворваньне Саюзнага Савету бяз Савету Нацыянальнасьцяў, па разглядзе гэных пытаньняў, перадаюцца ў Савет Нацыянальнасьцяў.

**19.** Пытаньні, ўзьнікаючыя ў парадку ініцыятывы Саюзнага Савету, уносяцца ім у Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту на яго заключэньне і накіраваньня ў абодва Саветы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР для наданьня законапроэкту заканадаўчай сілы (арт. 22 Аснаўнога Закону Саюзу ССР).

**20.** Пытаньні, прайшоўшыя цераз Савет Нацыянальнасьцяў, лічацца прынятымі Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу ССР канчаткова, калі пастановы Саюзнага Савету пагаджаюцца з пастановамі Савету Нацыянальнасьцяў. У гэтым выпадку пастановы Саюзнага Савету накіроўваюцца для выкананьня ў Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, як пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР. Пры рознагалосьсі Саветаў пастановы накіроўваюцца ў камісію ўлагоджаньня.

**21.** Саюзны Савет можа ўтвараць для разгляду паасобных пытаньняў тымчасовыя камісіі.

**22.** Усе зносіны Саюзнага Савету з савецкімі органамі і установамі адбываюцца цераз апарат Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**23.** Усе пытаньні Саюзным Саветам вырашаюцца адчыненым галасаваньнем і звычайнай большасьцю галасоў.

Увага. Пісьмовае галасаваньне вытвараецца толькі водлуг пісьмовае заявы ня меньш 30 сяброў Саюзнага Савету.

## ПАДЗЕЛ III.

### Аб Савеце Нацыянальнасьцяў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**24.** Склад і прадметы веданьня Савету Нацыянальнасьцяў вызначаюцца Аснаўным Законам Саюзу ССР.

**25.** Савет Нацыянальнасьцяў засядае толькі ў часе сэсіяў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**26.** Для кворуму пасяджэньняў Савету Нацыянальнасьцяў патрэбна налічча ня меньш аднэй трэцяй сяброў Савету Нацыянальнасьцяў.

**27.** На першым пасяджэньні Савет Нацыянальнасьцяў выбірае свой Прэзыдыум (арт. 25 Аснаўнога Закону Саюзу ССР), які вядзе падрыхтоўку да сэсіяў Савету Нацыянальнасьцяў і кіруе працаю апошніх.

**28.** Пасяджэньні Савету Нацыянальнасьцяў склікаюцца пастановамі яго Прэзыдыуму, а так сама Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**29.** Пытаньні на абгаворваньне Савету Нацыянальнасьцяў падаюцца як самым Саветам Нацыянальнасьцяў і яго Прэзыдыумам, так і Смюзным Саветам і яго Прэзыдыумам, а так сама Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР, паасобнымі народнымі камісарыятамі Саюзу ССР, цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі саюзных рэспублік, цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі аўтаномных рэспублік і краіннымі выканаўчымі камітэтамі аўтаномных краінаў, а так сама сябрамі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**30.** Пытаньні, ў выйшоўшыя на абгаворваньне Савету Нацыянальнасьцяў без Саюзнага Савету, пасьля разгляду гэных пытаньняў, перадаюцца ў Саюзны Савет.

**31.** Пытаньні, ўзьнікаючыя ў парадку ініцыятывы Савету Нацыянальнасьцяў, падаюцца ім у Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР на яго заключэньне і накіраваньня ў абодва Саветы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР для наданьня законапроэкту законадаўчай сілы (арт. 22 Аснаўнога Закону Саюзу ССР).

**32.** Пытаньні, прайшоўшыя цераз Саюзны Савет, лічацца прынятымі Цэнтральным Выканўчым Камітэтам Саюзу ССР канчаткова, калі пастановы Савету Нацыянальнасьцяў пагаджаюцца з пастановамі Саюзнага Савету. У гэтым выпадку пастановы Савету Нацыянальнасьцяў накіроўваюцца для выкананьня ў Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, як постановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР. Пры рознагалосьсі Саветаў пастановы накіроўваюцца ў камісію улагоджаньня.

**33.** Савет Нацыянальнасьцяў можа утвараць для разгляду паасобных пытаньняў тымчасовыя камісіі.

Увага. Калі ў камісіі разглядаюцца пытаньні, якія датычаць тых ці іншых саюзных рэспублік або тых ці іншых аўтаномных рэспублік і краінаў, дык у памянёную камісію ўводзіцца прадстаўнік адпаведнае рэспублікі ці краіны.

**34.** Усе зносіны Савету Нацыянальнасьцяў з савецкімі органамі і установамі вытвараюцца праз апарат Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**35.** Усе пытаньні Саветам Нацыянальнасьцяў вырашаюцца адчыненым галасаваньнем і звычайнаю большасьцю галасоў.

Увага. Паіменнае галасаваньне вытвараецца толькі водлуг пісьмовае заявы 10 сябраў Савету Нацыянальнасьцяў.

## ПАДЗЕЛ IV.

### Аб камісіі ўлагоджаньня Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў.

**36.** У выпадку рознагалосься між Саюзным Саветам і Саветам Нацыянальнасьцяў водлуг паданых законапроэктаў, гэтыя Саветы, на падставе арт. 23 Аснаўнога Закону Саюзу ССР, утвараюць у кажным асобным выпадку камісію ўлагоджаньня для умяркаваньня паўстаўшага між Саветамі рознагалосься.

**37.** Камісіі ўлагоджаньня ўтвараюцца з прадстаўнікоў Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяу, якія выбіраюцца імі ў роўным ліку сяброў.

**38.** Старшыні камісіяў улагоджаньня назначаюцца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, пры чым, калі старшыня назначаны не са складу камісіі ўлагоджаньня, дык ён карыстаецца ў гэтай камісіі толькі правам дарадчага голасу.

**39.** Пры дасягненьні згоды ў камісіі ўлагоджаньня, яе вырашэньне перадаецца на зацьверджаньне кожнага з Саветаў паасобку: Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў. Згода ў камісіі ўлагоджаньня лічыцца дасягнёнаю, калі прапазыцыя сабрала большасьць галасоў у прадстаўніцтве кожнага з Саветаў у асобку.

Пры недасягненьні згоды ў камісіі ўлагоджаньня пытаньне, на падставе арт. 24 Аснаўнога Закону Саюзу ССР, пераносіцца на разгляд сумежнага пасяджэньня Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў

**40.** Камісіі ўлагоджаньня ў сваёй працы карыстаюцца апаратам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

## ПАДЗЕЛ V.

### Аб сумежным пасяджэньні Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**41.** Для кворуму сумежнага пасяджэньня Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў патрабуецца наліччa кворумаў Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў (арт. арт. 14 і 26 гэтага палажэньня).

**42.** На сумежным пасяджэньні Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў старшынствуе адзін са старшынь Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**43.** Галасаваньне на сумежным пасяджэньні Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў вытвараецца асобна Саюзным Саветам і Саветам Нацыянальнасьцяў.

**44.** У выпадку рознагалосьсяў між большасьцю Савету і большасьцю Савету Нацыянальнасьцяў у сумежным пасяджэньні, спрэчнае пытаньне водлуг патрабаваньня аднаго з Саветаў, перадаецца на вырашэньне Зьезду Саветаў Саюзу ССР (арт. 24 Аснаўнога Закону Саюзу ССР).

## ПАДЗЕЛ VI.

### Аб утварэньні цэнтральных органаў улады Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

**45.** Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР утварае Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР у колькасьці 21 сябры, ў лік якіх уваходзяць у поўным складзе Прэзыдыумы Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў, выбірае водлуг ліку саюзных рэспублік 4 старшынь і сэкратара Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР; утварае, згодна арт. 37 Аснаўнога Закону Саюзу ССР, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР у складзе старшыні Савету Народных Камісараў Саюзу ССР, яго намесьнікаў і народных камісараў Саюзу ССР.

## ПАДЗЕЛ VII.

### Аб Прэзыдыуме Центральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**46.** Склад і прадметы веданьня Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР вызначаюцца арт. арт. 26—36 Аснаўнога Закону Саюзу ССР.

**47.** Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР наглядае за ажыцьцяўленьнем Аснаўнога Закону Саюзу ССР і выкананьнем усіх пастановаў Зьездаў Саветаў і Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР усімі органамі ўлады Саюзу ССР.

48. Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР падрыхтоўвае ўсе матар'ялы для пасяджэньняў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і падае пытаньні на разгляд апошняга, згодна Аснаўнога Закону Саюзу ССР.

**49.** Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР выдае дэкрэты, пастановы і загады, разглядае і зацьвярджае проэкты дэкрэтаў і пастановаў, якія падаюцца Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР, паасобнымі ведамствамі Саюзу ССР, цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі саюзных рэспублік і іх прэзыдымамі і іншымі органамі ўлады.

Увага. Паасобныя ведамствы Саюзу ССР падаюць у Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР проэкты дэкрэтаў і пастановаў праз Савет Народных Камісараў Саюзу ССР.

**50.** Усе пытаньні, якія падаюцца паказанымі ў прадлеглым артыкулу установамі, павінны мець подпіс старшыні або кіраўніка (ці іх намесьнікаў), ад імя якога падаецца пытаньне.

**51.** Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР мае права касаваць пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

**52.** Усе дэкрэты і пастановы, вызначаючыя агуль-

ныя нормы палітычнага і экономічнага жыцьця Саюзу ССР, а так сама ўносячыя грунтоўныя зьмены ў існуючую практыку дзяржаўных органаў Саюзу ССР, так сама і кодэксы законаў, абавязкова павінны ўвасходзіць на разгляд і зацьверджаньне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

Увага. У выключных выпадках памянёныя ў гэтым артыкуле пытаньні могуць вырашацца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР з наступным паданьнем на зацьверджаньне сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**53.** Пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР могуць быць апратаставанымі ў сэсію Цэнтральнага Выканаўчага камітэту Саюзу ССР як Прэзыдыумамі Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў, так і цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі саюзных рэспублік.

**54.** Усе проэкты, ўвасходзячыя на разгляд Цэнтральнага Выканаўчага камітэту Саюзу ССР, накіроўваюцца яго, Прэзыдыумам у Прэзыдыумы Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў (арт. 25 Аснаўнога Закону Саюзу ССР).

**55.** Пытаньні, якія перадаюцца Саюзным Саветам і Саветам Нацыянальнасьцяў на разгляд Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, а так сама падаюцца цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі саюзных рэспублік ці іх прэзыдыумамі, разглядаюцца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР безпасрэдна ці перадаюцца ім на папярэдні тэрміновы разгляд Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ці на папярэдняе тэрміновае заключэньне зацікаўленым ведамствам.

**56.** Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Саюзу ССР і яго Прэзыдыуму належыць, згодна арт. 1 Аснаўнога Закону Саюзу ССР, права амністыі, пашыраемае на ўвесь абшар Саюзу ССР, і права памілаваньня па асобных справах, якія разбіраліся судовымі ці адміністрацыйнымі органамі Саюзу ССР.

Увага. Права амністыі, а так сама права памілаваньня і рэабілітацыі па асобных справах, якія разбіраліся судовымі ці адміністрацыйнымі органамі саюзных рэспублік, належыць, водлуг арт. 69 Аснаўнога Закону Саюзу ССР, цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублік ці іх прэзыдыумам.

**57.** Парадак паданьня на разгляд Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР пытаньняў аб амністыі і памілаваньні вызначаецца асобнаю пастановаю Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**58.** На пасяджэньнях Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР прымаюць удзел з дарадчым голасам прадстаўнікі саюзных рэспублік і водлуг пытаньняў паасобных аўтаномных рэспублік і краін іх прадстаўнікі, а так сама могуць прымаць удзел і іншыя асобы, водлуг асобных пастановаў Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**59.** Зносіны з усімі дзяржаўнымі установамі і ведамствамі ад імя Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР вядуцца Старшынёю і сэкратаром Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**60.** Увесь сэкратарскі і тэхнічны апарат Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР знаходзіцца ў веданьні і пад кіраўніцтвам сэкратара Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

## ПАДЗЕЛ VIII.

### Аб старшынях Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік.

**61.** Старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР выбіраюцца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу ССР (арт. 27 Аснаўнога Закону Саюзу ССР і арт. 45 гэтага палажэньня).

**62.** Старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР выконваюць свае абавязкі па чарзе. Чарга і тэрмін выкананьня абавязкаў між Старшынямі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР вызначаюцца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

У выпадку ад'езду Старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР ў кругабег выкананьня ім функцыяў старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, абавязкі яго выконвае адзін са Старшынь, знаходзячыхся ў Маскве, або адзін з сяброў Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР водлуг назначэньня апошняга.

**63.** Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту дзейнічае ў межах паўнамоцтваў, паданых старшыне Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, і ад імя апошняга прымае неабходныя заходы загаднага характару, даводзячы аб іх да вядомкі Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР на бліжэйшым пасяджэньні.

**64.** Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР старшынствуе ў Прэзыдыуме Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і на сумежных пасяджэньнях Саюзнаго Савету і Савету Нацыянальнасьцяў.

## ПАДЗЕЛ IX.

### Аб сяброх Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік.

**65.** Сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР маюць права законадаўчае ініцыятывы і запытаньня як у Саюзным Савеце і Савеце Нацыянальнасьцяў, так і на сумежных пасяджэньнях Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў.

**66.** Сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР маюць права прысутнічаць на пасяджэньнях Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**67.** Сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР карыстаюцца дарадчым голасам на ўсіх пасяджэньнях цэнтральных выканаўчых камітэтаў саюзных рэспублік, а так сама на ўсіх пасяджэньнях цэнтральных і мяйсцовых савецкіх установаў у межах Саюзу ССР.

Увага. Прысутнічаньне на патайных пасяджэньнях адбываецца толькі водлуг асобнага ўпаўнаважаньня Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**68.** Усе сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР маюць вольны ўваход без чаргі у ва ўсе савецкія установы на абшары Саюзу ССР пасьля прад'яўленьня сваіх мандатаў і могуць ва ўсіх савецкіх установах атрымоўваць патрэбныя ім спраўкі. Патайныя довады сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту могуць атрымоўваць толькі водлуг асобнага ўпаўнаважаньня Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**69.** Справы аб злачынствах ці службовых упушчэньнях сяброў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР могуць быць пачаты вытварэньнем толькі з дазволу Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

Увага. У выпадках, калі пытаньнэ аб прыцягненьні сяброў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР да судовай адказнасьці узьнялося пры вытварэньні сьледственай уладай расьледаваньняў па справах асобаў, якія не зьяўляюцца сябрамі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, ісхадатайнічаньне ў Прэзыдыуме Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР дазволу на разпачатак справы павінна мець мейсца ў момант выявіўшайся патрэбы прыцягненьня сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР да адказнасьці ў якасьці абвінавачваемага, пры чым адначасова павінен быць паданым падрабязговы даклад аб усіх акалічнасьцях справы.

**70.** Сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР выклікаюцца для дапросу ў якасьці сьведак судовымі ці адміністрацыйнымі ўладамі ў агульным парадку.

У выпадку немагчымасьці зьявіцца, сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, паведамляючы аб прычынах свае неяўкі, могуць прасіць аб дапросе іх на мейсцы іх службы або дома.

У асабіста выключных выпадках, калі сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР водлуг тых ці іншых мотываў прызнаюць для сябе немагчымым дачу паказаньняў, яны павінны паведаміць аб гэтым сьледственыя ўлады і адначасова Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР з довадамі мотываў свайго адмаўленьня.

**71.** Органы судова-сьледственай улады не маюць права ўжываць у адносінах сяброў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР прадгледжаныя адпаведнымі артыкуламі карна-процэсуальных кодэксаў саюзных рэспублік заходы супроць неяўкі сьведак і павінны зьвярнуцца ў Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР за патрэбнымі кірункамі.

**72.** Сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР ня могуць быць подвергнуты арэсту і затрыманьню і обыску і агляду судовымі ці адміністрацыйнымі органамі без адумысловае пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

У асобна экстраных выпадках гэткае затрыманьне можа мець мейсца са згоды старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, з наступным яго дакладам аб сваім загадзе на бліжэйшым пасяджэньні Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**73.** Сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР могуць быць прыцягнуты да суду ці падвергнуты адміністрацыйнаму спагнаньню толькі водлуг пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ці яго Прэзыдыуму. У гэтых выпадках закончаныя матар'ялы расследаваньня па справах, водлуг якіх сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту прыцягваюцца да адказнасьці, павінны падавацца папярэдне ў Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР. Вырашэньне гэтых пытаньняў можа мець мейсца толькі пасьля запатрабаваньня ад абвінавачваемага персональнай яўкі ці пісьмовых тлумачэньняў водлуг запросу Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР ў бліжэйшым пасяджэньні апошняга.

**74.** Адхіленьне прыцягнутых да сьледзтва і суду сяброў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР ад займаемых імі пасадаў да суду можамець мейсца выключна водлуг пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**75.** Выключэньне са складу сяброў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР між чарговымі Зьездамі, на якіх выбіраюцца сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, дазваляецца водлуг пастановы надзвычайных Зьездаў Саветаў Саюзу ССР і, ў асоба тэрміновых выпадках, водлуг пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР з паведамленьнем аб гэтым бліжэйшага Зьезду Саветаў.

**76.** Усе сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, дзе б яны не працавалі, атрымоўваюць сутрыманьне ад Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР водлуг ставак, вызначаных для яго сяброў.

**77.** Выбіраемыя ў вызначанай саюзнаю умовою колькасьці кандыдаты ў сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР карыстаюцца (ў парадку чарговасьці запісу ў кандыдатскім сьпісе) правам рашучага голасу пры адсутнасьці адпаведнага ліку сяброў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і ў іншых выпадках дарадчым голасам. На кандыдатаў пашыраюцца правы і абавязкі, вызначаныя для сяброў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР арт. арт. 65—76 гэтага палажэньня.

## ПАДЗЕЛ X.

### Аб камісіях Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік.

**78.** Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу ССР і яго Прэзыдыумам могуць утварацца камісіі для разгляданьня пытаньняў бягучага заканадаўства і кіраваньня.

**79.** Камісіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР свайго апарату не маюць і абслугоўваюцца апаратам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 298. Палажэньне аб Савеце Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**1.** Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік утвараецца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік і зьяўляецца яго выканаўчым і распарадчым органам.

**2.** Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік складаюць:

а) Старшыня Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік;

б) намесьнікі старшыні Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік;

в) народныя камісары: замежных справаў, ваенных і марскіх справаў, замежнага гандлю, шляхаў зносін, почт і тэлеграфаў, рабоча-селянскае інспэкцыі, працы, харчаваньня, грашовых справаў і старшыня вышэйшага савету народнае гаспадаркі

Увага. На пасяджэньнях Савету Народных Камісараў Саюзу ССР прымаюць удзел з дарадчым голасам прадстаўнікі саюзных рэспублік, сябры ЦВК'у Саюзу ССР, старшыні ДПУ і ЦСУ, а так сама могуць прымаць удзел старшыні саветаў народных камісараў саюзных рэспублік і. водлуг асобнае пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР, іншыя асобы.

**3.** Да прадметаў веданьня Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік належаць:

а) кіраваньне чыннасьцю агульна саюзных і аб'яднаных народных камісарыятаў;

б) разгляд і зацьверджаньне дэкрэтаў і пастановаў агульна саюзнага значэньня ў межах, прадгледжаных Аснаўным Законам Саюзу ССР, палажэньнем аб Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Саюзу ССР і яго Прэзыдыуме, а так сама разгляд і зьдзейсьненьне мерапрыемстваў у галіне агульнага кіраваньня Саюзам Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік;

в) папярэдні разгляд проэктаў дэкрэтаў і пастановаў, якія падаюцца, згодна Аснаўнога Закону Саюзу ССР, на зацьверджаньне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР або яго Прэзыдыуму;

г) разгляд пытаньняў, якія Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР і яго Прэзыдыум прызнаюць патрэбным перадаць у Савет Народных Камісараў Саюзу ССР;

д) разгляд умоваў і згаджэньняў з урадамі замежных дзяржаваў, а так сама зацьверджаньне тых з іх, якія не патрабуюць ратыфікацыі;

е) разгляд і зацьверджаньне концэсыйных умоваў;

ж) разгляд і падача на зацьверджаньне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР агульна саюзных бюджэтаў;

з) разгляд і падача на зацьверджаньне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР або яго Прэзыдыуму проэктаў пастановаў аб увядзеньні новых або аб павялічэньні істнуючых падаткаў;

і) разгляд справаздачаў аб чыннасьці агульнасаюзных і аб'яднаных народных камісарыятаў Саюзу ССР;

к) разьвязваньне рознагалосьсяў між саветамі народных камісараў саюзных рэспублік водлуг пытаньняў, якія ўваходзяць у компэтэнцыю Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, а так сама рознагалосьсяў як між народнымі камісарыятамі Саюзу ССР, так і між апошнімі і саветамі народных камісараў саюзных рэспублік;

л) разгляд протэстаў і скаргаў на пастановы Савету Працы і Абароны, камісіяў пры Савеце Народных Камісараў і Савеце Працы і Абароны з адміністрацыйна распарадчымі функцыямі, а так сама і на чыннасьці народных камісарыятаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік;

м) зацьверджаньне штатаў народных камісарыятаў і іншых установаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік;

н) паданьне ў Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР аб назначэньні намесьнікаў народных камісараў і зацьверджаньне сяброў калегіяў народных камісарыятаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, сяброў Савету Працы і Абароны, старшынь і сяброў дзяржаўнае плянавае камісіі (дзяржпляну), камітэту ўнутранага гандлю, галоўнага концэсыйнага камітэту, камісіяў заканадаўчых намераў і адміністрацыйна-грашовае, калегіі аб'яднанага дзяржаўнага політычнага упраўленьня, кіраўніка цэнтральнага статыстычнага упраўленьня, старшыні дзяржаўнага банку і іншых урадовых асобаў, у адпаведнасьці з саюзным заканадаўствам.

**4.** Права паданьня пытаньняў на разгляд Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, апрача Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, маюць:

а) Старшыня Савету Народных Камісараў Саюзу ССР і Савету Працы і Абароны, яго намесьнікі і сябры Савету Народных Камісараў Саюзу ССР;

б) Савет Працы і Абароны;

в) цэнтральныя выканаўчыя камітэты саюзных рэспублік, іх прэзыдыумы і саветы народных камісараў;

г) дзяржплян, галоўны концэсыйны камітэт, кам. ўнутр. гандлю, аб'яднанае дзяржаўнае політычнае упраўленьне, цэнтральнае статыстычнае упраўленьне, камісія заканадаўчых намераў, камісія адміністрацыйна-грашовая і іншыя пастаянныя камісіі Савету Народных Камісараў Саюзу ССР;

д) асобы, якія маюць права дарадчага голасу на пасяджэньнях Савету Народных Камісараў Саюзу ССР, згодна з увагаю да арт. 2 гэтага палажэньня.

**5.** Усе прапазыцыі падаюцца ў Савет Народных Камісараў Саюзу ССР за подпісам старшынь вышэйшых органаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік і саюзных рэспублік, народных камісараў ці кіраўнікоў ведамстваў і установаў, пералічаных у арт. 4 гэтага палажэньня. У выпадку ад'езду ці хваробы паказаных урадовых асобаў, пытаньні падаюцца іх намесьнікамі.

**6.** Пасяджэньні Савету Народных Камісараў Саюзу ССР сапраўдны пры наліччы ня меньш палавіны ліку сяброў Савету Народных Камісараў Саюзу ССР. якія маюць права рашучага голасу.

**7.** Аб усіх сваіх пастановах і вырашэньнях Савет Народных Камісараў паведамляе Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту не пазьней трох дзён ад дня прыняцьця гэтых пастановаў і вырашэньняў.

**8.** Усе пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР могуць быць паасобнымі яго сябрамі апратаставаны ў Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР. Протэст не спыняе выкананьня пастановы.

**9.** Пры Савеце Народных Камісараў Саюзу ССР састаіць кіраўніцтва справамі, чыннасьць якога вызначаецца асобным палажэньнем.

**10.** Парадак падрыхтоўкі і разгляду пытаньняў, якія ўносяцца на вырашэньне Савету Народных Камісараў Саюзу ССР, вызначаецца асобным наказам, які зацьвярджаецца Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

**11.** Зносіны з усімі дзяржаўнымі установамі і ведамствамі ад імя Савету Народных Камісараў Саюзу ССР вядуцца яго старшынёй ці намесьнікамі апошняга.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 299. Агульныя палажэньні аб народных камісарыятах Саюзу ССР.

### ПАДЗЕЛ I.

### Аб утварэньні народных камісарыятаў Саюзу ССР.

**1.** На падставе арт. 37 Аснаўнога Закону (Канстытуцыі) Саюзу ССР, пры Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Саюзу ССР утвараюцца народныя камісарыяты, якія падзяляюцца на:

а) агульнасаюзныя народныя камісарыяты—адзіныя для ўсяго Саюзу ССР;

б) аб'яднаныя народныя камісарыяты Саюзу ССР.

**2.** Агульнасаюзнымі народнымі камісарыятамі Саюзу ССР зьяўляюцца народныя камісарыяты:

замежных справаў,
ваенных і марскіх справаў,
замежнага гандлю,
шляхаў зносін,
почт і тэлеграфаў.

**3.** Аб'яднанымі народнымі камісарыятамі Саюзу ССР зьяўляюцца народныя камісарыяты:

вышэйшага савету народнае гаспадаркі,
харчаваньня,
працы,
грашовых справаў,
рабоча-селянскае інспэкцыі.

**4.** Народныя камісарыяты Саюзу ССР ажыцьцяўляюць пастановы Зьезду Саветаў, Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, яго Прэзыдыуму, Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюзу ССР, якія маюць дачыненьне да прадметаў іх веданьня.

**5.** Усе народныя камісарыяты Саюзу ССР, праводзячы чыннасьць на падставе гэтага палажэньня, зьдзейсьняюць свае задачы на падставе асобных палажэньняў аб іх, якія зацьвярджаюцца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу ССР, а так сама пастановаў Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

**6.** На народныя камісарыяты Саюзу ССР ускладаецца:

а) агульнае кіраваньне чыннасьцю ўсіх падлеглых ім установаў; нагляд за імі ў галіне выкананьня законаў і загадаў вышэйшых органаў Саюзу ССР; прыняцьце ў устаноўленым парадку належных мер да неадкладнага ухіленьня неправідловых учынкаў;

б) разпрацаваньне ў межах свае компетэнцыі водлуг заданьняў вышэйшых органаў Саюзу ССР, а так сама і водлуг уласнае ініцыятывы проэктаў дэкрэтаў і пастановаў, падача іх у Савет Народных Камісараў Саюзу ССР ці ў Савет Працы і Абароны водлуг належнасьці;

в) выданьне, ў межах свае компетэнцыі, пастановаў, загадаў і інструкцыяў, наўкольнікаў, загадаў і г. д.;

г) разпрацаваньне каштарысаў і штатаў народнага камісарыяту, падача іх на зацьверджаньне у устаноўленым парадку;

д) вырашэньне скаргаў, якія падаюцца на чыннасьць і загады падлеглых ім установаў і асобаў; накіроўваньне паказаных скаргаў водлуг належнасьці, калі яны датычаць прадметаў, якія выходзяць за межы компетэнцыі народнага камісарыяту.

**7.** Загады народных камісарыятаў Саюзу ССР могуць спыняцца ці касавацца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам, яго Прэзыдыумам ці Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР. Старшыне Савету Народных Камісараў Саюзу ССР і яго намесьніку належыць права спыняць загады народных камісарыятаў з наступным дакладам у Савет Народных Камісараў Саюзу ССР.

**8.** Загады народных камісарыятаў Саюзу ССР могуць спыняцца Цэнтральнымі Выканаўчымі Камітэтамі ці Прэзыдыумамі ЦВК'аў саюзных рэспублік пры вочавідкай нязгодзе данага загаду Аснаўному Закону Саюзу ССР, законадаўству Саюзу ССР ці законадаўству саюзнай рэспублікі. Аб спыненьні загаду цэнтральныя выканаўчыя камітэты ці прэзыдыумы цэнтральных выканаўчых камітэтаў саюзных рэспублік неадкладна паведамляюць Савет Народных Камісараў Саюзу ССР ці адпаведны народны камісарыят Саюзу ССР.

### ПАДЗЕЛ II.

### Аб агульнасаюзных народных камісарыятах Саюзу ССР.

**9.** Агульнасаюзныя народныя камісарыяты (арт. 2 гэтага палажэньня) ведаюць даручанай ім галіной дзяржаўнага кіраваньня на ўсім абшары Саюзу ССР.

**10.** Агульнасаюзныя народныя камісарыяты Саюзу ССР маюць пры саюзных рэспубліках сваіх упоўнаважных, безпасрэдна ім падлеглых.

**11.** Упоўнаважны народнага камісарыяту высоўваецца народным камісарыятам Саюзу ССР безпасрэдна ці водлуг прапазыцыі цэнтральнага выканаўчага камітэту саюзнай рэспублікі і зацьвярджаецца Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР. Водлуг усіх высуваемых кандыдатураў абавязковым зьяўляецца одзыў цэнтральнага выканаўчага камітэту саюзнае рэспублікі, які мае права адводу упоўнаважнага, якога назначаюць.

Увага. У выпадку назначэньня намесьнікаў упоўнаважных агульнасаюзных народных камісарыятаў, яны зацьвярджаюцца ў тым жа парадку, які упаўнаважныя.

**12.** Упоўнаважныя агульнасаюзных народных камісарыятаў уваходзяць у савет народных камісараў саюзных рэспублік з дарадчым ці рашучым голасам, водлуг вырашэньня цэнтральнага выканаўчага камітэту саюзнае рэспублікі ці яго прэзыдыуму. Упоўнаважныя народных камісарыятаў інфармуюць цэнтральныя вы-

канаўчыя камітэты, іх прэзыдыумы і саветы народных камісараў саюзных рэспублік аб чыннасьці агульнасаюзнага народнага камісарыяту і складаюць адказ у сваёй чыннасьці як перад адпаведным народным камісарыятам Саюзу ССР, так і перад саветамі народных камісараў і цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі адпаведных саюзных рэспублік.

**13.** Загады агульнасаюзных народных камісарыятаў абавязковыя для безпасрэднага выкананьня на ўсім абшары Саюзу ССР і, як агульнае правіла, праводзяцца праз адпаведных упоўнаважных пры савеце народных камісараў саюзных республік. У выпадку безпасрэднага загаду агульнасаюзнага народнага камісарыяту мяйсцовым органам—абавязкова адначаснае аб гэтым паведамленьне упоўнаважнага данага народнага камісарыяту пры савету народных камісараў данай саюзнай рэспублікі.

Увага. У выпадку атрыманьня упоўнаважным агульнасаюзнага народнага камісарыяту загаду, які супярэчыць заканадаўству Саюзу ССР ці саюзнае рэспублікі, упоўнаважны павінен неадкладна зрабіць аб тым справазданьне адпаведнаму народнаму камісару Саюзу ССР і адначасна зрабіць даклад аб атрыманым загадзе савеце народных камісараў саюзнае рэспублікі.

**14.** Пастановы цэнтральных выканаўчых камітэтаў, іх прэзыдыумаў, саветаў народных камісараў і эканамічных нарадаў саюзных рэспублік, якія не супярэчаць агульнасаюзному заканадаўству, у межах іх компетэнцыі, абавязковы для упоўнаважных агульнасаюзных народных камісарыятаў Саюзу ССР.

## ПАДЗЕЛ III.

### Аб аб'яднаных народных камісарыятах Саюзу ССР.

**15.** Органамі аб'яднаных народных камісарыятаў, якія зьдзейсьняюць на абшарах саюзных рэспублік іх заданьні, зьяўляюцца аднайменныя народныя камісарыяты гэтых рэспублік.

Аднайменныя народныя камісарыяты саюзных рэспублік, падлягаючы цэнтральным выканаўчым камітэтам і саветам народных камісараў саюзных рэспублік, зьдзейсьняюць у сваей чыннасьці дырэктывы і заданьні адпаведных народных камісарыятаў Саюзу ССР.

**16.** Аб'яднаныя народныя камісарыяты Саюзу ССР праводзяць усе свае заданьні і дырэктывы праз аднайменныя нарадныя камісарыяты саюзных рэспублік.

**17.** На чале народных камісарыятаў саюзных рэспублік, аднайменных з аб'яднанымі народнымі камісарыятамі Саюзу ССР, стаяць народныя камісары, якіх начначаюць і адзываюць цэнтральныя выканаўчыя камітэты саюзных рэспублік.

**18.** Апрача функцыяў, якія выконваюцца згодна арт. 4 гэтага палажэньня, аб'яднаныя народныя камісарыяты:

а) даюць дырэктывы і заданьні аднайменным народным камісарыятам Саюзу ССР і сочаць за выкананьнем іх;

б) спыняюць і касуюць пастановы аднайменных народных камісарыятаў саюзных рэспублік, якія супярэчаць атрыманым імі дырэктывам ці агульнасаюзнаму заканадаўству, з адначасным паведамленьнем аб гэтым саветаў народных камісараў адпаведных саюзных рэспублік;

Увага. Права гэта не пашыраецца на выпадкі, калі загады народнага камісарыяту рэспублікі грунтуюцца на дакладным прадпісаньні савету народных камісараў данае рэспублікі. У апошнім выпадку адпаведны народны камісар Саюзу ССР уваходзіць у Савет Народных Камісараў Саюзу ССР з апратэставаньнем.

в) устанаўляюць абавязковыя для аднайменных народных камісарыятаў саюзных рэспублік парадак і форму справаздаўнасьці;

г) пагаджаюць у устаноўленым парадку асновы арганізацыі аднайменных народных камісарыятаў і іх мяйсцовых органаў;

д) разпрацоўваюць пляны гаспадарчае чыннасьці падлеглых ім органаў саюзных рэспублік, якія выконваюць заданьні Савету Народных Камісараў Саюзу ССР;

е) ведаюць, у устаноўленным парадку, агульнасаюзнымі фондамі па данаму народнаму камісарыяту.

## ПАДЗЕЛ IV.

### Аб народных камісарах Саюзу ССР.

**19.** На чале кожнага народнага камісарыяту Саюзу ССР стаіць народны камісар, якога выбірае і адзывае Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР (арт. 37 Аснаўнога Закону), якому належыць кіраваньне і упраўленьне народным камісарыятам Саюзу ССР, а так сама кантроль і нагляд за падлеглымі народнаму камісарыяту установамі і асобамі.

**20.** Народны Камісар мае права адзінаасобна прымаць вырашэньні водлуг усіх пытаньняў, падлеглых веданьню народнага камісарыяту, паведамляючы аб іх калегію.

У асобку народнаму камісару належыць адзінаасобнае права:

а) вызначэньня абшару справаў, падлеглых веданьню кожнага з яго намесьнікаў і сяброў калегіі;

б) назначэньня, перамяшчэньня і звальненьня, згодна з існуючымі палажэньнямі, персональнага складу народнага камісарыяту;

в) нагляду за чыннасьцю падлеглых народнаму камісарыяту установаў і асобаў;

г) загаду крэдытамі народнага камісарыяту Саюзу ССР і зацьверджаньня проэктаў каштарысаў, з захаваньнем устаноўленых правілаў;

д) апратастоўваньня ў Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР пастановаў Савету Народных Камісараў Саюзу ССР, цэнтральных выканаўчых камітэтаў і прэзыдыумаў цэнтральных выканаўчых камітэтаў саюзных республік, а так сама апратастоўваньня ў СНК Саюзу ССР пастановаў СНК саюзных рэспублік, пры чым апратастоўваньне не спыняе выкананьня пастановаў.

**21.** Усе пастановы, якія выходзяць ад імя народнага камісарыяту Саюзу ССР, усе паданьні ў Савет Народных Камісараў Саюзу ССР, а так сама ўсе зносіны з вышэйшымі дзяржаўнымі органамі падпісваюцца народным камісарам.

**22.** Народныя камісары Саюзу ССР складаюць адказнасьць перад Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу ССР, яго Прэзыдыумам і Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

### ПАДЗЕЛ V.

#### Аб намесьніках народных камісараў Саюзу ССР.

**23.** Намесьнікі народных камісараў зьяўляюцца бліжэйшымі памоцнікамі народнага камісара па упраўленьню народных камісарыятаў.

**24.** У выпадку ад'езду ці хваробы народнага камісара яго абавязкі выконвае намесьнік.

**25.** Намесьнік народнага камісара прыймае удзел у пасяджэньнях Савету Народных Камісараў з дарадчым голасам. У выпадку адсутнасьці народнага камісара, намесьнік яго прыймае удзел з правам рашучага голасу.

### ПАДЗЕЛ VI.

#### Аб калегіі пры народным камісары аюзу ССР.

**26.** Пры кожным народным камісары пад яго старшынствам утвараецца калегія, сябры якой назначаюцца Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР. Лік сяброў калегіі па кожнаму народнаму камісарыяту вызначаецца Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

**27.** У выпадку нязгоды калегіі з тым ці іншым вырашэньнем, якое прыняў народны камісар, калегія можа, не спыняючы выкананьня вырашэньня, абжалаваць яго ў Савет Народных Камісараў. Такое ж права належыць паасобным сябром калегіі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 300. Палажэньне аб народным камісарыяце замежных справаў Саюзу ССР.

### ПАДЗЕЛ I.

#### Агульныя палажэньні.

**1.** На падставе арт. арт. 49 і 51 Аснаўного Закону (Конституцыі) Саюзу ССР, утвараецца народны камісарыят замежных справаў.

На народны камісарыят замежных справаў ускладаецца зьдзейсьненьне дыплёматычных зносінаў Саюзу ССР і уваходзячых у склад Саюзу рэспублік з іншымі дзяржавамі.

### ПАДЗЕЛ II.

#### Задачы народнага камісарыяту замежных справаў Саюзу ССР.

**2.** Да задачаў народнага камісарыяту замежных справаў належаць:

а) абарона знадворных палітычных і экономічных інтарэсаў Саюзу ССР, а так сама грамадзян Саюзу ССР, якія знаходзяцца закардонам;

б) выкананьне пастановаў аб заключэньні умоваў і згодаў з чужаземнымі дзяржавамі;

в) кіраваньне ажыцьцяўленьнем заключоных з чужаземнымі дзяржамвамі умоваў і згодаў і дапамога адпаведным установам Саюзу ССР і саюзных рэспублік у зьдзейсьненьні імі правоў, якія устаноўлены гэтымі умовамі;

г) надляд за выкананьнем адпаведнымі органамі ўлады умоваў, згодаў і актаў, заключоных з чужаземнымі дзяржавамі.

### ПАДЗЕЛ III.

#### Будова народнаго камісарыяту замежных справаў Саюзу ССР.

**3.** Народны камісарыят замежных справаў Саюзу ССР складаецца з:

а) народнага камісара і калегіі пры ім;

б) сэкратарыяту;

в) кіраўніцтва справамі;

г) аддзелу Заходу;

д) аддзелу Усходу;

е) экономічна-праўнага аддзелу;

ж) аддзелу друку.

**4.** У склад народнага камісарыяту замежных справаў уваходзяць, апрача яго цантровых установаў, так сама закардонныя прадстаўніцтвы, консульствы Саюзу ССР і упоўнаважныя народнага камісарыяту замежных справаў Саюзу ССР пры саюзных рэспубліках і іншых упоўнаважных народнага камісарыяту замежных справаў на абшары Саюзу ССР, якія праводзяць чыннасьць на падставе палажэньняў, зацьвяржаемых законадаўчым парадкам.

### ПАДЗЕЛ IV.

#### Прадметы веданьня цэнтральных органаў народнаго камісарыяту замежных справаў Саюзу ССР.

**5.** На народны камісарыят замежных справаў па сэкратарыяту ускладаецца:

а) вядзеньне пратаколаў калегіі; б) нагляд за выкананьнем пастановаў; в) загадваньне прыёмам і аховаю корэспондэнцыі сяброў калегіі г) кіраваньне арганізаваньнем і распрацаваньнем архіваў; кіраваньне патайнай і шыфравальнай часткаю; е) загадваньне пратакольнай часткай.

**6.** Народны камісарыят замежных справаў па кіраваньню справамі ведае: а) размяркаваньнем і экспедыцыяй непатайнага характару; б) тэлеграфнай, тэлефоннай і кур'ерскай сувязьзю; в) арганізацыяй і кіраваньнем выдачы заграничных пашпартоў і візыроўкаю дакумэнтаў у межах, паданых яму законам; выдачаю дакумэнтаў і візаў для пражываньня ў Саюзе ССР некаторым катэгорыям чужаземцаў; арганізацыяй і кіраваньнем выдачы закардоннымі прадстаўнікамі Саюзу ССР заграничных відаў і дакумэнтаў на ўезд у Саюз ССР; г) пасьведчаньнем, на падставе асобных законапалажэньняў, подпісаў урадовых асобаў Саюзу ССР і саюзных рэспублік на ўселякага роду дакумэнтах, прызначаных да адпраўкі закардон і пасьведчаньнем адпаведнасьці

гэтых дакумэнтаў з законамі рэспублік; д) персональным складам усіх органаў народнага камісарыяту; е) арганізаваньнем органаў камісарыяту; ж) разпрацаваньнем і правядзеньнем устаноўленым парадкам грашовых каштарысаў камісарыяту; з) разлікамі па зьдзейсьненьню паказаных каштарысаў з разасыгнаваньнем крэдытаў; і) праглядам і падачаю грашовых справаздачаў у адпаведныя органы Саюзу ССР; к) безпасрэдным абслугоўваньнем грашовых патрэбаў цэнтральных установаў народнага камісарыяту замежных справаў; л) вырашэньнем іншых пытаньняў каштарыснага, грашовага, падліковага і справаздаўнага характару; м) гаспадарчым снабжэньнем і абслугоўваньнем цантровых установаў народнага касісарыяту замежных справаў; н) учотам і наглядам за захаваньнем усякага роду маемасьці, якая знаходзіцца ў карыстаньні ўсіх органаў народнага камісарыяту замежных справаў; о) аховаю знаходзячыхся на абшары Саюзу ССР чужаземных прадстаўніцтваў і цантровых установаў камісарыяту; п) жылішчнай часткай і тэхнічным персоналам дамоў, якія знаходзяцца ў карыстаньні камісарыяту; р) транспартам, які абслугоўвае чужаземныя прадстаўніцтвы і цантровыя установы камісарыяту; с) наглядам за чыннасьцю бюро абслугоўваньня чужаземцаў.

**7.** Народны камісарыят замежных справаў па аддзелу Захаду ведае: дыплёматычнымі зносінамі з дзяржавамі Эўропы і Амэрыкі, наглядам і вывучэньнем палітычнага і эканамічнага становішча гэтых дзяржаваў і наглядам за экономічнымі і іншымі зносінамі з імі другіх установаў Саюзу ССР, зносінамі з іх прадстаўніцтвамі, якія знаходяцца на абшары Саюзу ССР, і дапамогаю гэтым зносінам.

**8.** Народны камісарыят замежных справаў па аддзелу Ўсходу ведае пытаньнямі, пералічанымі ў арт. 7, у адносінах да дзяржаваў Азыі і Афрыкі.

**9.** Народны камісарыят замежных справаў па эканомічна-праўнаму аддзелу ведае: а) парыхтоўкаю, водлуг згоды з зацікаўленымі ведамствамі, матар'ялаў да ўсякага роду умоваў і згодаў з чужаземнымі дзяржавамі, разпрацаваньнем проэктаў гэтых умоваў і дачаю заключэньняў пры вядзеньні перамаўленьняў з чужаземнымі дзяржавамі; б) наглядам за ажыцьцяўленьнем паказаных умоваў і за дапамогаю ў гэтых адносінах савецкім установам; в) праўнымі пытаньнямі міжнародных адносінаў; г) справамі консульстваў Саюзу ССР закардонам і чужаземных консульстваў на абшары Саюзу ССР; д) пытаньнямі аб становішчы, правох і абавязках грамадзян Саюзу ССР закардонам і чужаземцаў у межах Саюзу ССР.

**10.** Народны камісарыят замежных справаў па аддзелу друку ведае: а) зьбіраньнем матар'ялаў і складаньнем інформацыйных сводак, аглядаў аб палітычным і экономічным жыцьці чужаземных дзяржаваў, чыннасьці народнага камісарыяту замежных справаў і яго органаў; б) інфармаваньнем паўнамоцных прадстаўніцтваў Саюзу ССР закардонам аб важнейшых момантах эканомічнага і палітычнага жыцьця Саюзу ССР і саюзных рэспублік; в) рэдагаваньнем выданьняў камісарыяту; г) зносінамі з органамі друку, якія выходзяць у Саюзе ССР, і з чужаземнай прэсай; д) інфармацыйнай працай закардонных прадстаўніцтваў; е) выдавецкай і кнігазборнай часткаю.

## ПАДЗЕЛ V.

### Аб упоўнаважных народнага камісарыяту замежных справаў пры Савеце Народных Камісараў саюзных рэспублік і аб іншых упоўнаважных і агентах народнага камісарыяту замежных справаў на абшары Саюзу ССР.

**11.** Народны камісарыят замежных справаў Саюзу ССР мае сваіх упоўнаважных пры Савеце Народных Камісараў саюзных рэспублік, назначэньне і одзыў якіх, а так сама іх правы і абавязкі вызначаюцца агульным палажэньнем аб народных камісарыятах Саюзу ССР.

Увага. У раёны важнейшых марскіх партоў Саюзу ССР, а так сама і ў іншыя пункты значнага збору чужаземцаў, могуць назначацца агенты народнага камісарыяту замежных справаў. Агенты народнага камісарыяту замежных справаў назначаюцца у поўнаважнымі народнаго камісарыяту замежных справаў пры Саўнаркомах адпаведных саюзных рэспублік.

**12.** У межы веданьня упоўнаважных народнага камісарыяту замежных справаў уваходзяць: а) узьняцьце перад народным камісарыятам замежных справаў пытаньняў, якія высуваюцца ўрадамі саюзных рэспублік і маюць для гэтых рэспублік асаблівае значэньне ў галіне знадворнай палітыкі Саюзу ССР; зносіны з усімі консульскімі і іншымі офіцыяльнымі прадстаўніцтвамі чужаземных дзяржаваў, якія маюць пастаяннае ці тымчасовае мяшканьне на абшары адпаведнай саюзнай рэспублікі, і аказаньне ім ува ўсіх выпадках патрэбнае дапамогі; в) нагляд за выкананьнем умоваў, згодаў і г. п. актаў, заключоных урадам Саюзу ССР з чужаземнымі дзяржавамі; г) зносіны з цэнтральнымі і мяйсцовымі установамі Саюзу ССР водлуг пытаньняў, што датычаць компетэнцыі народнага камісарыяту замежных справаў Саюзу ССР на абшары Саюзу ССР; д) інфармацыя водлуг пытаньняў, што датычаць народнага камісарыяту замежных справаў; е) дапамога адпаведным установам Саюзу ССР і саюзных рэспублік у зьдзейсьненьні імі на абшары саюзных рэспублік правоў, устаноўленых заключонымі з чужаземнымі дзржавамі умоваў і згодаў; ж) безпасрэднае кіраваньне ўсімі арганамі народнага камісарыяту замежных справаў на абшары адпаведнай саюзнай рэспублікі; з) безпасрэдная сувязь з назначаемымі, водлуг гэтага палажэньня, радцамі і сэкратарамі ува ўсіх пытаньнях інфармацыі, тэхнічнымі заданьнямі ў галіне адумысловых інтарэсаў адпаведных саюзных рэспублік; і) выдача, водлуг інструкцыяў народнага камісарыяту замежных справаў Саюзу ССР, загранічных пашпартоў і візыроўка дакумэнтаў у паказаных законам межах і выдача дакумэнтаў і візаў, для пражываньня ў Саюзе ССР, некаторым катэгорыям чужаземцаў водлуг паўнамоцтваў народнага камісарыяту замежных справаў Саюзу ССР; к) пасьведчаньне, згодна інструкцыяў народнага камісарыяту замежных справаў Саюзу ССР, подпісаў урадовых асобаў Саюзу ССР і саюзных рэспублік на ўсякага роду дакумэнтах, прызначаных да адпраўкі закардон, і пасьведчаньне адпаведнасьці гэтых дакумэнтаў з законамі рэспублік.

## ПАДЗЕЛ VI.

### Аб прадстаўніках Саюзу ССР закардонам.

13. Паўнамоцныя прадстаўнікі Саюзу ССР, акрэдытаваныя пры чужаземных урадах, назначаюцца і адзываюцца пастановамі Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

Увага. У паўнамоцных прадстаўніцтвах Саюзу ССР, якія знаходзяцца ў пунктах, што асабліва цікавяць якую-колечы з саюзных рэспублік, народны камісарыят замежных справаў назначае радцу і сэкратароў водлуг згоды з урадам зацікаўленай саюзнай рэспублікі.

14. Вярыцяльныя і адзыўныя граматы паўнамоцным прадстаўнікам выдаюцца за подпісамі Старшыні і сэкратара Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і замацоўкай народнага камісара замежных справаў,

15. Начальнікі прадстаўніцтваў, дэлегацыяў і місіяў з правамі, ніжэй правоў паўнамоцных прадстаўнікоў, назначаюцца і адзываюцца пастановаю Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

16. Вярыцяльныя і адзыўныя граматы памянёных у арт. 15 гэтага палажэньня дэлегацыяў выдаюцца за подпісам Старшыні Савету Народных Камісараў Саюзу ССР і замацоўкай народнаго камісара замежных справаў.

17. Народным камісарыятам замежных справаў назначаюцца: а) даверaныя ў справах, якія заступаюць паўнамоцных прадстаўнікоў на час іх адсутнасьці ці пасьля адазваньня да назначэньня новага паўнамоцнага прадстаўніка; б) старшыні дэлегацыяў Саюзу ССР, міжнародных мяшаных камісіяў, якія ўтвараюцца дзеля выкананьня заключоных Саюзам ССР умоваў; в) агенты, радцы, сэкратары, атташэ паўнамоцных прадстаўніцтваў і іншых дыплёматычных місіяў і дэлегацыяў, а так сама сябры міжнародных мяшаных камісіяў, якія дэлегуюцца Саюзам ССР.

18. Ваенныя і ваенна-марскія атташэ і іх памоцнікі назначаюцца водлуг згоды народнага камісарыяту замежных справаў і народнага камісарыяту ваенных і марскіх справаў.

19. Пералічаным ў арт. арт. 17 і 18 гэтага палажэньня асобам паўнамоцтвы ці мандаты выдаюцца народным камісарыятам замежных справаў.

20. Генэральныя консулы, консулы, віцэ-консулы і консульскія агенты атрымоўваюць консульскія патэнты за подпісам народнага камісара замежных справаў.

21. Упоўнаважныя ці агенты іншых народных камісарыятаў Саюзу ССР і саюзных рэспублік закардонам атрымоўваюць паўнамоцтвы за подпісам адпаведных народных камісарыятаў Саюзу ССР ці саюзных рэспублік, замацаваныя народным камісарыятам замежных справаў Саюзу ССР ці упоўнаважным народнага камісарыяту замежных справаў пры СНК адпаведнае Саюзнае рэспублікі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**301.** **Палажэньне аб народным камісарыяце ваенных і марскіх справаў Саюзу ССР.**

## ПАДЗЕЛ I.

### Агульныя палажэньні.

1. На падставе арт. арт. 49 і 51 Асноўнога Закону (Конституцыі) Саюзу ССР, утвараецца народны камісарыят ваенных і марскіх справаў, які ведае на ўсім абшары Саюзу ССР будаўніцтвам усіх узброеных сілаў, іх упарудленьнем і снабжэньнем.

2. На народны камісарыят ваенных і марскіх справаў Саюзу ССР ускладаецца: 1) разпрацаваньне і зьдзейсьненьне плянаў і мер па сухапутнай і марской абароне Саюзу ССР; 2) арганізацыя сухапутных і марскіх узброеных сілаў Саюзу, у тым ліку і тэрыторыяльных войскаў, і кіраваньне імі; 3) утрыманьне ўзброеных сілаў Саюзу ў належнай і заўсёднай прыгатаванасьці; 4) кіраваньне органамі мяйсцовага ваеннага і ваенна-марскога упраўленьня; 5) учот і прызыў насельніцтва для вайсковае падрыхтоўкі і на вайсковую службу ў рабоча-сялянскай чырвонай арміі і флёту; 6) фармаваньне, камплектаваньне, навучаньне і падрыхтоўка частак рабоча-сялянскае чырвонае арміі і флёту, ў тым ліку тэрыторыяльных войскаў; 7) дапрызыўная вайсковая падрыхтоўка, спартыўнае вайсковае абучэньне ўзростаў, якія не праходзілі шэрагі чырвонае арміі і флёту; 8) учот на абшары Саюзу конскага складу, фурманак і упражы і папаўненьне імі, у устаноўленым парадку, узброеных сілаў Саюзу; 9 падрыхтоўка каманднага, адміністрацыйнага, тэхнічнага і палітычнага складу чырвонае арміі; 10) палітычнае выхаваньне ваеннаслужачых чырвонае арміі і флёту і культурна-асьветная чыннасьць між іх; 11) забясьпячэньне рабоча-сялянскае чырвонае арміі і флёту ўсімі відамі давольства і матар'яльнаю часткаю для ціхамірнага і ваеннага часу; 12) разпрацаваньне і зьдзейсьненьне мер па забясьпячэньню бясьпекі плаваньня на морах Саюзу і задавальненьне патрэбаў ваеннага і грамадзянскага флётаў па гідраграфіі і караблявoдству; 13) арганізаваньне выкарыстаньня для патрэбаў рабоча-сялянскае чырвонае арміі і флёту ўсіх сродкаў зносін і сувязі Саюзу; 14) забясьпячэньне парадкам, устаноўленым законам, здароўя ваенна-служачых; 15) кіраваньне ветэрынарнаю справаю ў рабоча-сялянскай чырвонай арміі.

3. Народнаму камісарыяту ваенных і марскіх справаў даецца:

а) падаваць на зацьверджаньне вышэйшых органаў Саюзу ССР разпрацаваныя народным камісарыятам проэкты дэкрэтаў і пастановаў водлуг пытаньняў, якія адносяцца да межаў яго веданьня;

б) выдаваць па чырвонай арміі і флёту загады, разпараджэньні, прадпісаньні, палажэньні, інструкцыі і г. д., абавязковыя да выкананьня для ўсіх органаў ваеннага і ваенна-марскога ведамству і ўсіх ваенна-служачых на ўсім абшары Саюзу ССР;

в) устанаўляць і з'інячваць у межах чыннага заканадаўства арганізацыю падлеглых органаў ваеннага і ваенна марскога упраўленьня і камандаваньня;

г) выдаваць у адпаведнасьці з чыннымі законамі абавязковыя для ўсіх грамадзян Саюзу ССР загады ў

адносінах: 1 учоту і прызыву насельніцтва для вайсковай падрыхтоўкі і на вайсковую службу і 2) учоту конскага складу, фурманак, упражы і інш. рэчаў, падлеглых пастаўцы ў рабоча-сялянскую чырвоную армію і флёт у выпадку вайны;

д) з абвешчаньнем мобілізацыі выдаваць абавязковыя для ўсіх установаў і ўсяго насельніцтва Саюзу загады аб парадку прызыву грамадзян у рабоча-сялянскую чырвоную армію і флёт і парадку пастаўкі неабходных для рабоча-сялянскае чырвонае арміі і флёту рэчаў;

е) устанаўляе парадак і формы ваеннай і ваенна-марской справаздаўнасьці.

## ПАДЗЕЛ II.

### Аб цэнтральных органах упраўленьня народнага камісарыяту ваенных і марскіх справаў і рабоча-сялянскае чырвонае арміі і флёту.

#### Разьдзел I. Аб народным камісары ваенных і марскіх справаў Саюзу ССР і яго намесьніку.

**4.** На чале народнага Камісарыяту ваенных і марскіх справаў Саюзу ССР стаіць народны камісар, кіруючы ўсёй чыннасьцю народнага камісарыяту, на падставе Аснаўнога Закону Саюзу ССР і агульнага палажэньня аб народных камісарыятах Саюзу ССР

**5.** У акалічнасьцях надзвычайных, якія вымагаюць неадкладнага прыняцьця вырашэньня і правядзеньня па ваеннаму ці ваенна-марскому ведамству мерапрыемстваў, перавышаючых безпасрэдныя правы народных камісараў Саюзу ССР, народны камісар ваенных і марскіх справаў, пад персанальнаю адказнасьцю, дзейнічае ў агаражэньне і ў абарону інтарэсаў Саюзу ССР усімі магчымымі спосабамі, неадкладна даносячы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР аб прынятых мерах і прычынах безадкладнага правядзеньне іх яго загадам.

**6.** Агульныя для ўсяго народнага камісарыяту ваенных і марскіх справаў Саюзу ССР загады народнага камісара ваенных і марскіх справаў Саюзу ССР ці яго намесьніка аддаюцца загадамі рэволюцыйнага ваеннага савету Саюзу ССР.

Загады, якія чапаюць компетэнцыю іншых агульнасаюзных і аб'яднаных наркаматаў, аддаюцца, водлуг згоды з апошнімі, сумежнымі загадамі рэволюцыйнага ваеннага савету Саюзу ССР і адпаведных народных камісарыятаў.

Загады, якія чапаюць компетэнцыю неаб'яднаных народных камісарыятаў саюзных рэспублік, аддаюцца водлуг згоды з саветамі народных камісараў адпаведных саюзных рэспублік.

#### Разьдзел II. Аб рэволюцыйным ваенным савеце Саюзу ССР

**7.** Революцыйны ваенны савет Саюзу ССР з'яўляецца калегіяй народнага камісарыяту ваенных і марскіх справаў Саюзу ССР.

**8.** У склад рэволюцыйнага ваеннага савету Саюзу ССР, апрача народнага камісара, які зьяўляецца яго старшынёй, уваходзяць:

а) намесьнік старшыні рэволюцыйнага ваеннага савету Саюзу ССР—намесьнік народнага камісара ваенных і марскіх справаў Саюзу ССР;

б) галоўнакамандуючы ўсімі ўзброенымі сіламі Саюзу ССР;

в) сябры, водлуг назначэньня Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

#### Разьдзел Ш. Аб органах, якія падлягаюць рэволюцыйнаму ваеннаму савету Саюзу ССР.

**9.** Рэволюцыйнаму ваеннаму савету Саюзу ССР безпасредна падлягаюць:

а) галоўнакамандуючы ўсімі ўзброенымі сіламі Саюзу ССР;

б) памоцнік яго па рабоча-сялянскаму чырвонаму флёту і камісар марскіх сілаў Саюзу ССР;

в) асобная нарада ваеннага і марскога ведамству, якая мае прызначэньнем праверку і правядзеньне устаноўленым парадкам плянаў снабжэньня чырвонае арміі і флёту, устанаўленьне табэляў і нормаў для ўсіх відаў давольства;

г) штаб рабоча-сялянскае чырвонае арміі, які зьяўляецца выканаўчым апаратам водлуг:

арганізаваньня абароны абшару Саюзу ССР;

разпрацаваньня агульных падставаў будаўніцтва ўсіх узброеных сілаў Саюзу;

фармаваньня, камплектаваньня, баёвае падрыхтоўкі і упраўленьня ўсімі сухапутнымі ўзброенымі сіламі Саюзу;

кіраваньня вайсковаю падрыхтоўкаю насельніцтва;

д) галоўны начальнік снабжэньня рабоча-сялянскае чырвонае арміі;

е) політычнае упраўленьне (ПУР);

ж) галоўнае упраўленьне рабоча-сялянскага чырвонага паветранага флёту;

з) камандуючыя войскамі акругаў (фронтаў), паасобных арміяў і адпаведныя рэволюцыйныя ваенныя саветы, а так сама рэволюцыйныя ваенныя саветы флётаў і флётыліяў;

і) інспэкцыя пры рэволюцыйным ваенным савеце Саюзу ССР, у якасьці органу для абследаваньня становішча і баёвай прыгатоўнасьці сухапутных і марскіх узброеных сілаў і крэпасьцяў Саюзу ССР і чыннасьці ўсіх упраўленьняў, установаў і завядзеньняў ваеннага і марскога ведамстваў;

к) вышэйшая ваенна-рэдакцыйная рада, якая мае сваім прызначэньнем цэнтраваньне і плянамернае рэгуляваньне ваеннае літаратурна-выдавецкае справы;

л) кіраўніцтва справамі рэволюцыйнага ваеннага савету Саюзу ССР, якое зьяўляецца тэхнічным апаратам народнага камісарыяту ваенных і марскіх справаў і праводзіць чыннасьць на падставе асобнага палажэньня, зацьверджанага рэволюцыйным ваенным саветам Саюзу ССР;

м) ваенна-грашовы адзел, які мае сваім прызначэньнем складаньне, для правядзеньня устаноўленым парадкам, грашовага каштарысу ваеннаго ведамству і выкананьне зацьверджанага каштарысу.

**10.** У межах асобных палажэньняў, якія выдаюцца парадкам агульнасаюзнага заканадаўства, рэволюцыйнаму ваеннаму савету падлягаюць: а) галоўнае ваенна-санітарнае упраўленьне; б) камандаваньне часткамі асобнага прызначэньня; Саюзу ССР.

### Разьдзел IV. Аб галоунакамандуючым усімі узброенымі сіламі Саюзу ССР.

**11.** Галоўнакамандуючы ўсімі ўзброенымі сіламі Саюзу ССР зьяўляецца начальнікам усіх сухапутных і марскіх сілаў Саюзу ССР.

**12.** Галоўнакамандуючы ўсімі ўзброенымі сіламі Саюзу ССР назначаецца і звальняецца Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

**13.** У межах дырэктываў вышэйшых органаў Саюзу ССР, атрыманых праз народнага камісара ваенных і марскіх справаў ці рэволюцыйны ваенны савет Саюзу ССР, галоўнакамандуючы карыстаецца поўнаю самадзейнасьцю ува ўсіх пытаньнях опэратыўна—стратэгічнага характару, складаючы справаздачу ў сваіх дзеях водлуг гэтых пытаньняў народнаму камісару і рэволюцыйнаму ваеннаму савету Саюзу ССР.

**14.** Ніякая ўрадавая установа ці асоба Саюзу ССР, апрача рэволюцыйнага ваеннага савету Саюзу ССР, народнага камісара ваенных і марскіх справаў, яго намесьніка і вышэйшых органаў улады Саюзу ССР, не дае галоўнакамандуючаму прадпісаньняў і ня можа вымагаць ад яго справаздачы.

**15.** Галоўнакамандуючаму ўсімі ўзброенымі сіламі Саюзу ССР, у межах компетэнцыі, якая вызначаецца падсобнымі палажэньнямі, безспасрэдна падлягаюць:

а) памоцнік галоўнакамандуючага па марскіх справах—у опэратыўных адносінах;

б) памоцнік галоўнакамандуючага па кавалерыі;

в) штаб рабоча-сялянскае чырвонае арміі;

г) ваенна-санітарная інспэкцыя пры галоўнакамандуючым;

д) галоўны начальнік вайскова-вучэбных завядзеньняў;

е) начальнік артылерыі (ён жа начальнік галоўнага артылерыйскага упраўленьня);

ж) начальнік галоўнага ваенна-інжэнэрнага упраўленьня;

з) начальнік галоўнага ваенна-ветэрынарнага упраўленьня;

і) усе ваенныя акадэміі.

**16.** Апрача таго, галоўнакамандуючаму ўсімі ўзброенымі сіламі Саюзу ССР безпасрэдна падлягаюць:

у опэратыўных адносінах: а) усе камандуючыя войскамі ваенных акругаў (фронтаў, паасобных арміяў), б) галоўнае упраўленьне рабоча-сялянскага чырвонага паветранага флёту, в) камандаваньне часткамі асобнага прызначэньня Саюзу ССР;

ува ўсіх адносінах, праз адпаведных камандуючых войскамі акругаў (фронтаў, арміяў), крэпасьці і узмацаваныя раёны на ўсім абшары Саюзу ССР.

### Разьдзел V. Аб штабе рабоча-сялянскай чырвонай арміі.

**17.** На чале штабу рабоча-салянскае чырвонае арміі стаіць начальнік штабу, які падлягае рэволюцыйнаму ваеннаму савету Саюзу ССР і галоўнакамандуючаму і назначаецца рэволюцыйным ваенным саветам Саюзу ССР.

**18.** Пры штабе рабоча-сялянскае чырвонае арміі састаіць ваенны камісар, якога назначае рэволюцыйны ваенны Савет Саюзу ССР; правы і абавязкі яго вызначаюцца агульным палажэньнем аб ваенных камісарах.

**19.** У склад штабу ўваходзяць:

Упраўленьне 1-га памоцніка начальніка штабу у складзе: а) опэратыўнага аддзелу, які ведае опэратыўнымі пытаньнямі па абароне ўсяго абшару Саюзу і разпрацаваньнем пляну вайны; б) разьведвацельнага аддзелу, абшар веданьня і парадак падлегласьці якога вызначаецца асобным палажэньнем; в) аддзелу па падрыхтоўцы да службы войскаў, які ведае ўсімі пытаньнямі баёвае падрыхтоўкі, абучэньня, а так сама ўнутранай службы і быту войскаў; г) корпусу ваенных топографаў, які мае прызначэньнем вытварэньне геодызычных прац і забяспячэньне рабоча-сялянскай чырвонай арміі неабходнымі плянамі і мапамі.

Упраўленьне 2-га памоцніка начальніка штабу у складзе: а) арганізацыйнага аддзелу, які ведае пытаньнямі арганізацыі, комплектаваньня і дысклёкацыі войскаў; б) мобілізацыйнага аддзелу, які ведае пытаньнямі мобілізацыі ўзброеных сілаў Саюзу ССР і ваеннага учоту насельніцтва, коняў, фурманак, упражы, а так сама пытаньнямі аб адсрочцы прызыву на вайсковую службу; в) аддзелу па каманднаму складу, які ведае пытаньнямі слуджы і учоту каманднага і адміністрацыйнага складу чырвонае арміі.

Цэнтральнае упраўленьне па ваеннай падрыхтоўцы працоўных, якое ведае ўсімі пытаньнямі дапрызыўнае і спартыўнае падрыхтоўкі чырвонае арміі, чырвонага флёту і насельніцтва.

Цэнтральнае упраўленьне ваенных зносін, якое ведае выкарыстаньнем шляхаў зносін для воінскіх перавозок і чыгуначнымі войскамі.

Упраўленьне зьвязку рабоча-сялянскае чырвонае арміі, якое ведае пытаньнямі арганізаваньня зьвязку, ўсімі войскамі і сродкамі зьвязку, а так сама пытаньнямі выкарыстаньня ўсіх сродкаў зьвязку Саюзу ССР для вайсковых патрэбаў.

Цэнтральны шыфровальны аддзел штабу, які ведае шыфровальнаю справаю ў вайсковым ведамстве і арганізаваньнем ваенна-шыфравальных органаў.

Адміністрацыйна-гаспадарчы аддзел штабу, які ведае персональным складам і гаспадаркаю штабу.

### Разьдзел VI. Аб памоцніку галоунакамандуючага па марскіх справах.

**20.** Памоцнік галоўнакамандуючага па марскіх справах зьяўляецца начальнікам усіх узброеных сілаў Саюзу ССР.

**21.** Памоцнік галоўнакамандуючага па марскіх справах назначаецца і звальняецца з пасады загадам рэволюцыйнага ваеннага савету Саюзу ССР.

**22.** Камісар марскіх сілаў Саюзу назначаецца і звальняецца з пасады загадам рэволюцыйнага ваеннага Савету Саюзу ССР і праводзіць чыннасьць на падставе агульнага палажэньня аб ваенных камісарах.

**23.** Памоцнік галоўнакамандуючага па марскіх справах падлягае ува ўсіх адносінах безпасрэдна рэвалюцыйнаму ваеннаму савету Саюзу ССР, у пытаньнях жа опэратыўна-строевога характару—галоўнакамандуючаму.

**24.** Памоцніку галоўнакамандуючага па марскіх справах безпасрэдна падлягаюць: а) упраўленьне справамі марскога ведамству, якое зьяўляецца тэхнічным органам памоцніка галоўнакамандуючага па марскіх справах, праводзячым чыннасьць на падставе асобнага палажэньня, якое зацьвярджаецца рэволюцыйным ваенным

саветам Саюзу ССР; б) марскі штаб Саюзу ССР; в) галоўнае марское тэхнічна-гаспадарчае упраўленьне; г) упраўленьне ваенна-марскімі вучэбнымі установамі, д) галоўнае гідрографічнае упраўленьне, якое ведае ўсімі пытаньнямі забяспечаньня бясьпекі плаваньня на морах Саюзу ССР і задавальненьня патрэбнасьцяў флёту водлуг часьцін гідрографіі і караблекіраваньня; е) начальнікі марскіх сілаў і камандуючыя флётыліямі; ж) рэдакцыйна-выдавецкі аддзел, які ведае выданьнем і распаўсюджаньнем літаратуры па марскіх пытаньнях як навуковай, так і папулярнай.

Апрача таго, пры памоцніку галоўнакамандуючага па марскіх справах састаіць навукова-тэхнічны камітэт, які распрацоўвае пытаньні ваенна-марской тактыкі і тэхнікі.

### Разьдел VII. Аб марскім штабе Саюзу ССР.

**25.** На чале марскога штабу стаіць начальнік штабу' які безпасрэдна падлягае памоцніку галоўнакамандуючага па марскіх справах і назначаецца рэволюцыйным ваенным саветам Саюзу ССР.

**26.** Пры штабе састаіць ваенны камісар, якога назначае рэволюцыйны ваенны савет Саюзу ССР; правы і абавязкі яго вызначаюцца агульным палажэньнем аб ваенных камісарах.

**27.** У склад марскога штабу Саюзу ССР уваходзяць: а) оператыўны аддзел, які ведае оператыўнымі пытаньнямі па марской абароне Саюзу ССР; б) страявы аддзел, у якім сасрадаточваюцца справы па комплектаваньню, учоту і мобілізацыі, а так сама па арганізаваньню праходжаньня службы персональным складам чырвонага флёту; в) адміністрацыйна-гаспадарчы аддзел штабу; г) цэнтральны шыфравальны аддзел ваенна-марскога ведамству, які праводзіць чыннасьць на падставе асобнага аб ім палажэньня.

### Разьдел VIII. Аб палітычным упрауленьні рэволюцыйнага ваеннага савету Саюзу ССР.

**28.** Політычнае упраўленьне рэволюцыйнага ваеннага савету Саюзу ССР ёсьць орган, які ведае і кіруе адміністрацыйна-політычнай і політ-асьветнай працай у рабоча-сялянскай чырвонай арміі і флёту Саюзу ССР.

**29.** На чале політычнага упраўленьня Саюзу ССР стаіць начальнік яго, які назначаецца рэволюцыйным ваенным саветам Саюзу ССР.

**30.** Правы, абавязкі і прадметы веданьня політычнага упраўленьня па кіраваньню адміністрацыйна-палітычнай і політ-асьветнай працай у чырвонай арміі і чырвоным флёту вызначаюцца асобным палажэньнем, якое зацьвярджаецца рэволюцыйным ваенным саветам Саюзу ССР.

### Разьдзел IX. Аб галоуным начальніку снабжэньня рабоча-сялянскае чырвонае арміі.

**31.** Галоўны начальнік снабжэньня зьяўляецца вышэйшым кіраўніком справы снабжэньня чывонае арміі ўсімі відамі давольства і матар'яльнаю часткаю.

Яму належыць так сама агульны нагляд за выкананьнем ваенных заказаў вытворчымі органамі.

**32.** Пры голоўным начальніку снабжэньня састаіць камісар, якога назначае рэволюцыйны ваенны савет Саюзу ССР; правы і абавязкі яго вызначаюцца агульным палажэньнем аб ваенных камісарах, якое зацьвярджаецца рэволюцыйным ваенным саветам Саюзу ССР.

**33.** Галоўны начальнік снабжэньня назначаецца на пасаду загадам рэволюцыйнага ваеннага савету Саюзу ССР. У сваёй чыннасьці галоўны начальнік снабжэньня падлягае рэволюцыйнаму ваеннаму савету Саюзу ССР і кіруецца заданьнямі і кірункамі галоўна-камандуючага ўсімі узброеннымі сіламі Саюзу ССР.

**34.** Галоўнаму начальніку снабжэньня безпасрэдна і ува ўсіх адносінах падлягае галоўнае ваенна-гаспадарчае упраўленьне, якое ведае пытаньнямі ваенна-гаспадарчага снабжэньня рабоча-сялянскае чырвонае арміі.

**35.** У пытаньнях снабжэньня галоўнаму начальніку снабжэньня падлягаюць: а) галоўнае ваенна-інжэнэрнае упраўленьне; б) галоўнае артылерыйскае упраўленьне; в) галоўнае упраўленьне рабоча-сялянскага чырвонага паветранага флёту; г) упраўленьне зьвязку рабоча-сялянскае чырвонае арміі.

Апрача таго, ў адносінах снабжэньня адумысловаю чыгуначнаю маемасьцю, галоўнаму начальніку снабжэньня падлежна цэнтральнае упраўленьне ваенных зносінаў

### Разьдел X. Аб галоуным марскім тэхнічна-гаспадарчым упрауленьні флету.

**36.** Галоўнае марское тэхнічна-гаспадарчае упраўленьне ведае пабудоваю судоў, іх рамонтам, узброеньнем і баёвым снабжэньнем, забяспячэньнем частак і установаў рабоча-сялянскага чывонага флёту рэчавым давольствам, прадметамі і матар'яламі шкіперскага, абознага і ваенна гаспадарчага снабжэньня і апалам, пытаньнямі грашова-рахунковымі.

**37.** Начальнік галоўнага марскога тэхнічна-гаспадарчага упраўленьня назначаецца на пасаду загадам рэволюцыйнага ваеннага савету Саюзу ССР, водлуг прадстаўленьня памоцніка галоўнакамандуючага па марскіх справах.

**38.** Галоўнае марское тэхнічна-гаспадарчае упраўленьне складаецца з: а) агульнага аддзелу; б) тэхнічнага аддзелу; в) грашовага аддзелу; г) гаспадарчага аддзелу.

**39.** У веданьне галоўнага марскога тэхнічна-гаспадарчага упраўленьня ў тэхнічна-гаспадарчых адносінах уваходзяць ваенна-марскія парты і базы на ўсім абшары Саюзу ССР.

## ПАДЗЕЛ III.

### Аб упоўнаважных народнага камісарыяту ваенных і марскіх справаў пры саветах народных камісараў саюзных рэспублік і аб мяйсцовых органах упраўленьня народнага камісарыяту ваенных і марскіх справаў Саюзу ССР і рабоча-сялянскай чырвонай арміі і флёту.

**40.** Упоўнаважныя народнага камісарыяту ваенных і марскіх справаў Саюзу ССР пры саветах народных камісараў саюзных рэспублік назначаюцца, згодна агульнага палажэньня аб наркаматах Саюзу ССР, Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР і безпасрэдна падлягаюць народнаму камісару ваенных і марскіх справаў Саюзу ССР.

**41.** Усе мяйсцовыя органы ваеннага і ваенна-марскога упраўленьня на ўсім абшары Саюзу ССР у сваёй чыннасьці кіруюцца загадамі народнага камісарыяту ваен-

ных і марскіх справаў Саюзу СС і знаходзяцца ў безпасрэднай залежнасьці ад апошняга.

**42.** Акругі кіруюцца камандуючымі войскамі, якія назначаюцца рэволюцыйным ваенным Саветам Саюзу ССР. У неабходных выпадках рэволюцыйным ваенным саветам Саюзу ССР могуць утварацца ў акругах рэволюцыйныя ваенныя саветы.

**43.** Правы, абавязкі і склад камандаваньня войскамі і рэволюцыйных ваенных саветаў акруг, а так сама ўваходзячых у склад акругі упраўленьняў і установаў—вызначаецца рэволюцыйным ваенным саветам Саюзу ССР.

**44.** Начальнікі марскіх сілаў мораў, камандуючыя флётыліямі, рэволюцыйныя ваенныя саветы флётаў і флётыліяў і каманьдзіры ваенных партоў назначаюцца загадамі рэволюцыйных ваенных саветаў Саюзу ССР.

**45.** У безпасрэднай падлегласьці начальнікаў марскіх сілаў і рэволюцыйных ваенных саветаў флётаў састаяць знаходзячыяся на адпаведных морах Саюзу: узброеныя марскія сілы, а ў опер態ыўных адносінах так сама і каманьдзіры ваенных партоў.

**46.** У ваенным часе начальнікі марскіх сілаў, загадам народнага камісара ваенных і марскіх справаў Саюзу ССР, могуць быць падчынены ў оперытыўных адносінах камандуючаму флётам ці акругаю. У гэткім самым парадку камандуючыя флётыліямі могуць быць падчынены камандуючым арміямі.

**47.** Правы, абавязкі і склад мяйсцовых ваеннамарскіх органаў вызначаецца, ў межах дзейнічаючых узаконеньняў, рэволюцыйным ваенным саветам Саюзу ССР.

**48.** Прадметы веданьня губэрскіх, павятовых і іншых мяйсцовых органаў нараднога камісарыяту ваенных і марскіх справаў вызначаюцца дзейнічаючымі законапалажэньнямі аб гэтых органах.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістапада 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 302. Палажэньне аб народным камісарыяце замежнага гандлю Саюзу ССР.

### ПАДЗЕЛ І.

### Агульныя палажэньні.

**1.** На падставе арт. арт. 49 і 51 Аснаўнога Закону (констыцуцыі) Саюзу ССР, утвараецца народны камісарыят замежнага гандлю Саюзу ССР для кіраваньня ўсей знадворнай гандлёвай чыннасьцю Саюзу на падставе дзяржаўнай манаполіі замежнага гандлю.

### ПАДЗЕЛ II.

### Задачы народнага комісарыяту замежнага гандлю.

**2.** На народны камісарыят замежнага гандлю ўскладаецца:

а) разпрацаваньне і зьдзейсьненьне агульных мерапрыемстваў, накіраваных да разьвіцьця гандлёвых зносін Саюзу з чужаземнымі дзяржавамі, адпаведна інтарэсам Саюзу ў цэлым і пасобных яго частак;

б) складаньне экспортнага і імпортнага пляпаў Саюзу ССР;

в) зьдзейсьненьне імпортна-экспортных пляпаў і кіраваньне зьвязанымі з замежным гандлям опэрацыямі, якія вытвараюцца як праз пасрэднасьць цэнтровых, мяйсцовых і замежных органаў народнага камісарыяту замежнага гандлю, так і праз акцыянэрныя і іншыя таварыствы для замежнага гандлю;

г) разпрацаваньне пытаньняў мытнае політыкі, а так сама загадваньне мытнаю справаю Саюзу ССР;

д) удзел у дэлегацыях Саюзу ССР на міжнародных зьездах і канфэрэнцыях па заключэньню умоваў і згодаў водлуг пытаньняў, што тычацца замежнага гандлю, а так сама удзел у разпрацаваньні пытаньняў, якія падлягаюць абгаворваньню на памянёных зьездах і канфэрэнцыях;

ё) разпрацаваньне пытаньняў па концэсаваньню і акцыанаваньню паасобных галін замежнага гандлю, а так сама арганізаваньне мяшаных і іншых таварыстваў і установаў замежнага гандлю;

ж) дача заключэньняў галоўнаму концэсыйнаму камітэту водлуг пытаньняў рэгістрацыі чужаземных фірмаў, якія хадайнічаюць ад дапушчэньні іх да опэрацыяў на абшары Саюзу ССР;

з) рэгуляваньне экспортна-імпартнай чыннасьці ўсіх установаў, арганізацыяў і асоб, якія вядуць опэрацыі па замежнаму гандлю; агульны кантроль і нагляд за памянёнай чыннасьцю; нагляд за дакладным і поўным выкананьнем усіх заканадаўчых пастановаў і правілаў, што адносяцца да манаполіі замежнага гандлю;

і) разпрацаваньне пытаньняў аб ўсіх патрэбных для забясьпячэньня інтарэсаў замежнага гандлю мерапрыемствах у галіне марскога, рачнога, чыгуначнага і паветранага транспарту, страхаваньня, складальных і баррантных опэрацыяў і пагоджаньня іх з належнымі органамі;

к) кіраваньне чыннасьцю гандлёвых партоў, якія знаходзяцца ў веданьні народнага камісарыяту замежнага гандлю Саюзу ССР.

### ПАДЗЕЛ III.

### Будова народнага камісарыяту замежнага гандлю.

**3.** У склад народнага камісарыяту замежнага гандлю ўваходзяць:

а) народны камісар і калегія пры ім;

б) сэкратарыят;

в) кіраўніцтва справамі;

г) кіраўніцтва гандлёвымі прадпрыемствамі і установамі;

д) кіраўніцтва рэгуляваньня і плянавая камісія, якая пры ім знаходзіцца (замганплян);

е) эканамічна—праўнае аддзяленьне;

ж) грашова—рахунковае аддзяленьне;

з) транспартнае кіраўніцтва;

і) галоўнае мытнае кіраўніцтва.

Увага: Пры народным камісарыяце замежнага гандлю знаходзяцца: мытна-тарыфны камітэт і цэнтральная камісія па змаганьню з контрабандай, якія дзейнічаюць на падставе асобных палажэньняў аб

іх, выдаваемых Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

ПАДЗЕЛ IV.

**Прадметы веданьня народнага камісарыяту замежнага гандлю.**

**4**. На народны камісарыят замежнага гандлю па сэкратарыяту ускладаецца: праводжаньне справоводзтва народнага камісара і калегії народнага камісарыяту замежнага гандлю па зносінах з вышэйшымі органамі Саюзу ССР; нагляд за выкананьнем кіраўніцтвамі і органамі народнага камісарыяту замежнага гандлю даручэньняў вышэйшых органаў Саюзу ССР, народнага камісара і калегіі НКЗГ; арганізаваньне сэкратарскае часьціны ў пасяджэньнях і нарадах, якія склікаюцца народным камісарам; загадваньне патайнай перапіскай; прыём, размяркаваньне і разсылка ўсей корэспондэнцыі народнага камісарыяту замежнага гандлю.

**5**. На народны камісарыят замежнага гандлю па кіраўніцтву справамі ускладаецца:

а) справаводзтва водлуг усіх пытаньняў, якія не ўваходзяць у компетэнцыю іншых установаў;

б) учот персональнага складу народнага камісарыяту і яго мяйсцовых органаў;

в) інспэктараваньне і арганізаваньне мяйсцовых органаў народнага камісарыяту замежнага гандлю;

г) абслугоўваньне гаспадарчых патрэбаў народнага камісарыяту замежнага гандлю, як установы;

д) выдавецкая чыннасьць водлуг пытаньняў замежнага гандлю.

**6**. На народны камісарыят замежнага гандлю па кіраўніцтву гандлёвымі прадпрыемствамі і установамі ускладаецца:

а) зьдзейсьненьне імпортна-экспортных опэрацыяў агульнасаюзнага значэньня;

б) агульнае кіраваньне чыннасьцю і пагоджаньнем опэратыўных пляваў усіх установаў і прадпрыемстваў, якія працуюць з дзяржаўнымі капіталамі, атрыманымі ад народнага камісарыяту замежнага гандлю (дзяржгандляў, акцыянэрных (мяшаных) таварыстваў і комэрцыйных часьцін гандлёвых прадстаўніцтваў;

в) загады, ў межах дзейнічаючага законадаўства, капіталамі народнага камісарыяту замежнага гандлю і яго матар'яльнымі фондамі, якія вылучаны ў камэрцыйных мэжах;

г) кантроль над паступленьнем прыбыткаў водлуг умоваў, падпісаных народным камісарыятам замежнага гандлю, а так сама над паступленьнем прыбыткаў ад паказаных у п. „б" гэтага артыкулу гандлёвых прадпрыемстваў і установаў.

**7**. На народны камісарыят замежнага гандлю па кіраўніцтву рэгуляваньня ускладаецца:

а) дача органам народнага камісарыяту замежнага гандлю кіраўнічых паказаў водлуг пытаньняў політыкі замежнага гандлю і рэгуляваньня яе;

б) разпрацаваньне для падачы праз дзяржплян на зацьверджаньне Савету Працы і Абароны імпортна-экспортнага пляну Саюзу ССР і нагляд за выкананьнем зацьверджанага пляну;

в) устанаўленьне па згодзе з належнымі ведамствамі номенклятуры і стандартаў экспортных і імпортных тавараў;

2) разпрацаваньне і падача на зацьверджаньне Савету Працы і Абароны контынгентаў экспортных і імпортных тавараў, а так сама размяркаваньне зацьверджаных Саветам Працы і Абароны контынгентаў;

д) выдача ліцэнзыяў і пасьведчаньняў на права увозу і вывазу тавараў;

е) дача кіраўнічых паказаў мяйсцовым ліцэнзыйным аддзелам і разглядваньне скаргаў на чыннасьць апошніх;

ж) рэгуляваньне экспортна-імпортнае чыннасьці ўсіх установаў, арганізацыяў і асобаў, якія вядуць опэрацыі па замежнаму гандлю, агульны кантроль і нагляд за дакладным выкананьнем усіх законаўаўчых пастановаў і правілаў, што тычацца манаполіі замежнага гандлю;

з) арганізаваньне удзелу Саюзу ССР на міжнародных выстаўках і кірмашох.

Увага. Плянавая камісія, якая знаходзіцца пры кіраўніцтве рэгуляваньня (замганплян) дзейнічае на падставе палажэньня аб ей, якое зацьвярджаецца народным камісарам замежнага гандлю і старшынёю дзяржпляну Саюзу ССР.

**8**. На народны камісарыят замежнага гандлю па эканамічна—праўнаму кіраўніцтву ускладаецца:

а) удзел у разпрацаваньні міжнародных гандлёвых умоваў і згодаў;

б) абследаваньне і вывучэньне хатніх і замежных рынкаў, імпортных і экспортных магчымасьцяў Саюзу ССР, а так сама разпрацаваньне мерапрыемстваў, якія дапамагаюць развіцьцю экспортных галін гаспадаркі;

в) разпрацаваньне прынцыпаў мытнае політыкі;

г) разпрацаваньне пытаньняў водлуг концэсаваньня і акцыанаваньня паасобных галін замежнага гандлю;

д) статыстычныя працы, зьвязаныя з выкаўненьнем усіх паказаных заданьняў, а так сама аб'ядналньне ўсіх статыстычных прац, якія вытвараюцца ў іншых кіраўніцтвах водлуг пляну, перад тым пагоджанага з цэнтральнаю статыстычнаю управаю;

е) інфармацыя і эканамічная консультацыя водлуг усіх пытаньняў, зьвязаных з укладам манаполіі замежнага гандлю;

ж) складаньне кругабежных справаздачаў па народнаму камісарыяту замежнага гандлю;

з) праводжаньне папярэдніх перамаўленьняў аб концэсыях па замежнаму гандлю;

і) складаньне заключэньняў па пытаньнях рэгістраваньня чужаземных фірмаў, якія хадайнічаюць ад дапушчэньні іх да опэрацыяў на абшары Саюзу ССР;

к) дача заключэньняў па ўсіх юрыдычных пытаньнях, у прыватнасьці па заключаемых умовах;

л) сыстэматызаваньне заканадаўства па замежнаму гандлю;

м) праводжаньне судовых справаў, у прыватнасьці справаў аб парушэньні манаполіі замежнага гандлю.

**9**. На народны камісарыят замежнага гандлю па грашова—рахунковаму кіраўніцтву ускладаецца:

а) разпрацаваньне агульных пытаньняў грашовай політыкі народнага камісарыяту замежнага гандлю;

б) складаньне проэктаў прыбытковых і выдатковых каштарысаў і выкананьне каштарысаў зацьверджаных;

в) выпаўненьне грашовых опэрацыяў народнага камісарыяту замежнага гандлю;

г) бухгальтэрскі учот грашовых і гандлёвых опэрацыяў усіх органаў народнага камісарыяту замежнага гандлю са складаньнем па усяму наркамату кругабежных справаздачаў;

д) кіраваньне і нагляд за правідловай чыннасьцю ўсіх цэнтральных і мяйсцовых органаў народнага камісарыяту замежнага гандлю ў галіне грашовае і рахунковаге справы;

е) абслугоўваньне валютных патрэбнасьцяў органаў народнага камісарыяту замежнага гандлю і прадпрыемстваў, арганізаваных пры яго удзеле.

**10.** На народны камісарыят замежнага гандлю па транспартнаму кіраўніцтву ускладаецца:

а) разпрацаваньне пытаньняў аб усіх патрэбных для забясьпячэньня інтарэсаў замежнага гандлю мерапрыемствах у галіне марскога, рачного, чыгуначнаго і паветранага транспарту, страхаваньня, складальных і варрантных операцыях і пагоджаньня іх з належнымі органамі;

б) кіраваньне чыннасьцю гандлёвых партоў, якія знаходзяцца ў веданьні народнага камісарыяту замежнага гандлю;

в) удзел у разпрацаваньні і зьдзейсьненьні міжнародных конвэнцыяў і згодаў водлуг транспартных пытаньняў.

**11.** На народны камісарыят замежнага гандлю па галоўнаму мытнаму кіраўніцтву ускладаецца:

а) арганізаваньне і кіраваньне мытнымі установамі;

б) удзел у разпрацаваньні міжнародных умоваў і конвэнцыяў у частцы, што тычыцца мытнае справы;

в) разпрацаваньне мытнага тарыфу;

г) нагляд за зьдзейсьненьнем мерапрыемстваў па змаганьню з контрабандай і арганізаваньне змаганьня з контрабандай праз пасрэднасьць мытных установаў за межамі зоны, ў якой гэта задача узложана на органы аб'яднанае дзяржаўнае палітычнае управы;

д) нагляд за выканаяньнем усіх законаў і загадаў па мытнай частцы;

е) праводжаньне мытнае палітыкі.

## ПАДЗЕЛ V.

### Аб упоунаважных пры саветах народных камісарау саюзных рэспуолік і аб мяйсцовых органах народнага комісарыяту замежнага гандлю.

**12.** Органамі народнага комісарыяту замежнага гандлю зьяўляюцца:

а) упоўнаважныя народнага камісарыяту замежнага гандлю пры саветах народных камісараў саюзных рэспублік;

б) гандлёвыя прадстаўніцтвы Саюзу ССР і гандлёвыя агенцтвы Саюзу ССР закардонам;

в) мытныя акругі ці прадстаўнікі галоўнага мытнага кіраўніцтва.

#### Разьдзел I. Упоунаважныя народнага комісарытту замежнага гандлю пры Саветах народных комісарау саюзных рэспублік.

**13.** Парадак назначэньня і одзыву упоўнаважных, іх правы і абовязкі вызначаюцца агульным палажэньнем аб народных камісарыятах Саюзу ССР.

**14.** Упоўнаважным народнага камісарыяту замежнага гандлю пры саветах народных камісараў саюзных рэспублік падведамсьцеными безпасрэдна ўсе агенты і органы народнага камісарыяту на абшары данае саюзнае рэспублік.

**15.** Упоўнаважны ў межах загадаў народнага камісарыяту замежнага гандлю ведае ўсімі грашовымі і матар'яльнымі фондамі, якія знаходзяцца на обшары данае саюзное рэспублікі і вылучаны пад яго загад як народным камісарыятам замежнага гандлю, так і урадам данае саюзнае рэспублікі для опэрацыяў па замежнаму гандлю. Экспортныя фонды, вылучаныя саюзнымі рэспублікамі і пераданыя упоўнаважным народнага камісарыяту замежнага гандлю, застаюцца ўласнасьцю рэспублік.

**16.** Для зьдзейсьненьня узложаных на упоўнаважнага пры савеце народных камісараў саюзнае рэспублікі задач па рэгуляваньню замежнага гандлю пры ім засноўваецца упраўленьне.

**17.** Для зьдзейсьненьня комэрцыйных опэрацыяў на абшары данае рэспублікі пад безпасрэдным кіраваньнем і кантролем упоўнаважнага народнага камісарыяту замежнага гандлю пры савеце народных камісараў гэтае рэспублікі, ім можа быць, з дазволу народнага камісарыяту замежнага гандлю, арганізавана дзяржаўная імпортна-экспортная кантора (дзяржгандаль), з правам юрыдычнае асобы, якая праводзіць чыннасьць на падставе палажэньня аб ёй, зацьверджанага Саветам Працы і Абароны. Дзяржгандаль дзейнічае пад кіраваньнем кіраўніцтва гандлёвымі прадпрыемствамі і установамі народнага камісарыяту замежнага гандлю.

**18.** Дзяржгандаль пры упоўнаважным народнага камісаріяту замежнага гандлю пры савеце народных камісараў саюзнае рэспублікі праводзіць свае комэрцыйныя опэрацыі выключна па абшары данае саюзнае рэспублікі. У выпадку патрэбнасьці правядзеньня якіх-колечы опэрацыяў на абшары іншых саюзных рэспублік, яны могуць правадзіцца выключна праз дзяржгандаль, які знаходзіцца пры упоўнаважным народнага камісарыяту замежнага гандлю пры саўнаркоме належнае саюзнае рэспублікі, а закардонам—праз комэрцыйныя часткі адпаведных гандлёвых прадстаўніцтваў.

**19.** У задачы упоўнаважнага ўваходзяць:

а) абследаваньне і вывучэньне хатніх і замежных рынкаў, экспортных і імпортных магчымасьцяў, а так сама разпрацаваньне мерапрыемстваў, якія дапамагаюць разьвіцьцю экспорту рэспублікі;

б) разпрацаваньне экспортна-імпортнага пляну па данай рэспубліцы, пагоджаньне яго з адпаведнай саюзнай республікай і падача яго ў народны камісарыят замежнага гандлю, а так сама яго зьдзейсьненьне пасьля належнага зацьверджаньня;

в) нагляд за опэрацыямі па замежнаму гандлю ўсіх установаў і асобаў на абшары данае рэспублікі:

г) нагляд за дакладным выпаўненьнем законаў і загадаў па замежнаму гандлю і ахова манаполіі замежнага гандлю;

д) выдача ліцэнзыяў і пасьведчаньняў на ўвоз і вываз тавараў у межах контынгентаў, паданых народным камісарыятам замежнага гандлю данаму упоўнаважнаму на падставе зацьверджанага агульна-саюзнага экспортна-імпортнага пляну, а так сама выдача ліцэн-

зыяў і пасьведчаньняў на вываз некантыгентаваных тавараў;

е) кантроль над чыннасьцю мяшаных таварыстваў па абшары данае саюзнае рэспублікі;

ж) папярэдняе разпрацаваньне пытаньняў па концэсаваньню і акцыанаваньню паасобных галін замежнага гандлю;

з) эканамічная консультацыя па пытаньнях замежнага гандлю;

і) выкананьне ўсіх даручэньняў і загадаў народнага камісарыяту замежнага гандлю.

**20.** Для нагляду і дапамогі пры правядзеньні закардонам опэрацыяў па замежнаму гандлю, зьвязаных з абслугоўваньнем патрэбаў данае саюзнае рэспублікі, упоўнаважны народнага камісарыяту замежнага гандлю пры савеце народных камісараў данае рэспублікі можа, з дазволу народнага камісарыяту замежнага гандлю, назначыць свайго прадстаўніка, які праводзіць чыннасьць у складзе адпаведнага гандлёвага прадстаўніцтва Саюзу ССР, на падставе палажэньня зацьверджаемага Саветам Працы і Абароны, водлуг падачы народнага камісарыяту замежнага гандлю.

**21.** У выпадку патрэбы, водлуг згоды народнага камісарыяту замежнага гандлю з урадам данае саюзнае рэспублікі, на абшары апошняй, пад безпасрэдным кіраваньнем і наглядам упоўнаважнага народнага камісарыяту замежнага гандлю, могуць утварацца адумысловыя акцыянэрныя таварыствы па імпорту і экспорту.

**22.** Упоўнаважны народнага камісарыяту замежнага гандлю пры савеце народных камісараў саюзнае рэспублікі утварае, ў выпадку патрэбы, на абшары данае рэспублікі, пасьля зацьверджньньня народным камісарыятам замежнага гандлю, краінныя упраўленьні ці аддзяленьні народнага камісарыяту замежнага гандлю, на чале якіх стаяць загадчыкі, безпасрэдна падлягаючыя упоўнаважнаму.

### Разьдзел II. Гандлевыя прадстауніцтвы і гандлевыя агенцтвы Саюзу ССР закардонам.

**23.** Гандлёвыя прадстаўніцтвы Саюзу ССР закардонам зьяўляюцца органамі народнага камісарыяту замежнага гандлю і складаюць у той жа час частку адпаведных паўнамоцных прадстаўніцтваў Саюзу ССР закардонам і ўваходзяць у склад апошніх.

**24.** Гандлёвыя прадстаўнікі Саюзу ССР закардонам назначаюцца і адклікаюцца пастанавамі Савету Народных Камісараў Саюзу ССР водлуг прадстаўленьня народнага камісарыяту замежнага гандлю, пагоджанаму з народным камісарыятама замежных спраў.

**25.** У гандлёвыя прадстаўніцтвы закорданам, у пунктах, якія асабліва цікавяць тую ці іншую саюзную рэспубліку, водлуг згоды народнага камісарыяту замежнага гандлю і савету народных камісараў саюзнае рэспублікі, ўводзіцца прадстаўнік саюзнае рэспублікі, а ў прадстаўніцтвы, пры якіх ёсьць саветы, прадстаўнік саюзнае рэспублікі ўваходзіць як сябра гэтых саветаў.

**26.** Гандлёвыя прадстаўнікі Саюзу ССР закардонам для выпаўненьня узложаных на іх задачаў маюць пры сабе апарат, які падзяляецца на часткі рэгуліруючую і комэрцыйную.

**27.** У задачы гандлёвых прадстаўніцтваў па частцы рэгуляваньня уваходзяць:

а) выяўленьне агульнае эканамічнае абстаноўкі краю іх аселасьці;

б) вывучэньне варункаў мяйсцовага рынку і інфармацыя;

в) кантроль над чыннасьцю мяшаных таварыстваў закардонам;

г) нагляд за выкананьнем істнуючых паміж Саюзам ССР і данаю дзяржаваю гандлёвых умоваў і згодаў, а так сама і удзел у выпрацаваньні новых умоваў і згодаў;

д) нагляд за гандлёвай чыннасьцю у даным краі ўсіх органаў, установаў і грамадзянаў Саюзу ССР, у тым ліку і комэрцыйнае часткі гандлёвых прадстаўніцтваў.

**28.** У задачы комэрцыйнае часткі гандлёвага прадстаўніцтва Саюзу ССР закардонам уваходзіць выпаўненьне плянавых заданьняў народнага камісарыяту замежнага гандлю і іншых органаў Саюзу ССР, а так сама гандлёва-комісійных опэрацыяў водлуг даручэньняў комэрцыйных органаў народнага комісарыяту замежнага гандлю, дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў, коопэрацыйных, грамадзянскіх і прыватных прадпрыемстваў і асобаў, якім дазволена утварэньне экспортна-імпортных опэрацыяў. Комэрцыйная частка гандлёвага прадстаўніцтва ў сваей комэрцыйнай працы падлягае праз гандлёвыя прадстаўніцтвы кіраўніцтву гандлёвымі прадпрыемствамі і установамі народнага камісарыяту замежнага гандлю.

**29.** Гандлёвыя агенцтвы Саюзу ССР закардонам засноўваюцца народным камісарыятам замежнага гандлю і падлягаюць народнаму камісарыяту замежнага гандлю ці безпасрэдна, ці праз гандлёвыя прадстаўніцтвы народнага камісарыяту замежнага гандлю, водлуг загаду апошняга.

Гандлёвыя агенты назначаюцца і адклікаюцца народным камісарыятам замежнага гандлю.

Функцыі гандлёвых агенцтваў у кожным асобным выпадку вызначаюцца народным камісарыятам замежнага гандлю.

### Разьдзел III. Мытныя акругі.

**30.** На чале мытных акруг стаяць начальнікі, якія назначаюцца і адклікаюцца народным камісарам замежнага гандлю водлуг згоды з саветамі народных камісараў саюзных рэспублік.

**31.** Районы мытных акруг, пералічэньне ўваходзячых у склад кожнае з іх установаў, а так сама аселасьць акружных кіраўніцтваў, устанаўляецца народным камісарыятам замежнага гандлю водлуг згоды з народным камісарыятам грашовых справаў і саветам народных камісараў адпаведнае саюзнае рэспублікі. Склад мытных акруг, уваходзячых у іх установаў, іх правы і абавязкі вызначаюцца народным камісарыятам замежнага гандлю у устаноўленым парадку.

**32.** У мытныя акругі ўваходзяць мытніцы I, II і III разрадаў і мытныя пасты.

Увага 1. Адчыненьне і скасаваньне мытных кіраўніцтваў, а так сама зьмена іх аселасьці, устанаўленьне разрадаў мытніцы, перайменьне мытных пастоў у мытніцы і мытніц у мытныя пасты утвараецца народным камісарыятам замежнага гандлю, водлуг згоды з народным камісарыятам грашовых

справаў Саюзу ССР і саветам народных камісараў адпаведнае саюзнае рэспублікі.

Увага 2. Народнаму камісарыяту замежнага гандлю, водлуг згоды з саветам народных камісараў адпаведнае саюзнае рэспублікі, падаецца права вылучаць мытніцы і мытныя інспэктарскія вучасткі з веданьня акругі з безпасрэдным падданьнем галоўнаму мытнаму кіраўніцтву.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 303. Палажэньне аб народным камісарыяце шляхаў зносін Саюзу ССР.

### ПАДЗЕЛ I.

### Агульныя палажэньні.

**1.** На падставе арт. арт. 49; 51 Аснаўнога Закону (Конституцыі) Саюзу ССР, утвараецца народны камісарыят шляхаў зносін.

**2.** На народны камісарыят шляхаў зносін ускладаецца: агульнае кіраваньне і упраўленьне ўсім знаходзячымся на абшары або ў веданьні Саюзу ССР чыгуначным і водным (марскім і рачным) транспартам, шашовымі і грунтавымі шляхамі агульнадзяржаўнага і стратэгічнага значэньня, а так сама агульны нагляд за ўсімі відамі транспарту.

### ПАДЗЕЛ II.

### Задачы народнага камісарыяту шляхау зносін.

**3.** Аснаўнымі задачамі народнага камісарыяту шляхаў зносін зьяўляюцца:

а) абслугоўваньне Саюзу ССР чыгуначным і водным транспартам у адпаведнасьці з політычнымі, эканамічнымі і гаспадарчымі інтарэсамі і патрэбамі, а так сама з вымаганьнямі абароны Саюзу ССР;

б) кіраваньне, ў межах дзейнічаючых узаконеньняў, чыннасьцю дзяржаўных марскіх і рачных параходзтваў.

в) загадваньне гандлёвымі партамі, якія знаходзяцца ў веданьні народнага камісарыяту шляхаў зносін;

г) утрыманьне чыгуначных шляхаў зносін, іх прыладаў і рухомага складу, а так сама водных шляхаў, шашовых і грунтовых шляхаў агульнасаюзнага і стратэгічнага значэньня ў становішчы, якое забясьпячае бясьпеку і неперарыўнасьць руху па памянёных шляхох;

д) разьвіцьцё і узмацаваньне шляхаў зносін, якія знаходзяцца ў веданьні народнага камісарыяту шляхаў зносін, у адпаведнасьці з агульным плянам разьвіцьця і патрэбамі народнае гаспадаркі, а так сама палепшаньне як самых шляхаў зносін, так і мэтадаў іх эксплёатацыі і працы на навуковых падставах; рэгуляваньне пытаньняў, зьвязаных з тэхнічнай эксплёатацыяй усіх відаў шляхаў зносін.

е) тэхнічнае рэгуляваньне будоўляў чыгуначных, шашовых, грунтовых і водных шляхаў зносін агульнасаюзнага і стратэгічнага значэньня, а так сама рэгуляваньне судабудаваньня;

ж) нагляд за тэхвічным становішчам усіх відаў транспарту;

з) разпрацаваньне і зьдзейсьненьне транспартнага пляну, як часткі агульнасаюзнага пляну; рэгуляваньне выпаўненьня перавозак па шляхох зносін Саюзу ССР.

### ПАДЗЕЛ III.

### Правы народнага камісарыяту шляхаў зносін.

**4.** Для зьдзейсьненьня паказаных у арт. 3 задач народнаму камісарыяту шляхаў зносін падаецца права:

а) выдаваць, на падставе адпаведных законаў, правілы і загады, рэгуліруючыя выпаўненьне перавозак і адносіны між транспартам з аднаго боку і установамі, арганізацыямі і асобамі, якія карыстаюцца паслугамі транспарту, з другога боку;

б) разпрацоўваць і праводзіць устаноўленым парадкам тарыфы на перавозку пасажыраў і грузаў у чыгуначным і простых чыгуначна-водным зносінах, памеры збораў, зьвязаных з выпаўненьнем перавозак, а так сама нормы аплаты паслугаў, якія робяцца органамі транспарту вонках умовы перавозкі;

в) выдаваць правілы і інструкцыі для рэгуляваньня тэхнічнага боку будаваньня і эксплёатацыі чыгуначных, шашовых, грунтовых і водных шляхаў зносін як агульнага карыстаньня, так і іншых, а так сама забясьпячаючыя спраўнасьць шляхаў зносін, безпечнасьць і парадак карыстаньня імі; прыцягваць да законнай адказнасьці за парушэньне вышэйпаказаных правілаў і інструкцыяў; выдаваць абавязковыя пастановы водлуг прадметаў, прадгледжаных гэтым пунктам, з налажэньнем грашовых штрафаў за іх парушэньне, згодна асаблівай наконт гэтага пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР;

г) рабіць загады і прымаць меры для рэгуляваньня выпаўненьня масавых перавозак і размяркаваньня патрэбных для іх перавозачных сродкаў;

д) арганізоўваць, з захаваньнем дзейнічаючых узаконеньняў, трэсты і акцыянэрныя таварыствы, зьвязаныя з чыннасьцю шляхаў зносін, укладаючы ў іх грашовыя капіталы і іншую маемасьць;

е) устанаўляць, у межах зацьверджанага бюджэту, па згодзе з народным камісарыятам грашовых справаў, парадак выдаткаваньня паступаючых пад загад народнага камісарыяту шляхаў зносін грашовых сродкаў і матар'яльных рэсурсаў, а так сама парадак справаздаўнасьці і кантролю за гэткім выдаткаваньнем;

ж) крэдытавацца ў дзяржаўных і ў іншых крэдытовых установах, выдаючы вэксалі і іншыя абявязкоўствы, і рабіць крэдыт кліентам транспарту на падставах, якія устанаўляюцца народным камісарыятам шляхаў зносін;

з) арганізоўваць падсобныя прадпрыемствы, складальныя, экспэдыцыйныя, гандлёвыя і камісійныя і іншыя опэрацыі, зьвязаныя з чыннасьцю транспарту, ў межах асаблівых наконт таго пастановаў, якія выдаюцца ў законадаўчым парадку;

і) вытвараць гаспадарчым спосабам разпрацаваньне і

зарыхтоўку матар'ялаў, патрэбных для транспарту, закладаючы для гэтага дапаможныя прадпрыемствы;

к) пераводзіць вызначаным парадкам паасобныя гаспадарчыя органы транспарту на гаспадарчы разрахунак, вылучаючы з іх аснаўны і зваротны капіталы;

л) склікаць зьезды і нарады і як ведамсьцьвеныя, так і з удзелам прадстаўнікоў іншых ведамстваў і прадстаўнікоў іншых галін народное гаспадаркі водлуг пытаньняў, зьвязаных з чыннасьцю транспарту, а так сама прымаць удзел у гэткіх зьездах і нарадах, якія склікаюцца іншымі ведамствамі.

## ПАДЗЕЛ IV.

### Будова народнага камісарыяту шляхаў зносін.

**5.** У склад народнаго камісарыяту шляхаў зносін уваходзяць:

а) народны камісар шляхаў зносін і калегія пры ім;

б) цэнтральнае упраўленьне чыгуначнаго транспарту;

в) цэнтральнае упраўленьне марскога транспарту;

г) цэнтральнае упраўленьне ўнутранага воднага транспарту;

д) упраўленьне шашовых і грунтовых шляхаў;

е) цэнтральнае адміністрацыйнае упраўленьне;

ж) цэнтральнае бюро працы;

з) аддзел статыстыкі і картаграфіі;

і) плянавая камісія по транспарту (трансплян);

к) навукова-тэхнічны камітэт;

л) пастаянная нарада па нагляду і ацэнцы працы чыгуначнага, ўнутранага воднага і мяйсцоваго транспарту;

м) асобная нарада па навуковай арганізацыі працы на транспарце;

н) бюро кіраўніцтваў чыгунак;

о) бюро кіраўніцтваў дзяржаўных рачных параходзтваў;

п) цэнтральнае кіраўніцтва дзяржаўнага гандлёвага марскога флёту.

**6.** Народны камісарыят шляхаў зносін мае сваіх упоўнаважных пры саветах народных камісараў саюзных рэспублік, назначэньне і адкліканьне якіх, а так сама правы і абавязкі вызначаюцца адумысловым палажэньнем, зацьвярджаемым Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР на падставе агульнага палажэньня аб народных камісарыятах Саюзу ССР.

**7.** Мяйсцовыя органы народнага камісарыяты шляхаў зносін складаюць:

а) акругі шляхаў зносін;

б) кіраўніцтвы чыгунак;

в) упраўленьні чыгунак;

г) кіраўніцтвы дзяржаўных марскіх параходзтваў;

д) упраўленьні марскімі гандлёвымі партамі;

е) кіраўніцтвы дзяржаўных рачных параходзтваў;

ж) упраўленьні ўнутраных водных шляхаў;

з) акружныя упраўленьні шашовых і грунтовых шляхаў.

**8.** Пры народным камісарыяце шляхаў зносін знаходзяцца наступныя цэнтральныя і мяйсцовыя паміжведамсьцвеныя органы:

а) тарыфны камітэт;

б) грашова-кантрольны камітэт;

в) цэнтральны камітэт па перавозках;

г) цэнтральны камітэт партовых справаў;

д) агульнасаюзны рэгістр;

е) акружныя камітэты па перавозках і мяйсцовыя бюро па перавозках;

ж) краінныя камітэты і нарады партовых справаў.

**9.** Палажэньні аб органах народнага камісарыяту шляхаў зносін, пералічаных у арт. арт. 5, 7 і 8, зацьвярджаюцца наступным чынам:

а) аб агульнасаюзным рэгістры, тарыфным камітэце, грашова-кантрольным камітэце, цэнтральным камітэце па перавозках і цэнтральным і краінных камітэтах і нарадах па партовых справах, акружных камітэтах па перавозках і мяйсцовых бюро па перавозках, кіраўніцтвах чыгунак, цэнтральным кіраўніцтве дзяржаўнага гандлёва—марскога флёту, кіраўніцвтах дзяржаўных марскіх і рачных параходзтваў і упраўленьнях марскімі гандлёвымі партамі—Саветам Працы і Абароны;

б) аб плянавай камісіі—народным камісарам шляхаў зносін і старшынёю дзяржпляну;

в) аб іншых органах—народным камісарам шляхаў зносін;

**10.** Народны камісар шляхаў зносін назначае сваіх упоўнаважных у паасобныя мяйсцовыя органы транспарту, пайменаванныя ў арт. арт. 5 і 7 гэтага палажэньня, для кіраваньня працаю па упраўленьню і загадваньню паасобнымі транспартнымі адзінкамі і органамі шляхаў зносін.

**11.** Пасада упоўнаважнага пры савеце народных камісараў саюзнае рэспублікі і пасада упоўнаважнага ў мяйсцовых органах транспарту (арт. 10 гэтага палажэньня) можа (ў адпаведнасьці з арт. 6 гэтага палажэньня) сумяшчацца ў аднэй асобе.

**12.** Упоўнаважныя народнага камісара шляхаў зносін (арт. 10) праводзяць чыннасьць водлуг яго дырэктываў, пры чым парадак зьдзейсьненьня правоў і выкананьня абавязкаў упоўнаважнымі, а так сама узаемаадносіны іх з урадовымі асобамі на шляхох зносін вызначаюцца галоўным чынам інструкцыямі, якія зацьверджаюцце народным камісарам шляхаў зносін. Узаемаадносіны упоўнаважных народнага камісарыяту шляхаў зносін (арт. 8) з упоўнаважнымі народнага камісарыяту шляхаў зносін пры савеце народных камісараў саюзных рэспублік вызначаюцца парадкам, паказаным у арт. 6 гэтага палажэньня.

## ПАДЗЕЛ V.

### Межы веданьня органаў народнага камісарыяту шляхаў зносін.

**13.** Народны камісарыят шляхаў зносін, праз органы, уваходзячыя ў яго склад, зьдзейсьняе наступныя межы веданьня:

а) па цэнтральнаму упраўленьню чыгуначнага транспарту рэгуліруе эксплёатацыю, рамонт і разьвіцьцё чыгуначных шляхаў і сродкаў зносін:

б) па цэнтральнаму упраўленьню марскога транспарту ведае эксплёатацыяй, рамонтам і разьвіцьцём знаходзячыхся ў веданьні народнага камісарыяту шляхаў зносін марскіх гандлёвых партоў і партовых прыладаў

і зьдзейсьняе нагляд за чыннасьцю ўсяго марскога гандлёвага флёту, які плавае пад сьцягам Саюзу ССР;

в) па цэнтральнаму упраўленьню ўнутранага воднага транспарту рэгуліруе унутраную эксплёатацыю, рамонт і разьвіцьцё унутраных водных шляхаў зносін, а так сама рачное і вазёрное судабудаваньне, кіруе ў межах дзейнічаючых узаконеньняў чыннасьцю дзяржаўных рачных параходстваў і здзейсьняе нагляд за чыннасьню гандлёвага флёту на ўнутраных водных шляхох;

г) па упраўленьню шашовых і грунтовых шляхаў рэгуліруе рамонт і разьвіцьцё шашовых і грунтовых шляхаў агульнасаюзнага і стратэгічнага значэньня, а так сама зьдзейсьняе агульны нагляд за становішчам іншых шашовых і грунтовых шляхаў на абшары Саюзу ССР;

д) па цэнтральнаму адміністрацыйнаму упраўленьню ведае агульнымі пытаньнямі адміністрацыйнага і юрыдычнага характару, учотам і разьмяркоўваньнем рабочай сілы, пытаньнямі аховы на шляхох зносін, гаспадаркаю народнага камісарыяту шляхаў зносін, як установы, і тэхнічным апаратам, які абслугоўвае народнага камісара, яго намесьніка і калегію;

е) па цэнтральнаму бюро працы ведае пытаньнямі узьняцьця вытворчасьці працы і палепшаньня быту працаўнікоў транспарту, а так сама выяўленьнем патрэбнага фонду заробачнай платы, мэтазгодным яго размяркаваньнем і наглядам за своечасовай выплатай заробачнай платы;

ж) аддзел статыстыкі і картаграфіі кіруе статыстычнаю працаю і навуковым разпрацаваньнем статыстычных матар'ялаў, што тычацца шляхоў зносін, на падставе агульных правілаў аб дзяржаўнай статыстыцы;

з) плянавая камісія па транспарту (трансплян) разпрацоўвае транспартны плян, як частку агульнасаюзнага гаспадарчага пляну, з пункту погляду арганізацыйнага, тэхнічнага, грашова-эканамічнага і гаспадарчага;

і) навукова-тэхнічны камітэт разпрацоўвае з навукова-тэхнічнага боку пытаньні, транспарту і эксплёатацыі шляхаў зносін і разглядае ізобраценьні, што тычацца транспарту;

к) пастаянная нарада па нагляду і ацэнцы працы чыгуначнага, ўнутранага воднага і мяйсцовага (шашова-грунтовага) транспарту ведае разпрацаваньнем пытаньняў па нагляду і ацэнцы становішча і працы паасобных органаў чыгуначнага ўнутранага воднага і мяйсцовага транспарту дзеля мэты агульнага рэгуляваньня мэтадаў іх чыннасьці і арганізаваньня;

л) асобная нарада па навуковай арганізацыі працы на транспарце ведае разпрацаваньнем пытаньняў арганізаваньня працы на навуковых падставах;

м) бюро кіраўніцтваў чыгунак і бюро кіраўніцтваў дзяржаўных рачных параходстваў утвараецца дзеля мэты выяўленьня запросаў і патрэбаў паасобных транспартных адзінак, пагоджаньня іх інтарэсаў і чыннасьці;

н) па цэнтральнаму кіраўніцтву дзяржаўнага марскога гандлёвага флёту кіруе ў межах дзейнічаючых узаконеньняў чыннасьцю дзяржаўных марскіх параходстваў і пагаджае іх працу.

**14.** Мяйсцовыя органы народнага камісарыяту шляхаў зносін маюць наступныя межы веданьня:

а) дзеля мэты аб'яднаньня і накіраваньня чыннасьці шляхаў зносін на мяйсцох, роўным чынам для зьдзейсьненьня над імі нагляду і кантролю, мяйсцовыя упраўленьні шляхаў зносін, застаючыся самастойнымі опэратыўнымі органамі, могуць злучацца ў акругі шляхаў зносін, утварэньне і скасаваньне якіх падаецца народнаму камісарыяту шляхаў зносін.

Район акругі, склад уваходзячых ў яго шляхаў зносін, яго арганізацыі і адносіна да народнага камісарыяту шляхаў зносін, а так сама да мяйсцовых органаў шляхаў зносін, вызначаюцца народным камісарыятам шляхаў зносін у палажэньні аб акругах шляхаў зносін, якое ім зацьвярджаецца.

б) На кіраўніцтвы і упраўленьні чыгунак ускладаецца безпасрэднае загадваньне і упраўленьне паасобнымі чыгункамі;

На тых чыгунках, на якіх арганізаваны кіраўніцтвы, упраўленьне чыгункі, зьяўляючыся выканаўчым органам кіраўніцтва, выконвае функцыі, якія ускладаюцца на яго палажэньнем аб кіраўніцтвах чыгунак.

Размяркаваньне рэльсавых шляхаў між паасобнымі чыгункамі устанаўляецца народным камісарыятам шляхаў зносін.

в) Кіраўніцтвы дзяржаўных марскіх і рачных параходстваў, праводзячы чыннасьць на пачатках камэрцыйнага разрахунку, зьдзейсьняюць эксплёатацыю транспартных сродкаў воднага (марского і рачнога) транспарту. Кіраўніцтвы дзяржаўных параходстваў праводзяць чыннасьць на падставе статутаў, якія зацьвярджаюцца для кожнага дзяржпараходства паасобку устаноўленым чынам.

г) Упраўленьні марскімі гандлёвымі партамі ведаюць утрыманьнем, рамонтам і разьвіцьцём партоў і партовых прыладаў, а так сама сочаць за правідловай іх эксплёатацыяй.

д) Упраўленьні ўнутраных водных шляхаў ведаюць утрыманьнем, рамонтам і разьвіцьцём унутраных водных шляхаў, абстаноўкай на іх і наглядаюць за правідловай эксплёатацыяй іх у тэхнічных адносінах, а так сама за тэхнічным становішчам рачнога і вазёрнага флёту.

Размяркаваньне ўнутраных водных шляхаў між паасобнымі упраўленьнямі устанаўляецца народным камісарыятам шляхаў зносін.

е) Акружныя упраўленьні шашовых і грунтовых шляхаў ведаюць утрыманьнем і рамонтам шашовых і грунтовых шляхаў агульна-саюзнага і стратэгічнага значэньня, а так сама зьдзейсьняюць агульны нагляд за утрыманьнем іншых шашовых і грунтовых шляхаў, якія знаходзяцца ў районе акружнага упраўленьня.

Районы чыннасьці акружнага упраўленьня устанаўляюцца народным камісарыятам шляхаў зносін.

**15.** Паміжведамсьцьвеныя органы, якія знаходзяцца пры народным камісарыяце шляхаў зносін, маюць наступныя межы веданьня:

а) тарыфны камітэт ведае разглядам і дазволам у межах устаноўленых законам для усяго абшару Саюзу ССР справаў, што тычацца устанаўленьня тарыфаў чыгуначнага і ўнутранага воднага транспарту, з'іначаньня, дапаўненьня, скасаваньня і разтлумачэньня іх, а так сама зьдзейсьняе агульнае кіраваньне тарыфнаю

справаю на транспарце і вырашае зьвязаныя з ім пытаньні;

б) грашова-кантрольны камітэт ведае разглядам грашова гаспадарчых пытаньняў па транспарту;

в) цэнтральны камітэт па перавозках ведае пытаньнямі і мерапрыемствамі, зьвязанымі з поўным і пляновым выкарыстаньнем правозаздольнасьці ўсіх шляхаў зносін Саюзу ССР, пагоджаньнем і зацьверджаньнем агульных плянаў перавозак па Саюзу ССР, пагоджаньнем перавозак у мяшаных чыгуначных зносінах; наглядае за выкананьнем плянаў перавозак; злучае і накіроўвае чыннасьць мяйсцовых органаў па рэгуляваньню транспарту;

г) цэнтральны камітэт, краінныя камітэты і нарады па партовых справах злучаюць чыннасьць ведамстваў у адносінах да поўнага і пляновага выкарыстаньня прапускной здольнасьці марскіх гандлёвых партоў, разглядаюць і вырашаюць устаноўленым парадкам пытаньні, што тычацца іх эксплёатацыі і абсталяваньня;

д) агульнасаюзны рэгістр ведае рэгістрацыяй, клясыфікацыяй і наглядам за тэхнічным становішчам гандлёвых судаў, якія плаваюць пад сьцягам Саюзу ССР;

е) акружныя камітэты па перавозках і мяйсцовыя бюро па перавозках ведаюць плянаваньнем і рэгуляваньнем на мяйсцох перавозак па шляхох зносін свайго району, выяўленьнем і магчымым задавальненьнем патрэб апошняга ў галіне транспарту і пагоджаньнем у галіне перавозак інтарэсаў шляхаў зносін з інтарэсамі усіх, хто карыстаецца іх паслугамі.

### ПАДЗЕЛ VI.

### Зьезды.

**16.** Для папярэдняга разгляду і вырашэчня ў межах, устаноўленых народным камісарыятам шляхаў зносін, пытаньняў, зьвязаных з чыннасьцю транспарту, склікаюцца, на падставе прадстаўніцтва ад органаў транспарту, зьезды:

а) тарыфныя,

б) конвенцыйныя,

в) па разбору прэтэнзыяў;

г) тэхнічныя, нарадныя водлуг паасобных галін транспартнае справы.

**17.** Палажэньні аб зьездах зацьвярджаюцца народным камісарыятам шляхаў зносін. Зьезды тарыфныя, конвенцыйныя і па разбору прэтэнзыяў склікаюцца кругабежна ў тэрміны, паказаныя ў палажэньнях аб іх, а тэхнічныя нарадныя—водлуг патрэбнасьці, водлуг загаду народнага камісара шляхаў зносін.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 304. Аб часовым захаваньні некатарых органаў у складзе народнага камісарыяту шляхаў зносін.

У дадатак да палажэньня аб народным камісарыяце шляхаў зносін, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Часова захаваць у складзе народнага камісарыяту шляхаў зносін:

а) палітычны сэкратарыят, які ведае палітычным наглядам на шляхох зносін;

б) аддзел транспартнай прафэсыянальна-тэхнічнай адукацыі, які ведае падрыхтоўкаю кваліфікаваных тэхнічных працаўнікоў транспарту.

2. Падаць Савету Народных Камісараў Саюзу ССР канчаткова вырашыць пытаньне аб далейшым існаваньні памянёных органаў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 305. Палажэньне аб народным камісарыяце почт і тэлеграфаў Саюзу ССР.

### ПАДЗЕЛ I.

### Агульныя палажэньні.

**1.** На падставе арт. арт. 49—51 Аснаўнога Закону Саюзу ССР, утвараецца народны камісарыят почт і тэлеграфаў Саюзу ССР.

На народны камісарыят почт і тэлеграфаў ускладаецца кіраваньне і упраўленьне ўсімі відамі народнае сувязі Саюзу ССР, якія знаходзяцца ў веданьні народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў.

### ПАДЗЕЛ II.

### Задачы народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў Саюзу ССР.

**2.** Да задачаў народнага камісарыяту почт і тэлеградаў Саюзу ССР адносяцца:

а) распрацаваньне законадаўчых намераў водлуг пытаньняў народнае сувязі;

б) наладжаньне і эксплёатацыя почт, тэлеграфу, радыётэлеграфу і тэлефону;

в) адчыненьне і зачыненьне існуючых тэлеграфных і радыё-тэлеграфных і тэлефонных прадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў веданьні народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў, і перавод іх з аднаго району ў другі;

г) наладжваньне пачтовае справы і арганізаваньне перавозкі почты па чыгуначных лініях, водных шляхох і грунтовых трактах і пераданьне яе пнэвматычным шляхам і арганізаваньне паветранае почты;

д) пагоджаньне чыннасьці іншых органаў у галіне эксплёатацыі тэлеграфу, радыё-тэлеграфу, тэлефону і почты, а так сама арганізаваньне тэхнічнага нагляду пры пабудаваньні тэлеграфу, радыё і тэлефону;

е) нагляд за становішчам электрычных сілавых сетак для агаражэньня ад шкоднага уплыву іх на тэлеграфныя, радыё-тэлеграфныя і тэлефонныя будоўлі, якія знаходзяцца ў веданьні народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў Саюзу ССР;

ж) выпрацаваньне таксаў на ўсе віды зносінаў у пачтовых, тэлеграфных, радыё-тэлеграфных і тэлефонных установах і прадпрыемствах народнага каміса-

рыяту почт і тэлеграфаў Саюзу ССР і падача памянёных таксаў на зацьверджаньне устаноўленым парадкам;

з) разьвіцьцё, на падставе конвенцыяў, міжнародных пачтова-тэлеграфных, тэлефонных і радыё зносінаў.

## ПАДЗЕЛ III.

## Будова народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў Саюзу ССР.

**3.** У склад народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў уваходзяць:

а) народны камісар і калегія пры ім і упраўленьні:
б) агульнае;
в) грашова-эканамічнае;
г) эксплёатацыйна-тэхнічнае;
д) інспэкцыя.

Пры народным камісарыяце почт і тэлеграфаў знаходзіцца плянавая камісія з тэхнічным саветам.

## ПАДЗЕЛ IV.

## Прадметы веданьня цэнтральных органаў народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў Саюзу ССР.

**4.** Народны камісарыят почт і тэлеграфаў па агульнаму упраўленьню ведае: а) ўсімі агульнымі пытаньнямі адміністрацыйнага характару, якія не адносяцца да веданьня іншых упраўленьняў; б) пытаньнямі мобілізацыяў органаў сувязі; в) справамі персанальнага складу па ведамству; г) арганізаваньнем і разьвіцьцём міжнародных пачтова-тэлеграфных, тэлефонных і радыё зносінаў; д) зарыхтаваньнем і снабжэньнем акруг сувязі патрэбнымі кнігамі, блянкамі адумысловага справаводзтва, ўсялякага роду гаспадарчымі і канцэлярскімі матар'ялымі; е) арганізаваньнем і кіраваньнем учотна-статыстычнае працы народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў; ж) арганізацыйна-інструктарскай чыннасьцю народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў; з) выданьнем і распаўсюджаньнем кругабежных органаў народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў; і) музэем народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў; к) зносінамі народнага камісарыяту з вышэйшымі ўрадовымі органамі; л) наглядам за выкананьнем адумысловых заданьняў вышэйшых органаў улады; м) падрыхтоўкаю матар'ялаў, якія належаць да разгляду калегіі,—праводжаньнем пратаколаў пасяджэньняў калегіі і наглядам за выкананьнем пастановаў калегіі; о) патайнай перапіскай народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў, сховам і разсылкай патайных ключоў; о) тэлефоннай сувязьзю камісарыяту і яго органаў у Маскве.

Апрача таго, ў склад агульнага упраўленьня уваходзіць цэнтральная кніжня.

**5.** Народны камісарыят почт і тэлеграфаў па грашова-эканамічнаму упраўленьню ведае: а) складаньнем каштарысу па народнаму камісарыяту почт і тэлеграфаў; б) учотам прыбыткаў і выдаткаў па народнаму камісарыяту почт і тэлеграфаў і учотам матар'яльных сродкаў.

**6.** Народны камісарыят почт і тэлеграфаў па эксплёатацыйна-тэхнічнаму упраўленьню ведае: а) развіцьцём і палепшаньнем сувязі рэспублік; б) выкарыстаньнем сродкаў сувязі і арганізаваньнем опэратыўнае сувязі; в) складаньнем, разглядам і выкананьнем усіх проэктаў па будоўлі, пашырэньню і рамонту станцыяў і лініяў, будынкаў, сілавых установак і інш. пабудаваньняў народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў; г) будаўнічымі і рамонтнымі майстэрнямі, а так сама лабараторыямі і прабавальнымі станцыямі народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў; д) снабжэньнем скуранымі рэчамі і мяшкамі для перасылкі карэспандэнцыі, а так сама адумысловымі тэхнічнымі прадметамі і забесьпячэньнем прадпрыемстваў і установаў сувязі памяшканьнямі.

**7.** Інспэкцыя ведае: пляновым дасьлядаваньнем і інструктараваньнем мясцовых упраўленьняў і прадпрыемстваў народнае сувязі, а таксама аглядам лініяў і правадоў (дрот) і практычным кантролем у паасобных выпадках будаўнічае працы.

**8.** Пляновая камісія з тэхнічным саветам ведае: а) разпрацаваньнем прынцыповых палажэньняў і пляпаў па арганізаваньню почт-тэлеграфнае справы, тэлефоннае і радыё-справы; б) тэорэтычнай разпрацоўкай і опытнай разпрацоўкай проэктаў на пачтовыя, тэлеграфныя, тэлефонныя і радыё будоўлі, разглядам і ацэнкаю, а так сама разпрацаваньнем важнейшых тэхнічных проэктаў на новыя будоўлі для патрэбнасьці сувязі, з устанаўленьнем найбольш рацыёнальных спосабаў наладжаньня і эксплёатацыі гэткіх будоўляў; в) складаньнем і разглядам падручнікаў, кіраваньнікаў, падсобнікаў, урочных палажэньняў, тэхнічных нормаў і інструкцыяў па кожнай галіне народнае сувязі; г) сыстэматычным азнаямленьнем з пастаноўкаю справы ў памянёных галінах закардонам і выкарыстаньнем атрымоўваемых матар'ялаў для палепшаньня справы ў тых жа галінах на абшары Саюзу ССР.

Пляновая камісія і тэхнічны савет па сувязі праводзяць чыннасьць на падставе палажэньняў, якія выпрацоўваюцца народным камісарыятам почт і тэлеграфаў водлуг згоды з дзяржплянам і зацьвярджаюцца законадаўчым парадкам.

## ПАДЗЕЛ V.

## Упоўнаважныя народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў Саюзу ССР пры саўнаркомах саюзных рэспублік і мясцовыя органы народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў.

**9.** Народны камісарыят почт і тэлеграфаў мае пры савеце народных камісараў саюзных рэспублік сваіх упоўнаважных, якія праводзяць чыннасьць на падставе агульнага палажэньня аб народных камісарыятах Саюзу ССР і адумысловых палажэньняў аб упоўнаважных народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў пры савеце народных камісараў саюзных рэспублік, якія выдаюцца устаноўленым законадаўчым парадкам.

**10.** Народны камісарыят почт і тэлеграфаў свае функцыі на мясцох зьдзейсьняе праз акружныя упраўленьні сувязі, якія праводзяць на падставе палажэнь-

ня аб акружных упраўленьнях сувязі, зацьвярджаемага Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**306.** **Палажэньне аб вышэйшым савеце народнае гаспадаркі Саюзу ССР.**

ПАДЗЕЛ І.

**Агульныя палажэньні.**

**1.** На падставе арт. 49 і арт. 52 Аснаўнога Закону (Конституцыі) Саюзу ССР, утвараецца вышэйшы савет народнае гаспадаркі Саюзу ССР.

На вышэйшы савет народнае гаспадаркі Саюзу ССР ускладаецца ў межах, устаноўленых Аснаўным Законам, рэгуляваньне, кіраваньне і упраўленьне прамысловасьцю, а так сама падведамсьцьвенымі яму гандлёвымі прадпрыемствамі на абшары Саюзу ССР.

ПАДЗЕЛ ІІ.

**Прадметы веданьня вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР.**

**2.** Да прадметаў веданьня вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР адносяцца:

а) агульнае рэгуляваньне дзяржаўнай прамысловасьці і гандлёвай чыннасьці прадпрыемстваў вышэйшага савету народнае гаспадаркі, нагляд за коопэрацыйнай і прыватнай прамысловасьцю;

б) дапамога разьвіцьцю прамысловасьці на абшары Саюзу ССР;

в) агульнае кіраваньне чыннасьцю вышэйшых саветаў народнае гаспадаркі саюзных рэспублік;

г) упраўленьне, ў межах дзейнічаючага законадаўства, дзяржаўнымі прамысловымі прадпрыемствамі, якія устаноўленым парадкам будуць прызнанымі маючымі агульнасаюзнае значэньне, а так сама арганізаваньне новых прадпрыемстваў агульнасаюзнага значэньня;

д) складаньне вытворчага пляну і бюджэту прамысловасьці агульнасаюзнага значэньня, разгляд вытворчых плянаў і прамысловых бюджэтаў вышэйшых саветаў народнае гаспадаркі саюзных рэспублік, складаньне агульнага вытворчага пляну і бюджэту прамысловасьці Саюзу ССР цалкам і падача іх праз дзяржплян на зацьверджаньне Савету Працы і Абароны, правядзеньне мерапрыемстваў па выкананьню агульнасаюзнага вытворчага пляну і прамысловага бюджэту і складаньне справаздачаў па іх выкананьню;

е) разпрацаваньне пытаньняў па арганізаваньню новых вытворцтваў, рацыаналізаваньне вытворчасьці і тэхнічнага палепшаньня;

ж) разпрацаваньне пытаньняў прамысловага законадаўства, выданьне кіруючых інструкцыяў, правілаў і абавязковых пастановаў, якія рэгулірують чыннасьць прамысловасьці як дзяржаўнае, так коопэрацыйнае і прыватнае і нагляд за іх выкананьнем;

з) разпрацаваньне пытаньняў наконт здачы прамысловых прадпрыемстваў у концэсыю;

і) разпрацаваньне пытаньняў грашаваньня і крэдытаваньня прамысловасьці і арганізаваньне гэткага грашаваньня і крэдытаваньня;

к) выкарыстаньне, ў межах дзейнічаючага законадаўства, капіталаў трэставаных і нетрэставаных дзяржпрадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў веданьні вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР, і капіталаў прэзыдыуму вышэйшага савету народнае гаспадаркі, а так сама арганізаваньне трэстаў і акцыянэрных таварыстваў, заключэньне умоваў і згодаў;

л) арганізаваньне, водлуг згоды з цэнтральным статыстычным упраўленьнем, прамысловае статыстыкі;

м) арганізаваньне, на падставе асобных палажэньняў, навуковых інстытутаў і установаў для вывучэньня ўселякіх пытаньняў прамысловае гаспадаркі і кіраваньне памянёнымі установамі;

н) склікаprevious сьне зьездаў і нарадаў па пытаньнях прамысловасьці і дзяржаўнага гандлю, з прыцягненьнем да удзелу на іх іншых ведамстваў, установаў і грамадзянскіх арганізацыяў, а так сама і удзел у гэткіх зьездах і нарадах, якія склікаюцца іншымі ведамствамі.

ПАДЗЕЛ ІІІ.

**Будова вышэйшага савету народнае гаспадаркі.**

**3.** У склад вышэйшага савету народнае гаспадаркі ўваходзяць:

а) старшыня савету народнае гаспадаркі і яго прэзыдыум;

б) кіраўніцтва справамі;

в) галоўнае эканамічнае кіраўніцтва, пры якім знаходзіцца прамысловая пляновая камісія (прамплян), якая праводзіць чыннасьць на падставе палажэньня, зацьверджанага старшынёю вышэйшага савету народнае гаспадаркі і дзяржаўнае пляновае камісіі;

г) цэнтральнае кіраўніцтва дзяржаўнае прамысловасьці;

д) галоўнае кіраўніцтва ваеннае прамысловасьці;

е) навукова-тэхнічны аддзел.

Апрача таго, пры прэзыдыуме вышэйшага савету народнае гаспадаркі знаходзяцца: геолёгічны камітэт, вышэйшае геодэзычнае кіраўніцтва, рэдакцыйна-выдавецкі аддзел.

ПАДЗЕЛ ІV.

**Прадметы веданьня кіраўніцтваў і самастойных аддзелаў вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР і знаходзячыхся пры ім органаў.**

**4.** Вышэйшы савет народнае гаспадаркі па кіраўніцтву справамі ведае: справамі по учоту персанальнага складу, агульнаю перапіскаю па справах наркамату, хатнім бюджэтам вышэйшага савету народнае гаспадаркі, інфармацыйнаю часткаю, складаньнем кругабежных справаздачаў па наркамату, грашовым давольствам, гаспадарчаю часткаю і аховаю установаў вышэйшага савету народнае гаспадаркі.

5. На вышэйшы савет народнае гаспадаркі па галоўнаму эканамічнаму кіраўніцтву ускладаецца:

а) агульнае кіраваньне чыннасьцю вышэйшых саветаў народнае гаспадаркі саюзных рэспублік;

б) разпрацаваньне законадаўчых намераў водлуг усіх пытаньняў, што тычацца дзяржаўнае, коопэрацыйнае і прыватнае прамысловасьці, і нагляд за дзяржаўнаю прамысловасьцю, апрача падлеглай цэнтральнаму кіраўніцтву дзяржаўнай прамысловасьці (арт. 6), за коопэрацыйнаю і прыватнаю прамысловасьцю ў межах дзейнічаючага законадаўства;

в) пагоджаньне чыннасьці цэнтральнага кіраўніцтва дзяржаўнаю прамысловасьцю ў справе кіраваньня агульнасаюзнымі прадпрыемствамі з інтарэсамі дзяржаўнае прамысловасьці цалкам;

г) разпрацаваньне агульных пытаньняў прамысловае політыкі, а менавіта: арганізаваньне дзяржаўнае, коопэрацыйнае і прыватнае прамысловасьці, арганізаваньне збываньня вытвораў прамысловасьці, арганізаваньне працы, грашаваньня і крэдытаваньня прамысловасьці і паасобных яе галін, а так сама учоту і справаздаўнасьці;

д) разпрацаваньне, для падачы праз дзяржаўную пляновую камісію ў Савет Працы і Абароны, агульнага вытворчага пляну і прамысловага бюджэту для ўсяго Саюзу ССР, у прыватнасьці, папярэдняе разпрацаваньне відальнага і бягучага пляну прамысловасьці, як часткі пляну агульнасаюзнага; нагляд за выкананьнем зацьверджаных пляпаў;

е) кіраваньне сындыкатамі і іншымі злучэньнямі агульнасаюзнае прамысловасьці, наколькі яны не пераданыя ў веданьні цэнтральнага кіраўніцтва дзяржаўнае прамысловасьці;

ж) арганізаваньне прамысловай статыстыкі (п. „л“ арт. 2);

з) разпрацаваньне пытаньняў аб арганізаваньні новых прамысловых злучэньняў і ліквідаваньне прамысловых злучэньняў;

і) разпрацаваньне плянаў пастаноўкі новых вытворцтваў, пытаньняў рацыаналізаваньня вытворчасьці, рацыанальнага размяркаваньня прадпрыемстваў па раёнах і інш.

6. На вышэйшы савет народнае гаспадаркі па цэнтральнаму кіраўніцтву дзяржаўнае прамысловасьці ўскладаецца кіраваньне ў межах дзейнічаючага законадаўства, прамысловымі і гандлёвымі установамі і прадпрыемствамі агульнасаюзнага значэньня, якія знаходзяцца ў веданьні вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР, у прыватнасьці:

а) загадваньне капіталамі трэставаных і нятрэставаных дзяржпрадпрыемстваў, а так сама капіталамі тых жа дзяржпрадпрыемстваў і прэзыдыуму вышэйшага савету народнае гаспадаркі, якія ўложаны ў прамысловыя, гандлёвыя і крэдытовыя установы;

б) назначэньні, з зацьверджаньня прэзыдыуму вышэйшага савету народнае гаспадаркі, персональнага складу, які кіруе чыннасьцю памянёных прадпрыемстваў;

в) кантроль над чыннасьцю тых жа устаноў і прадпрыемстваў, а ў асобку кіраваньне рэвізыйнымі камісіямі трэстаў і сындыкатаў;

г) складаньне вытворчага пляну і бюджэту прамысловасьці, якая падлягае цэнтральнаму кіраўніцтву дзяржаўнае прамысловасьці;

д) зьдзейсьненьне, ў адносінах да трэстаў, іншых правоў і абавязкаў вышэйшага савету народнае гаспадаркі, прадгледжаных дэкрэтам 10 красавіка 1923 году (Зборн. Узак. РСФСР, 1923 г., № 29, арт. 336).

7. На вышэйшы савет народнае гаспадаркі па галоўнаму кіраўніцтву ваеннаю прамысловасьцю ускладаецца:

а) арганізаваньне і кіраваньне дзяржаўнаю ваеннаю прамысловасьцю;

б) кіраваньне прадпрыемствамі і заводамі, якія выраблююць рэчы ваеннага снабжэньня і безпасрэдна падлягаюць галоўнаму кіраўніцтву ваеннае прамысловасьці, прадпрыемствамі і заводами, а так сама падсобнымі прадпрыемствамі.

8. На вышэйшы савет народнае гаспадаркі па навукова-тэхнічнаму аддзелу ускладаецца:

а) кіраваньне існуючымі навукова-тэхнічнымі, дапаможнымі па прамысловасьці, установамі і арганізаваньне новых;

б) вытварэньне навукова-тэхнічнае экспэртызы па ўсіх пытаньнях народнае гаспадаркі;

в) арганізаваньне, пры удзеле адпаведных органаў, навукова-тэхнічных устаноў на буйных заводах, фабрыках, промыслах і селянскіх гаспадарках;

г) арганізаваньне азнаямленьня падуладных вышэйшаму савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР прадпрыемстваў і устаноў з чужаземнай тэхнікай, вынікамі навуковых досьледаў, абмен выданьнямі з чужаземнымі навуковымі і тэхнічнымі установамі і таварыствамі;

д) зьдзейсьненьне, праз галоўнае эканамічнае кіраўніцтва вышэйшага савету народнае гаспадаркі ці іншыя адпаведныя установы, пад кантролем навукова-тэхнічнага аддзелу, у опытна-заводзкім маштабе новых вытворцтваў, падрахтаваных папярэдне лабараторнымі досьледамі;

е) выданьне навукова-тэхнічнае літаратуры;

ж) набыт і размяркаваньне між навуковых і навукова-тэхнічных устаноў патрэбных ім прыбораў, прэпаратаў і інш., а так сама дапамога вытвору іх.

9. На геолёгічны камітэт ускладаецца:

а) сыстэматычнае дасьледаваньне геолёгічнага будаваньня абшару Саюзу ССР, учот запасаў і ацэнка мясцоў араджэньняў каштоўных капальных, вытварэньне геолёгічнае зьёмкі дзеля мэты складаньня агульнае геолёгічнае мапы Саюзу ССР;

б) вытварэньне ўзьведачнае працы, якая мае агульнасаюзнае значэньне;

в) зьбіраньне навуковых матар'ялаў і складаньне навуковых твораў, геолёгічных і іншых мап водлуг прадметаў веданьня камітэту.

10. На вышэйшае геодэзычнае кіраўніцтва ускладаецца вытварэньне астранома-геодэзычнае, нівелірна-здымачнае, мапаграфовае і оптыка-механічнае працы.

11. На вышэйшы савет народнае гаспадаркі па рэдакцыйна-выдавецкаму аддзелу ускладаецца:

а) выданьне навуковых і популярных органаў, неперыодычных зборнікаў, кніг і популярнае літаратуры водлуг пытаньняў эканомікі, прамысловасьці і статыстыкі;

б) выданьне матар'ялаў зьездаў, прэзыдыуму вышэйшага савету народнае гаспадаркі, аддзелаў і цэнтральных кіраўніцтваў вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР і знаходзячыхся пры ім органаў, водлуг згоды з апошнімі;

в) размяркаваньне выданьняў вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**307.** **Аб даручэньні Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР зацьвердзіць проэкт палажэньня аб народным камісарыяце харчаваньня Саюзу ССР.**

Прымаючы пад увагу намеркаванае рэарганізаваньне народнага камісарыяту харчаваньня Саюзу ССР, у зьвязку з новымі заданьнямі, якія на яго ускладаюцца, ня супярэчучы водлуг істоты супроць паданага III сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР Саўнаркомам Саюзу ССР проэкту „Палажэньня аб Наркомхарчаваньні“,—зацьверджаньне проэкту адлажыць, даручыўшы Прэзыдыуму ЦВК'ту Саюзу ССР у свой час яго разгледзіць і зацьвердзіць.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**308.** **Палажэньне аб народным камісарыяце працы Саюзу ССР.**

ПАДЗЕЛ I.

**Агульныя палажэньні.**

**1.** На падставе арт. арт. 49—52 Аснаўнога Закону Саюзу ССР, утвараецца народны камісарыят працы Саюзу ССР. На народны камісарыят працы Саюзу ССР ускладаецца рэгуляваньне умоваў працы на абшары Саюзу ССР.

ПАДЗЕЛ II.

**Задачы народнага камісарыяту працы Саюзу ССР.**

**2.** Да задачаў народнага камісарыяту працы Саюзу ССР адносяцца:

а) агульнае кіраваньне чыннасьцю народных камісарыятаў працы саюзных рэспублік, парадкам, устаноўленым Аснаўным Законам і агульным палажэньнем аб народных камісарыятах Саюзу ССР;

б) выпрацаваньне аснаўных палажэньняў водлуг усіх пытаньняў рэгуляваньня умоваў працы;

в) выпрацаваньне і правядзеньне праз народныя камісарыяты працы саюзных рэспублік мерапрыемстваў па рэгуляваньню рынку працы і па ахове працы;

г) выпрацаваньне і правядзеньне праз народныя камісарыяты працы саюзных рэспублік аснаўных мерапрыемстваў агульнасаюзнага характару па социяльнаму страхаваньню і арганізаваньне перастраховачнае справы на абшары Саюзу ССР;

д) выпрацаваньне агульных палажэньняў і дырэктываў водлуг разьвязваньня конфліктаў, якія ўзьнікаюць між працуючымі і нанімацелямі на грунце ужываньня наёмнае працы;

е) рэгуляваньне заробачнай платы;

ж) распрацаваньне адзіных статыстычных формаў справаводзтва і справаздаўнасьці, водлуг згоды з цэнтральным статыстычным упраўленьнем Саюзу ССР па ўсіх відах статыстыкі працы, а так сама сводка і апрацаваньне статыстычных матар'ялаў;

з) нагляд за адзінападобным ужываньнем законадаўства аб працы;

і) навукова дасьледчая праца па ўсіх пытаньнях компетэнцыі народнага камісарыяту працы; заснаваньне, на падставе асобных палажэньняў, навуковых інстытутаў, лабараторыяў і г. д. для вывучэньня розных пытаньняў па арганізаваньню працы, а так сама агульнае кіраваньне памянёнымі установамі.

ПАДЗЕЛ III.

**Будова народнага камісарыяту працы Саюзу ССР.**

**3.** У склад народнага камісарыяту працы Саюзу ССР уваходзяць:

а) народны камісар і калегія пры ім;

б) агульнае кіраўніцтва;

в) аддзел рынку працы;

г) аддзел аховы працы;

д) тарыфна-конфліктны аддзел;

е) статыстычны аддзел;

ж) цэнтральнае упраўленьне соцыяльнага страхаваньня.

ПАДЗЕЛ IV.

**Прадметы веданьня цэнтральных органау народнага камісарыяту працы Саюзу ССР.**

**4.** Народны камісарыят працы па агульнаму кіраўніцтву ведае:

а) распрацаваньнем аснаўных законаў аб працы і іх кодыфікаваньнем;

б) агульным наглядам за будовай народных камісарыятаў працы саюзных рэспублік;

в) складаньнем кругабежных справаздачаў па народнаму камісарыяту працы Саюзу ССР, справамі па перарушаньню і учоту персональнага складу;

г) дачаю заключэньняў па ўваходзячых у бюджэт саюзных рэспублік каштарысах нароонага камісарыяту працы гэтых саюзных рэспублік пры праходжаньні гэтых бюджэтаў праз органы Саюзу ССР у парадку іх зацьверджаньня;

д) складаньнем каштарысу народнага камісарыяту працы Саюзу ССР;

е) вядзеньнем грашовай і матар'яльнай справаздаўнасьці народнага камісарыяту працы Саюзу ССР;

ж) кантролем за выдаткаваньнем сродкаў і ўсёй

маемасьцю і гаспадаркою народнага камісарыяту працы Саюзу ССР;

з) выданьнем друкаваных матар'ялаў, загадваньне архівам і кніжняй народнага камісарыяту працы Саюзу ССР.

**5.** Народны камісарыят працы па аддзелу рынку працы ведае:

а) разпрацаваньнем нормаў па ужываньню кодэксу законаў аб працы ў галіне рэгуляваньня рынку працы;

б) мерапрыемствамі па змаганьню з безпрацоўем і па дапамозе безпрацоўным;

в) вывучэньне становішча і рэгуляваньня рынку працы;

г) пастаноўкаю учоту тэхнічных і агранамічных сілаў.

**6.** Народны камісарыят працы па аддзелу аховы працы ведае:

а) разпрацаваньнем нормаў па ужываньню кодэксу законаў аб працы ў галіне аховы працы;

б) навукова-дасьледчай працай у галіне профэсыянальнай гігіены, тэхнікі бязьпекі і прамысловай псыхотэхнікі.

**7.** Народны камісарыят працы па тарыфна-конфліктнаму аддзелу ведае:

а) разпрацаваньнем тарыфных палажэньняў і падрыхтоўкай для правядзеньня законадаўчым парадкам асноваў дзяржаўнага рэгуляваньня заробачнай платы;

б) пераразмяркаваньнем фондаў заробачнай платы для дзяржпрадпрыемстваў і дзяржустановаў;

в) прымірыльным трэцейскім разборам працоўных конфліктаў, якія маюць агульнасаюзнае значэньне;

г) устанаўленьнем парадку рэгістраваньня і рэгістраваньнем колектыўных умоваў, якія маюць моц на ўсім абшары Саюзу ССР;

д) разпрацаваньнем нормаў па ужываньню кодэксу законаў аб працы.

**8.** Статыстычны аддзел ведае:

а) разпрацаваньнем, сумежна з цэнтральным статыстычным упраўленьнем Саюзу ССР, адзінападобных формаў справаводзтва і справаздаўнасьці водлуг усіх відаў статыстыкі працы;

б) сводкай і разпрацаваньнем статыстычных матар'ялаў, складаньнем кругабежных агляда́ў і справаздачаў, а так сама агалашэньнем довадаў наконт статыстыкі працы.

**9.** Народны камісарыят працы па цэнтральнаму кіраўніцтву соцыяльнага страхаваньня ведае:

а) устанаўленьнем у агульнасаюзным маштабе парадку выдаткаваньня грашовых і матар'яльных страховых фондаў і кантролем за яго выкананьнем;

б) разпрацаваньнем пытаньняў аб устанаўленьні памераў страховых узносаў і устанаўленьнем парадку іх спагнаньня;

в) вызначэньнем памераў і парадку выдачы застрахаваных дапамагоў і пэнсіяў і падачы іншых відаў забясьпекі;

г) устанаўленьнем адзінападобных формаў справаводзтва і справаздаўнасьці страховых органаў і складаньнем штогодных грашовых і статыстычных справаздачаў па паказаных пытаньнях;

д) утварэньнем агульнасаюзнага запаснога фонду соцыяльнага страхаваньня і загадваньнем яго сродкамі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 309. Палажэньне аб народным камісарыяце грашовых справаў Саюзу ССР.

### ПАДЗЕЛ I.

### Агульныя палажэньні.

**1.** На падставе арт. арт. 49 і 52 Аснаўнога Закону (конституцыі) Саюзу ССР, утвараецца народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР, на які ускладаецца кіраваньне грашоваю справаю Саюзу ССР і злучэньне грашовай політыкі на усім абшары Саюзу ССР.

### ПАДЗЕЛ II.

### Задачы народнага камісарыяту грашовых справаў.

**2.** Да прадметаў веданьня народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР адносяцца:

а) агульнае кіраваньне чыннасьцю народных камісарыятаў грашовых справаў саюзных рэспублік;

б) кіраваньне грашовых установаў і грашовых прадстаўніцтваў закардонам;

в) загадваньне, згодна пастановаў вышэйшых законадаўчых органаў Саюзу ССР, мэталёвым і валютным фондам;

г) правядзеньне мерапрыемстваў па складаньню і выкананьню бюджэту Саюзу ССР, складаньне гэтага бюджэту і падача яго праз Савет Народных Камісараў Саюзу ССР на зацьверджаньне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР;

д) арганізаваньне і наступны кантроль справаздаўнасьці па выкананьню агульнасаюзнага бюджэту, складаньне па Саюзу ССР справаздаўнасьці па выкананьню мяйсцовага бюджэту, на падставе сводкай справаздаўнасьці народных камісарыятаў грашовых справаў саюзных рэспублік;

е) арганізаваньне і рэгуляваньне ўкладу грашовага звароту, разпрацаваньне і рэгуляваньне пытаньняў дзяржаўнага, камунальнага і прыватнага крэдыту і дзяржаўнага страхаваньня на ўсім абшары Саюзу ССР; вытварэньне разлікаў па міжнародных умовах;

ж) разпрацаваньне законапроэктаў па устанаўленьню правядзеньня ўкладу агульнадзяржаўных падаткаў і выпрацаваньне агульных мерапрыемстваў па рэгуляваньню мяйсцовых падаткаў; учот дзяржаўных капіталаў, уложаных у дзяржаўныя і мяшаныя прамысловыя, гандлёвыя і крэдытныя прадпрыемствы (трэсты, акцыянэрныя таварыствы і г. д.), учот дзяржаўных маемасьцяў і атрыманьне прыбыткаў ад іх; нагляд за публічнай справаздаўнасьцю прадпрыемстваў, прымушаных да гэткай, і удзел у разпрацаваньні і разглядзе грашовых плянаў дзяржаўных прадпрыемстваў і установаў;

з) заключэньне з чужаземнымі таварыствамі агульных умоваў наконт перастрахаваньня, згодна адумысловых правілаў, устаноўленых законадаўчымі органамі Саюзу ССР, і перастрахаваньне страховых рыскаў Саюзу.

## ПАДЗЕЛ III.

### Будова народнага камісарыяту грашовых справау.

**3.** У склад народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР уваходзяць:

а) народны камісар і калегія пры ім;
б) агульнае упраўленьне;
в) бюджэтнае упраўленьне;
г) валютнае упраўленьне;
д) упраўленьне дзяржаўнымі падаткамі;
е) упраўленьне дзяржаўнымі прыбыткамі;
ж) грашова-эканамічнае бюро;
з) грашова-кантрольнае упраўленьне;
і) мяйсцова-грашовае упраўленьне;
к) галоўнае упраўленьне дзяржаўнымі працоўнымі касамі ашчэднасьці;
л) галоўнае упраўленьне дзяржаўнага страхаваньня;
м) дзяржаўны банк;
н) упраўленьне фабрыкамі зарыхтаваньня дзяржаўных знакаў.

## ПАДЗЕЛ IV.

### Прадметы веданьня цэнтральных органаў народнага камісарыяту грашовых справаў.

**4.** Народны камісарыят грашовых справаў па агульнаму упраўленьню ведае разпрацаваньнем пытаньняў, якія не уваходзяць у компетэнцыю іншых упраўленьняў; пытаньнямі агульнага арганізаваньня грашовых установаў і персональнага складу; агульнай перапіскай па справах народнага камісарыяту грашовых справаў; грашовым давольствам; гаспадарчай часткай; аховай установаў народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР.

**5.** Народны камісарыят грашовых справаў па бюджэтнаму упраўленьню ведае разпрацаваньнем усіх пытаньняў і законадаўчых намераў, что тычацца бюджэту Саюзу ССР; агульным кіраваньнем каштарысна-бюджэтнае справы ў союзных рэспубліках; разглядам пытаньняў і проэктаў пастановаў, што тычацца бюджэту ці вымагаюць для свайго зьдзейсьненьня асыгнаваньняў з агульнасаюзных сродкаў; складаньнем бюджэту Саюзу ССР і разасыгнаваньнем крэдытаў.

**6.** Народны камісарыят грашовых справаў па валютнаму упраўленьню ведае пытаньнямі грашовае політыкі і устанаўленьнем манэтнага ўкладу; эмісіяй грашовых знакаў і рэгуляваньнем налічча скарбніцаў у цэнтральных скарбніцовых установах народнага камісарыяту грашовых справаў; загадваньнем грашовымі базамі народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР; пытаньнямі дзяржаўнага крэдыту хатняга і знадворнага; рэгуляваньнем чыннасьці крэдытных установаў; пытаньнямі грашовых разрахункаў з чужаземнымі дзяржавамі; учотам і інкасіраваньнем валютных прыбыткаў; адпускам валюты для пакрыцьця валютнага каштарысу; чэканкай манэты; золаталітнаю і прабірнаю справаю; набыцьцём дарагіх мэталаў; захоўваньнем дзяржаўнага мэталёвага фонду і дзяржаўных каштоўнасьцяў.

Увага. Кантроль і рэгуляваньне чыннасьці камунальных, грамадзянскіх, сельска-гаспадарчых і прыватных крэдытных установаў, а так сама кас ашчэднасьці, утвараецца народным камісарыятам союзных рэспублік водлуг ладу, зацьверджанага Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу ССР, і парадкам, які вызначаецца законадаўчымі органамі союзных рэспублік.

**7.** Народны камісарыят грашовых справаў па упраўленьню дзяржаўнымі падаткамі ведае: кіраваньнем падатковаю справаю на ўсім абшары Саюзу ССР, разпрацаваньнем усіх пытаньняў і законадаўчых намераў у галіне падаткаў і збораў, у асобку, ладу агульных прынцыпаў і крайніх нормаў мяйсцовага падаткаваньня; наглядам за правідловым паступленьнем падаткаў і іх спагнаньнем; разьвязваньнем падатковых прывілеяў па косьвенных падатках і сэпаратных прывілеяў і выняткаў з агульнага парадку водлуг іншых падаткаў; арганізаваньнем, інструктаваньнем і рэвізіяй мяйсцовага падатковага апарату, статыстычным учотам падатковых паступленьняў па Саюзу ССР і кіраваньнем, сумежна з народным камісарыятам харчаваньня, спагнаньнем адзінага сельска-гаспадарчага падатку.

**8.** Народны камісарыят грашовых справаў па упраўленьню дзяржаўнымі прыбыткамі ведае: учотам дзяржаўных сродкаў (грашовых і матар'яльных), пераданых дзяржаўным гаспадарчым прадпрыемствам, а так сама капіталаў, уложаных у крэдытныя і іншыя акцыянэрныя (мяшаныя) таварыствы; учотам дзяржаўнае маемасьці; удзелам у разглядзе грашовых плянаў дзяржаўнае прамысловасьці, гандлю і іншых прадпрыемстваў, у якія уложаны дзяржаўныя капіталы; учотам і рэалізаваньнем дзяржаўных фондаў, якія знаходзяцца ў веданьні камісіі Савету Працы і Абароны па учоту і рэалізаваньню дзяржаўных фондаў; разпрацаваньнем законапроэктаў, правілаў і інструкцыяў, якія рэгулююць паступленьне дзяржаўных прыбыткаў і зваліўшкаў ад дзяржпрадпрыемстваў і іншых маемасьцяў, концэсыяў, акцыянэрных (мяшаных) таварыстваў і ўсіх прыбыткаў непадатковага характару; разпрацаваньнем мерапрыемстваў для узмацненьня паступленьня дзяржпрыбыткаў; разглядам балансаў справаздаўнасьці і праверкай вынікаў чыннасьці дзяржпрадпрыемстваў у межах, паказаных законамі аб трэстах і аб прадпрыемствах, якія прымушаны да публічнай справаздаўнасьці; наглядам за узваротам пазычак, выданых з дзяржаўнае скарбніцы, і за атрыманьнем плацяжоў і процантаў па іх; наглядам за выкананьнем правілаў аб публічнай справаздаўнасьці; кіраваньнем праз народныя камісарыяты грашовых справаў союзных рэспублік мяйсцовых апаратаў па спагнаньню дзяржпрыбыткаў; удзелам і наглядам за эксплёатацыяй дзяржаўнае маемасьці, у асобку, лясной і зямельнай маемасьці (праз народныя камісарыяты грашовых справаў союзных рэспублік і сумежна з народнымі камісарыятамі земляробства памянёных рэспублік).

**9.** Народны камісарыят грашовых справаў па грашова-эканамічнаму бюро ведае разпрацаваньнем пы-

таньняў грашова-эканамічнага становішча Саюзу ССР і, ў асобку, вывучэньнем руху цэн і разпрацаваньнем грашовай статыстыкі; рэдакцыйна-выдавецкай чыннасьцю народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР; складаньнем кругабежных справаздачаў па народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР; падрыхтоўкаю працаўнікоў грашовай справы.

**10.** Народны камісарыят грашовых справаў па грашова-кантрольнаму упраўленьню ведае: устанаўленьнем, водлуг згоды з народным камісарыятам работніцка-сялянскае інспэкцыі, адзінападобных, абавязковых для усіх загадваньнікаў крэдытаў як па дзяржаўнаму, гэтак і па мяйсцовым бюджэтам, формаў грашовага рахункаводзтва і справаздаўнасьці; складаньнем у агульнасаюзным масштабе справаздачаў па выкананьню роспісу дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў, па выкананьню мяйсцовых бюджэтаў, а так сама скарбніцовае справаздачы аб паступіўшых у грашовыя органы Саюзу прыбытках і зробленых выдатках наступнай дакумантовай праверкай грашовай справаздаўнасьці ведамстваў Саюзу ССР і прыняцьцем заходаў да ухіленьня парушэньняў закону і да узьмяшчэньня стратаў Саюзу ССР з прыцягненьнем, у належных выпадках, вінаватых асобаў да матар'яльнай і карачыннай адказнасьці; наглядам за правідловаю пастаноўкаю грашова-рахунковых частак усіх ведамстваў Саюзу ССР.

**11.** Народны камісарыят грашовых справау па праўленьню мяйсцовымі грашыма ведае: разпрацаваньнем проэктаў законадаўчых актаў па мяйсцовых грашох; разпрацаваньнем адміністрацыйных актаў па мяйсцовых грашох у саюзным маштабе; сводкай орыентыровачных (трафначынных) мяйсцовых бюджэтаў і выканаўчых каштарысаў і учотам апошніх у саюзным маштабе; падрыхтоўкай і разпрацаваньнем матар'ялаў па пытаньню наконт раз мяркаваньня між саюзнымі рэспублікамі сродкаў для дапамогі мяйсцовым бюджэтам.

**12.** Народны камісарыят грашовых справаў па галоўнаму упраўленьню дзяржаўнымі працоўнымі касамі ашчэднасьці, дзеля мэты падачы працоўнаму насельніцтву мажлівасьці бязьпечнага і выгаднага захоўваньня грашовых ашчаджэньняў і вольных сродкаў, ведае наглядам і кіраваньнем, арганізаваньнем і накіраваньнем чыннасьці касаў ашчэднасьці на абшары Саюзу ССР і учотам усіх грашовых сродкаў касаў ашчэднасьці; загадвае, водлуг кірункаў народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, вольнымі сродкамі касаў ашчэднасьці; галоўнае упраўленьне дзяржаўнымі працоўнымі касамі ашчэднасьці праводзіць чынасьць на падставе асобнага палажэньня, зацьверджанага Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

**13** Галоўнае кіраўніцтва дзяржаўнага страхаваньня, ў якасьці органа народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР які знаходзіцца на гаспадарчым разрахунку, у асобе кіраўніцтва дзяржаўнага страхаваньня саюзных рэспублік зьдзейсьняе дзяржаўную страховую манаполію на абшары Саюзу ССР і кіруе справаю дзяржаўнага страхаваньня ў саюзных рэспубліках на падставе асобнага палажэньня, зацьверджанага Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

**14.** Дзяржаўны банк дапамагае разьвіцьцю прамысловасьці, сельскае гаспадаркі і таваразвароту крэдытам і іншымі банкаўскімі опэрацыямі; ведае выпускам банкаўскіх білетаў, забясьпечаных золатам, замежнай валютай, лёгка рэалізуемымі таварамі і іншымі актывамі дзяржаўнага банку, рэгуліруе грашовы зварот шляхам концэтрацыі грашовых зваротаў і іншых мерапрыемстваў. Дзяржаўны банк праводзіць чынасьць на падставе асобнага палажэньня, зацьверджанага Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**15.** Упраўленьне фабрыкамі зарыхтаваньня дзяржаўных знакаў ведае выробам на арганізаваных ім фабрыках грашовых знакаў, аблігацыяў дзяржаўных пазык, акцыяў, гэрбавых знакаў і ўсякага роду каштоўных папер, а так сама выкананьнем іншай друкарскай працы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**310.** **Палажэньне аб народным камісарыяце рабоча-сялянскае інспэкцыі Саюзу ССР.**

## ПАДЗЕЛ I.

### Агульныя палажэньні.

На падставе падзелу VIII Аснаўнога Закону (Конституцыі) Саюзу ССР, утвараецца народны камісарыят рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР.

Народны камісарыят рабоча-селянскае інспэкцыі зьяўляецца аснаўным органам савецкае ўлады па ажыцьцяўленьню мерапрыемстваў да палепшаньня дзяржапарату, поўнаму абуладаньню ім і прыстасаваньню яго да задачаў соцыялістычнага будаўніцтва.

У адпаведнасьці з гэтым на народны камісарыят рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР ускладаюцца наступныя задачы.

## ПАДЗЕЛ II.

### Задачы рабоча-селянскае інспэкцыі.

**1.** Практычнае і тэорэтычнае вывучэньне справы кіраваньня; выяўленьне хібаў і дадатнасьцяў дзейнічаючых органаў кіраваньня, ухіленьне першых і замацаваньне апошніх; пастаноўка опытаў і ажыцьцяўленьне практычных мерапрыемстваў па рацыаналізаваньню тэхнікі кіраваньня, справаводзтва і справаздаўнасьці; выпрацаваньне найболып сталых формаў рахункаводзтва, калькуляцыі і складаньня балансаў; выпрацаваньне плянаў з'іначаньня будовы дзяржорганаў як дзеля мэты палепшаньня іх працы, так і дзеля мэты утварэньня нармальных варункаў, якія палегчаць мажлівасьць нагляду з боку дзяржавы.

**2.** Найбольшае пабуджджэньне дзяржаўных, адміністрацыйных і гаспадарчых органаў да палепшаньня іх апаратаў, дапамога ім у гэтых адносінах, учот іх опыту, пагоджаньне і злучэньне прымаемых імі заходаў.

**3.** Агульнае кіраваньне і злучэньне чыннасьці ўсіх установаў, якія займаюцца вывучэньнем навуковай арганізацыі працы і тэхнікі кіраваньня праз іх прадстаўніцкі орган пры рабоча-селянскай інспэкцыі, які

праводзіць чыннасьць на падставе асобнага палажэньня; арганізаваньне, у паасобных выпадках, опытных станцыяў, паказальных установаў і ячэек дапамогі па палепшаньню дзяржапарату, якія маюць дзяржаўнае значэньне.

Увага. Ячэйкі дапамогі па палепшаньню дзяржапарату істнуюць на падставе асобнага наконт іх палажэньня, якое разпрацоўваецца народным камісарыятам рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР і зацьвярджаецца СНК Саюзу ССР.

**4.** Пільнае вывучэньне бюджэту Саюзу ССР, саюзных рэспублік і мяйсцовых, квартальнага і штогоднага орыентыровачнага (трафначыннага), і учот опыту яго выкананьня з пункту погляду яго грашовай рэальнасьці і гаспадарчай мэтазгоднасьці; дача заключэньняў водлуг справаздачаў выкананьня роспісу дзяржаўных выдаткаў і прыбыткаў, якія складаюцца народным камісарыятым грашовых справаў Саюзу ССР і саюзных рэспублік, дасьледаваньне і вывучэньне вытворчых плянаў і іх выкананьня гаспадарчымі органамі, а так сама выпаўненьня пляновых заданьняў адміністрацыйных і культурна-асьветных органаў; праверка чыннасьці ўсіх дзяржаўных і іншых, паказаных у арт. 12 гэтага палажэньня органаў, з пункту погляду дасягнёных сапраўды вынікаў, і сыстэмовае інспэктараваньне іх на падставе матар'ялаў абсьледаваньняў і навуковых довадаў.

**5.** Ацэнка і праверка водлуг істоты працы кіраўнікоў і супрацоўнікаў адміністрацыйных і гаспадарчых органаў Саюзу ССР, дапамога ім у падборы персональнага складу; прыняцьце патрэбных заходаў да практычнай падрыхтоўкі рабочых і селян на адпаведныя кіраўнічыя пасады і дапамога найбольш адданым справе працаўнікам.

**6.** Абсьледаваньне і вывучэньне прычын злачынстваў і безгаспадарнасьці кіраўнікоў і супрацоўнікаў дзяржаўных органаў, змаганьне з лалам подкупаў і хабарніцтва шляхам устанаўленьня агульных з адпаведнымі судовымі і адміністрацыйнымі органамі кірункаў.

**7.** Асабліва-пільнае палепшаньне дзяржапаратаў і гаспадарчых органаў у частцы безпасрэднага дачыненьня іх з насельніцтвам; сыстэмовае і пляновае выкарыстаньне савецкага, партыйнага і профэсыйнага друку дзеля мэты бязлітаснага змаганьня з усімі супрацоўнікамі дзяржорганаў, якія выявілі пагардлівыя адносіны да патрэбаў і запытаньняў рабочых і селян, асабліва няпісьменных і малапісьменных, а так сама да працоўных іншых нацыянальнасьцяў; змаганьне з усякага роду пасадовымі і гаспадарчымі злачынствамі, нядбаласьцю, бюрократызмам і г. д.

**8.** Вывучэньне пастаноўкі рахункаводзтва і справаздаўнасьці ў дзяржаўных і грамадзянскіх органах Саюзу ССР і кіраваньне працаўнікамі ў гэтай галіне. Устанаўленьне мэтадаў працы па бухгальтэрыі, складаньню і праверцы балансаў і калькуляцыі і ажыцьцяўленьне адзінападобных рахунковых адзінак. Утварэньне пры народным камісарыяце рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР кадру адумысловых дзяржаўных бухгальтэраў-экспэртаў.

**9.** Выкананьне паасобных адумысловых заданьняў і даручэньняў вышэйшых заканадаўчых органаў Саюзу ССР, а так сама кантроль і нагляд за пляновым ажыцьцяўленьнем пастановаў і вырашэньняю гэтых органаў, у першую чаргу накіраваных да палепшаньня дзяржапарату.

**10.** Шырокая пастаноўка выдавецка-інфармацыйнае справы, якая высьвятляе пытаньні навуковага арганізаваньня працы, вытворчасьці і кіраваньня, а так сама рэвізыйна-інспэктарскіх дасягненьняў.

**11.** Кіраваньне працаю народных камісарыятаў рабоча-селянскае інспэкцыі саюзных рэспублік па ажыцьцяўленьню ўзложаных на іх заданьвяў.

## ПАДЗЕЛ III.

### Правы рабоча-селянскае інспэкцыі.

Для зьдзейсьненьня гэтых задач рабоча-селянскай інспэкцыі падаюцца наступныя правы:

**12.** Вытварэньне поўных і частковых рэвізійна-інспекцыйных абсьледаваньняў усіх цэнтральных, краiных і мяйсцовых дзяржаўных і грамадзянскіх установаў і і прадпрыемстваў і іх злучэньняў, у тым ліку коопэрацыйных і профэсыйных органаў Саюзу ССР, а так сама акцыянэрных кампаніяў, мяшаных таварыстваў, концэсыйных прадпрыемстваў і уселякіх грамадзянскіх арганізацыяў, якія субсыдыруюцца дзяржаваю ці опэрыруюць з удзелам дзяржаўнага капіталу ці грамадзянскіх збораў і паступленьняў.

Увага. Дзяржаўныя прадпрыемствы, якія знаходзяцца ў арэндзе у прыватных асобаў і арганізацыяў, а так сама і прадпрыемствы, якімі ўладаюць прыватныя асобы, а так сама адданыя ў концэсыі, абсьлядоўваюцца рабоча-селянскай інспэкцыяй у межах істнуючых між імі і дзяржаваю абавязкоўных адносінаў.

**13.** Вымаганьне ад усіх дзяржустановаў і грамадзянскіх арганізацыяў Саюзу ССР вестак, матар'ялаў, дакумэнтаў, актаў, тлумачэньняў, справаздачаў і іншых справак, якія характарызуюць становішча і чыннасьць установаў, прадпрыемстваў і арганізацыяў, а так сама выкліканьне кіраўнікоў і супрацоўнікаў абсьлядуемых органаў як для дачы персональных тлумачэньняў, так і на сумежныя нарады, пасяджэньні і ў падкамісіі для абгавораньня пытаньняў, якія ўзьнікаюць у процэсе гэтых абсьледаваньняў.

**14.** Прапазыцыя ўсім рэвізуемым дзяржустановам, прадпрыемствам і арганізацыям: а) аб ухіленьні устаноўленых хібаў; б) аб правядзеньні адпаведных мерапрыемстваў па рацыяналізаваньні іх апаратаў; в) аб ухіленьні і звальненьні урадовых асобаў за сур'ёзныя недагляды і безгаспадарнасьць; г) аб наладжэньні дысцыплінарных спагнаньняў парадкам і ў межах, паказаных у законе.

Увага. У выпадку нязгоды з прапазыцыямі рабоча-селянскай інспэкцыі, кіраўнікі установаў і прадпрыемстваў, памянёных у арт. 12, павінны неадкладна паведаміць рабоча-селянскай інспэкцыі свае супярэчкі.

**15.** Падача на разгляд цэнтральных і мяйсцовых органаў Саюзу ССР, а так сама цэнтральных органаў саюзных рэспублік конкрэтных прапазыцыяў, выпрацаваных на падставе рэвізійных опытаў, аб упрашчэньні апаратаў кіраваньня, ухіленьня супастаўнасьці і без-

гаспадарнасьці; аб формах пагоджаньня чыннасьці паасобных камісарыятаў і іх органаў на мяйсцох, а так сама аб пераўтварэньні ўсяго ўкладу вядзеньня справы ў тых ці іншых установах ці паасобных частках.

**16.** Арганізаваньне і зацьверджаньне, безпасрэдна ці праз народныя камісарыяты рабоча-селянскае інспэкцыі саюзных рэспублік, палажэньняў наконт органаў рацыаналізаваньня ведамсьцьвенага апарату (пляновыя і арганізацыйныя бюро, опытныя станцыі, ячэйкі дапамогі па палепшаньню апарату); зацьверджаньне формаў пастаяннай публічнай справаздаўнасьці гэтых органаў аб працы і становішчы установы, а так сама адвод кіраўнічага складу гэных органаў.

**17.** Зачыненьне і поўнае ліквідаваньне як ведамсьцьвеных органаў рацыяналізаваньня дзяржапарату Саюзу ССР, так і паасобных навукова-дасьледчых інстытутаў працы, а так сама кантрольных і інспэкцыйных арганізацыяў і груп, у выпадках дрэннай іх працы ці іх складу.

**18.** Склiканьне нарадаў, канфэрэнцыяў і зьездаў па разгляду пытаньняў навуковага арганізаваньня працы, вытворчасьці і тэхнікі кіраваньня, па устанаўленьню мэтадаў гаспадараньня і кіраваньня, парадку учоту і справоздаўнасьці і г. д.; разпрацаваньне пляпаў і праграмаў і правядзеньне, сумежна з органамі асьветы і прафхаўрузамі, падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі працаўнікоў рознай кваліфікацыі па навуковаму арганізаваньню працы, вытворчасьці і кіраўніцкай тэхнікі.

**19.** Права удзелу з дарадчым голасам у камісіях і нарадах, якія арганізоўваюцца вышэйшымі органамі ў асяродку і на мяйсцох, на пасяджэньнях калегіяў наркаматаў, выканкам'аў і іх прэзыдыумаў, на ўселякіх іншых ведамсьцьвеных і паміжведамсьцьвеных нарадах, а так сама і на ўселякіх зьездах, канфэрэнцыях нарадах, разпарадчых пасяджэньнях дзяржаўных установаў, прадпрыемстваў і іх злучэньняў, грамадзянскіх і коопэрацыйных арганізацыяў і г. д.

**20.** Спыненьне вочавідка непраўных загадаў і дзеяў рэвізуемых установаў і урадовых асобаў.

Увага 1. Права спыненьня тых ці іншых загадаў і дзеяў належыць наркаму рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР, наркамам рабоча-селянскае інспэкцыі саюзных рэспублік і загадчыкам краіннымі і губэрскімі (акружнымі) органамі рабоча-селянскае інспэкцыі водлуг належнасьці.

Увага 2. Спыненьне дзеяў і загадаў установаў органамі рабоча-селянскае інспэкцыі, могуць касавацца толькі вышэйшай інстанцыяй рабоча-селянскае інспэкцыі. Спыненьне дзеяў і загадаў установаў, падмацаваныя народным камісарыятам рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР, могуць касавацца толькі ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР.

Увага 3. Паказанае права народнага камісарыяту рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР не пашыраецца на пастановы і загады ЦВК і СНК саюзных рэспублік, наркамаў Саюзу ССР і саюзных рэспублік, мяйсцовых выканкамаў і іх прэзыдыумаў, а так сама на прыгаворы і вырашэньні судовых органаў і загады дасьледчае ўлады і пракуратуры ў межах іх веданьня.

**21.** Узьняцьце ў адміністрацыйным і судовым парадку прасьледаваньняў супроць асобаў за злачынствы і учынкі, выкрытыя ў развою працы рабоча-селянскае інспэкцыі, з прапазацыяй судова-дасьледчым органам і пракуратуры аб вытворчасьці патрэбных дзеяў па далейшаму выкрыцьцю гэтых злачынстваў.

**22.** Прапазыцыя (безпасрэдна ці праз камісарыяты рабоча-селянскай інспэкцыі саюзных рэспублік) установам і прадпрыемствам аб падачы грамадзянскіх ісkaў аб стратах, якія зроблены дзяржаве, а так сама падача гэтых іскаў самастойна.

**23.** Абвешчаньне ў друку народным камісарам ці калегіяй народнага камісарыяту рабоча-селянскай інспэкцыі Саюзу ССР сьпісаў урадовых асобаў, выслаўленых пры рэвізіях у злачынствах, учынках, безгаспадарнасьці і неўважлівасьці да інтарэсаў працоўных, у тых выпадках, калі ад наліччa гэтых акалічнасьцяў не адмаўляюцца кіраўнікі ведамстваў і установаў.

## ПАДЗЕЛ IV.

## Будова народнага камісарыяту рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР.

**24.** Народны камісарыят рабоча-селянскай інспэкцыі Саюзу ССР складаецца з:

А. Народнага камісара і калегіі пры ім;
Б. 4 цэнтральных кіраўніцтваў:
а) опэратыўнага кіраўніцтва;
б) кіраўніцтва па палепшаньню дзяржапарату;
в) кіраўніцтва па рахункаводзтву і справаздаўнасьці і г) агульнага кіраўніцтва.
В. 3 х самастойных аддзелаў:
а) інфармацыйна-выдавецкага аддзелу;
б) юрыдычнага аддзелу і
в) цэнтральнага бюро скаргаў і заяваў.

**25.** Цэнтральнае кіраўніцтва складаецца з наступных інспэкцыяў, сэкцыяў і аддзелаў:

А. Опэратыўнае кіраўніцтва складаецца з 9 інспэкцыяў:
а) прамысловай,
б) гандлёвай,
в) сельска гаспадарчай,
г) грашовай,
д) транспартнай і сувязі,
е) ваенна-марской,
ж) адміністрацыйнай,
т) культурна-асьветнай
і) працы здароўя-социяльнае забясьпекі.

Б. Кіраўніцтва па палепшаньню дзяржапарату складаецца з 2-х сэкцыяў:
а) працы і вытворчасьці,
б) кіраўніцкай тэхнікі.

В. Кіраўніцтва па рахункаводзтву і справаздаўнасьці складаецца з 2 х сэкцыяў:
а) бухгальтэрыі,
б) справаздаўнасьці.

Г. Агульнае кіраўніцтва складаецца з 3-х аддзелаў:
а) агульнага аддзелу з сэкратарыятам,
б) арганізацыйна інструктарскага,
в) гаспадарча грашовага.

## ПАДЗЕЛ V.

### Прадметы веданьня цэнтральных органау народнага камісарыяту рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР.

**26.** На народны камісарыят рабоча-селянскае інспэкцыі па апэратыўнаму кіраўніцтву ўскладаюцца абавязкі кіраваньня ўсей інспэкцыйна-рэвізійнай працай уваходзячых у склад яе інспэкцыяў. Цэнтральныя інспэкцыі праводзяць сваю рэвізійна-інспэкцыйную працу водлуг свайго функцыянальнага паддзелу, маючы галоўным об'ектам сваей чыннасьці працу адпаведных народных камісарыятаў. Дакладнае размяжаваньне компетэнцыяў паасобных цэнтральных інспэкцыяў вызначаецца народным камісарыятам рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР.

**27.** На кіраўніцтва па палепшаньню дзяржапарату ўскладаецца:

Па сэкцыі працы і вытворчасьці: а) выпрацаваньне рацыянальных прыёмаў працоўных процэсаў; б) выпрацаваньне пытаньняў, зьвязаных з рацыяналізаваньнем тэхнікі вытворчасьці, стандарызацыяй, узвышэньнем вытворчасьці працы; в) устанаўленьнем нормаў выпрацоўкі і выпрацаваньне пытаньняў аховы працы.

Па сэкцыі кіраўніцкай тэхнікі: а) выпрацаваньне рацыянальных прыёмаў працы адмініструючых апаратаў дзяржаўных, гаспадарчых і грамадзянскіх установаў і прадпрыемстваў; в) устанаўленьне структуры дзяржапаратаў, штатаў, справаводзтва і г. д. і выпрацаваньне рацыянальных мэтадаў адміністраваньня.

**28.** На кіраўніцтва па рахункаводзтву і справаздаўнасьці ўскладаецца выпрацоўка і устанаўленьне ў савецкіх установах найбольш сталых формаў рахункаводзтва і справаздаўнасьці, калькуляцыі, балансаў і г. д.

**29.** На агульнае кіраўніцтва ўскладаецца:

Па агульнаму аддзелу і сэкратарыяту: а) вядзеньне справаводзтва калегіі народнага камісарыяту рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР; б) падрыхтоўка матар'ялаў па справах, якія ўносяцца народным камісарыятам у вышэйшыя законадаўчыя органы; в) выкананьне адумысловых даручэньняў і заданьняў (не прадгледжаных гэтым палажэньнем; г) перапіска, агульная рэгістратура, экспедыцыя, загадваньне агульным архівам і кніжняй народнага камісарыяту.

Па арганізацыйна-інструктарскаму аддзелу: а) нагляд за выкананьнем усімі органамі рабоча-селянскае інспэкцыі загадаў і заданьняў народнага камісарыяту; сводка і апрацоўка матар'ялаў па пытаньнях аб структуры, формах і мэтодах працы органаў рабоча-селянскае інспэкцыі; б) складаньне агульных справаздачаў і статыстычных довадаў па установах рабоча-селянскае інспэкцыі; в) устанаўленьне штатаў і учот персанальнага складу народнага камісарыяту рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР.

Па гаспадарча-грашоваму аддзелу: а) складаньне каштарысаў, грашаваньне цэнтральных і мяйсцовых установаў народнага камісарыяту рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР; б) кантроль над правідловым выдаткаваньнем імі грашовых і матар'яльных сродкаў; в) абслугоўваньне цэнтральных установаў народнага камісарыяту ў гаспадарчых і тэхнічных адносінах.

**30.** На інфармацыйна-выдавецкі аддзел ускладаецца задача рэдагаваньня, выданьня і распаўсюджаньня кругабежных органаў, а так сама ўсякага роду друкаваных твораў, кніг, часопісяў, брашураў, лістовак, плякатаў і г. д. і інфармаваньне кругабежнага друку наконт чыннасьці органаў рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР.

**31.** На юрыдычны аддзел ускладаецца: а) вывучэньне водлуг матар'ялаў органаў рабоча-селянскае інспэкцыі, а так сама судова-сьледчых і разшукальных органаў, прычын росту і разнвіцьця дзяржаўных, пасадовых і гаспадарчых злачынстваў, выпрацаваньне заходаў змаганьня з імі і, ў зьвязку з гэтым, выпрацаваньне адпаведных мерапрыемстваў; б) дача юрыдычных заключэньняў водлуг усякага роду пытаньняў, узьняцьце ў судова-адміністрацыйным парадку праз калегію народнага камісарыяту рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР прасьледаваньняў за злачынствы, якія выкрываюцца рабоча-селянскай інспэкцыяй у развою яе чыннасьці.

**32.** На бюро скаргаў і заяваў ускладаецца: а) прыём скаргаў і заяваў, якія месьцяць паказаньні на несталасьць дзяржапарату, на пагардлівыя адносіны да патрэбаў працонных, на бюрократызм, маруджаньне і г. д.; б) вытварэньне разсьледаваньцяў водлуг гэтых пытаньняў і вырашэньне іх, згодна з асобным палажэньнем наконт ЦБС і мяйсцовых яго органаў, зацьверджанага ЦВК і СНК Саюзу ССР.

## ПАДЗЕЛ VI.

### Аб народных камісарыятах рабоча-селянскай інспэкцыі саюзных рэспублік і мяйсцовых органах народнага камісарыяту рабоча-селянскай інспэкцыі Саюзу ССР.

**33.** Палажэньні аб народных камісарыятах і мяйсцовых органах рабоча-селянскае інспэкцыі саюзных рэспублік выпрацоўваюцца належнымі народнымі камісарыятамі рабоча-селянскае інспэкцыі на падставе гэтага палажэньня і, пасьля ухваленьня народнага камісарыяту рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР, падаюцца на зацьверджаньне ЦВК і СНК саюзных рэспублік.

**34.** Мяйсцовымі органамі народнага камісарыяту рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР зьяўляюцца:

а) упраўленні упоўнаважных народнага камісарыяту рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР;

б) інспэкцыі Саюзу ССР: ваенна-марская, транспартная і сувязі, якія праводзяць чыннасьць на падставе асобных палажэньняў, што выдаюцца народным камісарыятам рабоча-селянскае інспэкцыі Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 311. Аб Найвышэйшым Судзе Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

### I. Аб утвараньні і компэтэнцыі Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

**1.** На падставе арт. арт. 43—48 Констытуцыі Саюзу ССР, у мэтах зацьверджаньня рэвалюцыйнай законнасьці на тэрыторыі Саюзу ССР, пры Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Саюзу ССР утвараецца Найвышэйшы Суд Саюзу ССР.

**2.** Да компэтэнцыі Найвышэйшага Суду Саюзу ССР адносіцца:

А. У галіне агульнага нагляду па назіраньню за законнасьцю:

а) дача Найвышэйшым Судам саюзных рэспублік кіраўнічых тлумачэньняў і талкаваньняў агульнасаюзнага заканадаўства;

б) дача заключэньняў па вымаганьню Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР аб законнасьці з боку погляду Констытуцыі Саюзу ССР тых або іншых пастановаў Цэнтральных Выканаўчых Камітэтаў і Саветаў Народных Камісараў саюзных рэспублік, а так сама Савету Народных Камісараў Саюзу ССР;

в) падача у Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР аб спыненьні і скасаваньні пастановаў, дзьеў і загадаў цэнтральных органаў і асобных народных камісарыятаў Саюзу ССР, апрача пастановаў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і яго Прэзыдыуму па матывах няўлагоджаньня іх з констытуцыяй, як водлуг прапанаваньня цэнтральных органаў саюзных рэспублік, так і па ініцыатыве самога Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

Б. Па судовому нагляду:

а) разгляданьне і апратастоўваньне перад Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР водлуг падачы пракурора Найвышэйшага Суду Саюзу ССР пастановаў, рашэньняў і прыгавораў Найвышэйшных Судоў саюзных рэспублік, па памеркаваньням пярэчаньня іх агульнасаюзнаму заканадаўству ці паколькі імі зачэпліваюцца інтэресы іншых рэспублік;

б) разгляданьне і скаваньня прыгавораў, рашэньняў і вызначэньняў калегіяў і адумысловых прысутстваў Найвышэйшага Суду і рашэньняў і прыгавораў іншых установаў Саюзу ССР маючых судовыя функцыі (вышэйшая арбітражная камісія і г. д.) па іх няўлагоджанью з агульнасаюзным заканадаўствам;

в) разгляданьне і падача да скасаваньня у Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР незаканамерных загадаў і пастановаў аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага упраўленьня Саюзу ССР.

Увага: Нагляд за заканамернасьцю дзеяў і загадаў дзяржаўных палітычных упраўленьняў саюзных рэспублік належыць пракурорам гэтых рэспублік;

г) кіраваньне чыннасьцю ваенных судовых установаў Саюзу ССР.

В. Па ажыцьцяўленьню судовых функцыяў:

а) разгляданьне справаў пэрсанальнай падсуднасьці сябраў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР;

б) разгляданьне справаў па абвінавачаньню вышэйшых урадовых асобаў Саюзу ССР, у злачынствах па пасадзе;

в) разгляданьне карачынных і грамадзянскіх справаў выключнай важнасьці зачэпліваючых па свайму зьместу інтэрасы двух або некалькіх саюзных рэспублік;

г) развязваньне судовых спрэчак паміж саюзнымі рэспублікамі.

Прыняцьце Найвышэйшым Судом Саюзу ССР да сваей вытворчасьці справаў паказанных у п. „В“ можа мець месьца выключна па асобай кожны раз пастанове Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і яго Прэзыдыуму.

**3.** Пытаньні названыя у папярэднім артыкуле падлягаюць абавязковаму разгляданьню Найвышэйшым Судом Саюзу ССР, калі яны накіраваны на яго загад Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу ССР і яго Прэзыдыумам, цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі саюзных рэспублік, пракурорам Найвышэйшага Суду Саюзу ССР і пракурорамі саюзных рэспублік і аб'яднаным палітычным упраўленьнем.

Пытаньні выходзячыя не ад вышэйпамянёных установаў прыймаюцца Вярхоўным Судом да разгляданьня па асобай кожны раз пастанове і могуць быць падавацца іншымі установамі не інакш, як праз пракурора Найвышэйшага Суду Саюзу ССР або пракурораў саюзных рэспублік.

**4.** Пастановы і вырашэньні Найвышэйшага Суду Саюзу ССР абавязковы дзеля ўсіх судоў і установаў Саюзу ССР і саюзных рэспублік і могуць быць апратаставаны у Презыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР выключна пракурорам найвышэйшаго Суду Саюзу ССР, Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР і цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі саюзных рэспублік.

### II. Аб складзе Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

**5.** Найвышэйшы Суд Саюзу ССР праводзіць чыннасьць у складзе:

а) пленарнага пасяджэньня Найвышэйшага Суду Саюзу ССР;

б) грамадзянска-судовай і карачынна-судовай калегіяў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР;

в) ваенна і ваенна-транспартнай калегіі таго ж Суду.

**6.** Найвышэйшы Суд Саюзу ССР у складзе яго пленарнага пасяджэньня утвараецца з 11-цёх сяброў, у тым ліку старшыні і яго намесьніка, 4-х старшынь найвышэйшых судоў саюзных рэспублік, прадстаўніка аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага упраўленьня Саюзу ССР, і 4-х сябраў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР старшынствуючых на пасяджэньнях яго калегіяў (грамадзянскай, карачыннай, ваеннай і ваенна-транспартнай). Усе сябры Найвышэшага Суду Саюзу па пасадзе, назначаюцца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

Увага: Да утварэньня Найвышэйшага Суду Закаўкаскай Сав. Фэдэрат. Соц. Рэсп. у Найвышэйшы СудСаюзу ССР на правах прадстаўніка ад Закаўкаскай Сав. Фэд. Соц. Рэсп. уваходзіць адзін са старшынь Найвышэйшых Судоў Грузіі, Арменіі і Азэрбейджану па назначэньню Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Закаўкаскай Сав. Фэд. Соц. Рэсп.

7. Заняцьце сябрамі Найвышэйшага Суду Саюзу ССР якіх-небудзь пасадаў у цэнтральных або мясцовых установах Саюзу ССР ці саюзных рэспублік, апрача пасадаў:

а) старшынь і сябраў камісіі заканадаўчых намераў Савету Народных Камісараў Саюзу ССР;

б) старшыні і сябраў арбітражнай камісіі Саюзу ССР і гэткіх жа камісіяў саюзных рэспублік;

в) старшынь найвышэйшых судоў саюзных рэспублік— не дапушчаецца.

## III. Аб пленарных пасяджэньнях Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

8. Да компэтэнцыі пленарнага пасяджэньня Найвышэйшага Суду Саюзу ССР адносіцца:

а) разгляданьне усіх пытаньняў названых у пп. „а“ і „б“ арт. 2-га;

б) назначэньнэ сябраў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР у склад судовых калегіяў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР па карачынных і грамадзянскіх справах;

в) складаньне адумысловых прысутнасьцяў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР дзеля разгляданьня справаў выключнай важнасьці у парадку арт. 48-га Конституцыі Саюзу ССР.

г) складаньне і падача на належны загад каштарысаў і штатаў па утрыманьню Найвышэйшага Суду Саюзу ССР і вырашэньне адміністратыўных і гаспадарчых пытаньняў, якія тычацца Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

9. Найвышэйшы Суд Саюзу ССР, яго пленарныя пасяджэньні і пасяджэньні яго калегіяў і адумысловых прысутнасьцяў дзеюць на падставе наказу, зацьверджаемага Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

10. Пленарныя пасяджэньні Найвышэйшага Суду Саюзу ССР бываюць чарговыя і надзвычайныя.

Скліканьне чарговых пленарных пасяджэньняў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР робіцца згодна наказу Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

Скліканьне экстранных пасяджэньняў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР абавязкова па вымаганьню пракурора Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, пракурора кожнай з саюзных рэспублік, або па вымаганьню ня меньш 3-х сябраў Найвышэшага Суду Саюзу ССР.

11. Дзеля сапраўднасьці пасяджэньняў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР патрэбна ня меньш паловы сябраў Найвышэшага Суду Саюзу ССР.

## IV. Аб судовых пасяджэньнях калегіяў і адумысловых прысутнасьцях Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

12. Склад судовых (карачыннай, і грамадзянскай) калегіяў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР утвараецца пленарнымі пасяджэньнямі Найвышэйшага Суду Саюзу ССР пад старшынством аднаго з сябраў пленарнага пасяджэньня у колькасьці 3-х сябраў.

Адумысловыя прысутнасьці Найвышэйшага Суду Саюзу ССР утвараюцца пленарным пасяджэньнем Найвышэйшага Суду Саюзу ССР кожны раз па асобнай пастанове Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і толькі дзеля разгляданьня асобнай справы, са складу сябраў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, ці яго запасных сябраў у выпадку назначэньня іх Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

13. Пры разгляданьні грамадзянскіх і карачынных справаў судовыя пасяджэньні Найвышэйшага Суду Саюзу ССР кіруюцца належнымі артыкуламі карачынных і грамадзянскіх працэсуальных і матэрыяльных кодэксаў дзеючых на тэрыторыі Саюзу ССР, прычым ужываюць артыкулы кодэксу тэй саюзнай рэспублікі, на абшары якой зроблена разглядаемае злачынства або зьявіліся спрэчныя праваадносіны.

14. Сьледсьцьвеная вытворчасьць па карачынных справах разглядаемых Найвышэйшым Судом Саюзу ССР, робіцца сьледавацелямі па важнейшых справах пры пракурорах саюзных рэспублік, водлуг прапазыцыі пракурора Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, альбо асобымі сьледсьцьвенымі камісіямі, назначаемымі пракурорам Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, калі яны не назначаны непасрэдна Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

## V. Аб ваеннай калегіі Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

15. Ваеная калегія Найвышэйшага Суду Саюзу ССР утвараецца у складзе Старшыні, Намесьніка яго і 4-х сябраў, назначаных Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, з якіх Старшыня ўваходзіць у склад пленарнага пасяджэньня Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

16. На ваенную калегію ускладаецца:

а) непасрэднае кіраўніцтва чыннасьцю ваенных трыбуналаў, дзеючых як у ваенны, гэтак і у мірны час, праз дачы ім кіраўнічых інструкцыяў, выданьня належных наўкольнікаў, назначэньня рэвізіяў і інструктараваньня іх па ўсіх пытаньнях судовай практыкі, з тым, аднак, што ўсе прынцыпіяльнага характару наўкольныя загады падлягаюць абавязковаму абмяркаваньню на пленарным пасяджэньні Найвышэйшага Суду Саюзу ССР;

б) назначэньне і звальненьне старшыні і сябраў ваенных трыбуналаў, прычым назначэньне старшыні і сябраў ваенных трыбуналаў арміяў, акругаў, фронтаў, флётаў, а таксама старшыні трыбуналаў корпусаў робіцца згодна з РВС Саюзу ССР з папераджаючым за-

ключэньнем народнага камісарыяту юстыцыі належнай саюзнай рэспублікі.

Цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублік, абшар акіх сходзіцца з абшарам Ваеннае Акругі, даецца права увадзіць старшыню і сябраў Ваеннага Трыбуналу Акругі у склад Найвышэйшага Суду саюзнай рэспублікі з правам рашучага або дарадчага голасу;

в) арганізацыя новых і ліквідацыя дзеючых Ваенных Трыбуналаў на абшары Саюзу ССР па падачы Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету Саюзу ССР, улагоджанаму з народным камісарыятам юстыцыі належнай рэспублікі;

г) узбуджэньне перад пленарным пасяджэньнем Найвышэйшага Суду Саюзу ССР пытаньняў аб апратаставаньні перад Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР пастановаў пленарных пасяджэньняў найвышэйшых судоў і вызначэньняў іх карачынна-касацыйных калегіяў па прыгаворах ваенных трыбуналаў, калі па погляду ваенай калегіі Найвышэйшага Суду Саюзу ССР гэтыя вызначэньні і пастановы не належаць кірунку карацельнай палітыкі, неабходнай дзеля падтрыманьня дысцыпліны у чырвонай арміі;

д) вынятак, у інтэрасах найбольш поўнага і бесстароньняга разгляданьня, з веданьня асобных ваенных трыбуналаў, асобных справаў, падсудных ім з перадачай іх на разгляданьне іншых ваенных трыбуналаў;

е) разгляданьне справаў выключнай важнасьці прыймаемых ёй да сваей вытворчасьці ня інакш, як па пастанове Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР або пленарнага пасяджэньня Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, а роўна справаў па пэрсанальнай падсуднасьці па асобаму сьпісу, зацьверджанаму Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**17.** У адносінах справаў, разбіраемых ваеннай калегіяй і ваенным трыбуналам дзеюць тыя ж правілы аб ужываньні карачынага і карачынна-працэсуальнага кодэксаў, што і ў адносінах іншых судовых пасяджэньняў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

## VI. Аб Ваенна-транспартнай калегіі Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

**18.** Ваенна-транспартная калегія арганізуецца пад старшынством аднаго з сябраў пленарнага пасяджэньня Найвышэйшага Суду Саюзу ССР і 2-х сябраў, усіх пэрсанальна назначаемых Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР па падачы народнага камісарыяту шляхаў зносін.

Увага: Неабходны лік запасных сябраў ваенна-транстпартнай калегіі дзеля абслугоўваньня выяздных сэсіяў можа быць дадаткова зацьверджаны Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР па падачы народнага камісарыяту шляхаў зносін.

**19.** Ваенна-транстпартнай калегіі Найвышэйшага Суду Саюзу ССР падсудны:

а) справы па абвінавачваньню у злачынствах па пасадзе вышэйшых урадовых асобаў, народнага камісарыяту шляхаў зносін па асобаму сьпісу, зацьверджанаму Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР па падачы народнага камісарыяту шляхаў зносін;

б) справы выключнай важнасьці прыймаемыя ваенна-транспартнымі калегіямі да разгляданьня па асобых пастановах Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і пастановах пленарнага пасяджэньня Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, як па яго ініцыатыве, гэтак і па падачы народнага камісарыяту шляхаў зносін.

**20.** Пры разгляданьні справаў ваенна-транспартная калегія кіруецца кодэксамі, дзеючымі на абшары Саюзу ССР, у тым жа парадку што і рэшта калегіяў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

## VII. Аб пракуроры.

**21.** Пракурор Найвышэйшага Суду Саюзу ССР і яго намесьнік назначаюцца згодна артыкулу 46-га Конституцыі Саюзу ССР Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і знаходзяцца пры Найвышэйшым Судзе Саюзу ССР.

**22.** Пракурор Найвышэйшага Суду Саюзу і яго намесьнік маюць права:

а) у галіне агульнага нагляду за праўнасьцю—прапанаваць на разгляданьне Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і Найвышэйшага Суду Саюзу ССР пытаньні, падлягаючыя компэтэнцыі апошняга і апратастоўваць вырашэньні Найвышэйшага Суду Саюзу ССР і яго калегіяў,—першыя у Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, другія—у пленарныя пасяджэньні Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, прычым прысутнасьць пракурора Найвышэйшага Суду Саюзу ССР ва пасяджэньнях Найвышэйшага Суду Саюзу ССР зьяўляецца абавязковай. У належнасьці з гэтым пракурору Найвышэйшага Суду Саюзу ССР даецца права патрабаваньня неабходных ведаў, довадаў і справак па пытаньнях, падлягаючым абмеркаваньню Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, праз пракурораў належных рэспублік, гэтыя вымаганьні дзеля апошніх абавязковы;

б) у галіне судовага нагляду — патрабаваць падлягаючыя апратэставаньню пастановы, вырашэньні і прыгаворы Найвышэйшых Судоў саюзных рэспублік (на падставе пп. „а“ і „б“ арт. 2-га), разглядаць іх у парадку нагляду і падаваць дзеля далейшага кірунку у пленарныя пасяджэньні Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, а таксама патрабаваць справы з вытворчасьці судовых установаў саюзных рэспублік пасьля прыгавару ці вынясеньня водлуг іх вырашэньня на падставе пункту „Б“, артыкулу 2-га дзеля прагляд іх у парадку нагляду і ў асоба важкіх выпадках прасіць Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР аб прытрыманьні выкананьня прыгавораў і вырашэньняў па гэтых справах аж да разгляданьня іх у парадку нагляду;

в) нагляд за заканамернасьцю дзеяў аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага упраўленьня Саюзу ССР ажыцьцяўляецца пракурорам Найвышэйшага Суду Саюзу ССР на падставе адумысловай пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

23. Пры пракурору Найвышэйшага Суду Саюзу ССР у якасьці яго памоцнікаў знаходзяцца 2 памоцнікі: (адзін па нагляду за аб'яднаным дзяржаўным палітычным упраўленьнем і другі па ваеннай пракуратуры і ваеннай калегіі Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, зацьверджаемыя Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР па падачы пракурора Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, з належным штатам неабходных урадовых асобаў. Звальненьне і назначеньне асобаў ваеннай прокуратуры утвараецца загадам пракурора Найвышэйшага Суду Саюзу ССР па падачы пракурораў належных саюзных рэспублік.

Ажыцьцяўленьне пракурорскіх абавязкаў па справах ваенна-транспартных калегіяў ускладаецца на пракуратуру Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

### VII. Аб штатах і каштарысе Найвышэйшага Суду Саюзу ССР і прокуратуры Найвышэйшага Суду Саюзу ССР.

24. Штаты і каштарыс Няйвышэйшага Суду Саюзу ССР зацьвержаюцца для далейшага накіраваньня на пленарным пасяджэньні, а штаты і каштарыс Прокуратуры Найвышэйшага Суду Саюзу ССР—непасрэдна гэтай апошняй і праводзяцца па саюзнаму бюджэту. Штаты і каштарыс па ваеннай пракуратуры і ваенным трыбуналам уключаюцца у каштарыс ваеннага ведамству і фінансіруюцца гэтым апошнім. Ваенна-транспартная калегія і яе выязныя сэсіі праходзяць па каштарысу Найвышэйшага Суду Саюзу ССР і фінансіруюцца народным камісарыятам шляхаў зносін.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

23 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 272 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 28 лістападу 1923 г.

Главлит № 14596. Тираж 5.000. экз.

Типография „Красный Пролетарий" Издательства „Красная Новь", Пименовская, 1/16.

# ВЫДАНЬНІ ЦВК САЮЗУ ССР

НА РАСЕЙСКАЙ, УКРАІНСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ, ГРУЗІНСКАЙ, АРМЯНСКАЙ і ТЮРКА-ТАТАРСКАЙ МОВАХ.

1. Першы з'езд саветаў Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача *(з дыяграмамі і статыстычнымі дêвадамі).*
2. Пастановы 1 з'езду саветаў Саюзу ССР.
3. I сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы *(разам і асобна).*
4. II сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы *(разам і асобна).*
5. Весьнік рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР *(двухтыднёвік).* *№№ 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9 і 10.*

АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:
МАСКВА—КРЭМЛЬ—ЦВК САЮЗУ ССР.
ТЭЛЕФОНЫ: Крэмль, дадатк. 1-27 і гарад. 19-92.

ПЕРАДПЛАТА ПРЫМАЕЦЦА
ГАЛОЎНАЙ КАНТРАЙ „ВЕСЬНІКУ ЎРАДУ".
МАСКВА, Цьвярская, 48.
(ГАЛОЎНАЯ КАНТОРА „ИЗВЕСТИЙ" ЦВК САЮЗУ ССР і ЎЦВК).